ЛіМ
Літаратура і мастацтва
ISSN 0024-4686
№ 10 (4605) 11 сакавіка 2011 г.

## У нумары:



# Натхняе ўсё…

## Дзень у пачатку сакавіка

**Таццяна ПЕСНЯКЕВІЧ,**
**фота Кастуся Дробава**

**Імя кампазітара Галіны Гарэлавай — заслужанага дзеяча мастацтваў, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі — добра вядомае аматарам акадэмічнай музыкі. Той, хто хоча адчуць прыгажосць быцця, важкасць і непаўторнасць кожнай яго хвіліны, хто хоча зазірнуць у паднябесныя вышыні і паглыбіцца ў патаемныя куточкі ўласнай душы, знойдзе ў яе музыцы выдатнага гіда па кнізе існавання чалавека на гэтай зямлі.**



У сваім творы “Дзень у пачатку лістапада” для Ансамбля салістаў “Класік-Авангард” Галіна Гарэлава імкнулася перадаць музыкай адчуванне восені жыцця, якая прыйшла непрыкметна і разам з ёю адкрылася сумная ісціна: жыццё — гэта тое, што ты бачыш, азірнуўшыся на пражытыя гады.

Днямі, віншуючы Г. Гарэлаву з юбілеем, я ўспомніла гэты твор, і пытанні з’явіліся нібы самі сабой…

**— Як адчувае сябе кампазітар на пачатку вясны, якая для кожнага чалавека атаясамліваецца з абуджэннем жыцця, чаканнем самых светлых падзей? Пра што быў бы твор пад назвай “Дзень у пачатку сакавіка” і ці напісалі б вы яго цяпер увогуле?**

— Калі б я напісала опус пад назвай “Дзень у пачатку сакавіка” (разумеючы, што маецца на ўвазе мой дзень нараджэння), гэта была б сумная музыка. Таму што (асабліва з прыбаўленнем гадоў) кожны юбілей — гэта нагода падвесці вынікі ўласнай працы, іншым словам, учыніць сабе маленькі Страшны суд. Больш за тое, магу сказаць, што такі твор, бадай, я ўжо напісала. Ён да краёў напоўнены тугой па Нязздзейсненым. Памятаеце, у Аляксандра Грына: “Рано или поздно, под старость или в расцвете лет, Несбывшееся зовёт нас… Тогда, очнувшись среди своего мира… всматриваемся мы в жизнь, стараясь разглядеть, не начинает ли сбываться Несбывшееся?.. Между тем, время проходит, и мы плывём мимо высоких, туманных берегов Несбывшегося, толкуя о делах дня…”. Менавіта гэтую цытату я ўзяла эпіграфам да майго новага (дзясятага) інструментальнага канцэрта (гэтым разам для ўдарных інструментаў і струннага аркестра), які пакуль так і застаўся “нязбытным” у сэнсе канцэртнага выканання. Хаця я вельмі ўдзячная аркестру Белтэлерадыёкампаніі і дырыжору Пятру Вандзілоўскаму за тое, што яны выканалі гэты твор у студыі радыё і запісалі яго (эпіграф я на ўсялякі выпадак прадбачліва звяла). Так што мой Канцэрт для ўдарных я магу назваць “Дзень у пачатку сакавіка”.

**— У вашым жыцці былі шчаслівыя моманты: прэм’еры, добрыя водгукі калег, прэсы, уручэнне ўзнагарод, прэмій... Якія хвіліны сталіся для вас самымі запамінальнымі?**

— Мне грэх скардзіцца на лёс, ад якога я атрымала, бадай, нават больш за тое, на што магла разлічваць. Так, было ўсё: і паспяховыя прэм’еры і дыфірамбы ў прэсе, і ўзнагароды, і званні — усё, што так цешыць прагнае аўтарскае славалюбства. І ўсё ж самыя цудоўныя і шчаслівыя моманты звязаны ў мяне з тым часам, калі мой сын быў маленькі і я кожны дзень магла перажываць пачуццё, якое больш ніколі не паўтарылася — бясконцую, пранізлівую пяшчоту.

**— Кажуць, дзеля поспеху аўтара трэба часам крытыкаваць. Як вы ставіцеся да крытыкі?**

— Можна толькі шкадаваць, што ў нашай краіне не існуе інстытута музычнай крытыкі. Няхай нават гэтая крытыка будзе суб’ектыўнай, супярэчлівай — бо, урэшце, нават геніяльная музыка Чайкоўскага неадназначна прымалася знакамітымі крытыкамі яго часу Кашкіным і Ларошам (што прыносіла Пятру Ільічу нямала душэўных пакут). Можна ўспомніць і пэўныя выказванні вялікіх крытыкаў У. Стасава і А. Сярова пра геніяльную оперу Глінкі “Руслан і Людміла”. Безумоўна, крытычныя водгукі карысныя аўтару для яго росту, яго станаўлення (няхай нават ён з імі не згодны і лічыць несправядлівымі). Кафедру музыказнаўства Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі кожны год заканчвае цэлая армія музыказнаўцаў, але яны (за рэдкім выключэннем) **наогул** не бываюць на канцэртах у філармоніі і абсалютна абыякавыя да працэсаў, якія адбываюцца ў сучаснай беларускай музыцы, да яе праблем. Гэта крыўдна і горка. Зрэшты, ёсць Юлія Андрэева (чалавек выдатнай эрудыцыі, мае кампазітарскую адукацыю), якая дазваляе сабе выказвацца даволі вольна, няхай і суб’ектыўна. І гэта ўсё.

**— Некаторыя музыказнаўцы называюць вас прадстаўніцай беларускага неарамантызму. Што такое рамантызм сёння і ці прысутнічае ён у вашым жыцці?**

— Рамантызм сёння, як і заўсёды, — гэта магчымасць прыўзняцца над мітуснёй жыцця і па дарозе на працу бачыць не брудную лужыну (штогод на адным і тым жа месцы), а воблака, якое ў ёй адлюстравалася, ці галінку яблыні, ці палоску світальнага неба. Рамантызм — гэта адчуванне хараства жыццёвых дробязей, рэфлексаў святла на шэрай сцяне суседняга дома і ценю птушкі на ёй, меланхоліі змярканняў, кожнае з якіх у нашым краі не падобнае да папярэдняга — словам, адчуваць усе адценні быцця. Ці — не стамляцца перажываць неверагодны цуд: калі з заскарузлых, скурчаных, замшэлых, чорных і, здаецца, з-за зімы, назаўсёды змярцвелых сукоў яблыні вясной з’яўляюцца спачатку жывыя лісточкі, затым неверагоднай пяшчоты кветкі і, нарэшце, сакавітыя плады. Адкуль? Гэты цуд і ёсць, мне здаецца, тая абсалютная ісціна, якую Творца паказвае нам у гармоніі светабудовы! Але ў нашым жыцці гэтая гармонія, як правіла, пастаянна парушаецца і разбураецца. Вось і мкнешся хаця б аддалена ўзнавіць яе ў творчасці, у музыцы. Таму і з’яўляюцца “Самотная ідылія”, “Дзень у пачатку лістапада”, “Пейзаж з квітнеючай яблыняй”, “Да птушкі, якая ўзлятае”, “Шэрань на званах”, “Шпак над домам званара”, “Дзень мой сливался с печалью вечера…”, “Прощаюсь у края дороги”…

**(Працяг на стар. 10.)**

## Пункціры

Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка падпісаў указ аб узнагароджанні галоўнага рэдактара газеты "Литовский курьер" Валерыя Трацціякова медалём Францыска Скарыны за ўнёсак ва ўмацаванне і развіццё сяброўскіх адносін і супрацоўніцтва паміж сродкамі інфармацыі Беларусі і Літвы.

Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў народную артыстку СССР Ію Савіну і народную артыстку Расіі Алену Якаўлеву з юбілеямі. Кіраўнік нашай дзяржавы пажадаў кожнай з іх творчых поспехаў, адзначыўшы іх унёсак у справу ўмацавання дружбы і культурных сувязей паміж братнімі народамі.

Магчымасць арганізацыі выстаўкі беларускага выяўленчага мастацтва і народных рамёстваў у Аргенціне абмяркоўвалася на сустрэчы беларускіх дыпламатаў з дырэктарам галоўнага ўпраўлення інстытуцыянальных сувязей урада Буэнас-Айрэса Клаўдзія Аўруха. Сустрэча праходзіла ў пасольстве Беларусі ў Аргенціне.

Еўрапейскі саюз распачаў культурную кампанію для беларускіх мастакоў, фатографаў і музыкантаў "Адкрывай Беларусь — адкрывай Еўропу". Гэты сумесны праект Беларусі і пяці краін Еўрасаюза — Германіі, Літвы, Партугаліі, Швецыі і Эстоніі — закліканы пашырыць узаемадзеянне паміж арт-коламі Беларусі і ЕС. Кампанія будзе доўжыцца два гады, у яе межах будзе прадстаўлена творчасць больш як 70 музыкантаў, мастакоў і фатографаў.

Творчая група з чатырох салістаў Беларускага дзяржаўнага харэаграфічнага ансамбля "Харошкі" дасць серыю канцэртаў беларускай народнай музыкі і песні ў гарадах Сардзініі. Ініцыятыва здзяйсняецца ганаровым консульствам Беларусі на Сардзініі пры падтрымцы кіраўніцтва горада Кальяры (сталіца Сардзініі). На першы канцэрт атрымалі запрашэнні ўсе сардзінскія сем'і, якія прымаюць на аздараўленне беларускіх дзяцей.

Дакументальны фільм "Інакіня", зняты на Студыі ў імя святога спавядальніка Іаана Воіна мінскага Свята-Елісавецінскага жаночага манастыра, атрымаў галоўны прыз VI Міжнароднага праваслаўнага кінафестывалю "Встреча" ў Обнінску (Расія). Стужка знятая рэжысёрам Галінай Адамовіч. Яго галоўная гераіня — манахіня Іулія-нія, у свеце — музычны дзеяч Ірына Дзянісава. Спецыяльны прыз "Хрустальны падсвечнік" быў уручаны стваральнікам мастацкай стужкі "Брэсцкая крэпасць".

У Магілёве 14 — 17 сакавіка пройдзе XIV Фестываль польскага кіно. Яго ініцыятарам і арганізатарам выступае Дом Польскі. Праграма фестывалю прысвечана жанчынам, і таму ў ёй дамінуе рамантычнае кіно. Стужкі будуць дэманстравацца штодзённа ў Доме Польскім бясплатна. Напярэдадні цырымоніі адкрыцця мерапрыемства адбудзецца падвядзенне вынікаў абласной віктарыны "Ці ведаеш ты польскае кіно?"

Рэканструкцыю палацапаркавага ансамбля ў Нясвіжы плануецца поўнасцю завяршыць у 2011 годзе. У Нясвіжскім палацы праведзена ўжо ацяпленне і асвятленне, скончаны работы па ўсталяванні кандыцыянераў, зроблена вентыляцыя, назіраецца да завяршэння ўнутраная аддзелка памяшканняў.

Падрыхтавала
**Ірына МАСЛЯНІЦЫНА**

## З нагоды

# Турызм — частка іміджу краіны

**Уладзімір БАЦКАЛЕВІЧ, фота Кастуся Дробава**

**У праекце канцэпцыі сацыяльнага развіцця Саюзнай дзяржавы на 2011 — 2015 гады значная ўвага ўдзяляецца стварэнню "адзінай турыстычнай прасторы як састаўной часткі працэса расійска-беларускага інтэграцыйнага развіцця".**

На думку генеральнага дырэктара кампаніі "Синяя птица Бел" Сяргея Вітаслаўскага, цяпер самы час зрабіць акцэнт па двух напрамках — медыцынскім і аграэкатурыстычным. У Беларусі нямала зроблена для ажыўлення менавіта гэтых сегментаў турыстычнага рынку. На жаль, намаганні гаспадароў сядзіб не скаардынаваны. І задача кампаніі, у тым ліку ў рамках Саюзнай дзяржавы, павялічыць колькасць адпачываючых у беларускіх санаторыях, на сельскіх турыстычных аб'ектах. Зваротны працэс таксама важны — больш беларусаў павінна адпачываць у Расіі.

Турыстычная кампанія "Синяя птица Бел" — філіял аднайменнай расійскай. Яе нядаўна наведаў Дзяржаўны сакратар Саюзнай дзяржавы Павел Барадзін. Ён ухваліў ідэю актывізацыі аграэкатурыстычнага і медыцынскага напрамку.

— Выкананне саюзнай праграмы развіцця турызму, якая хутка будзе прынята, дапаможа зрабіць так, каб расійскія і беларускія туроператары скарысталіся перавагамі выгаднага геаграфічнага становішча нашых краін, — адзначыў Павел Барадзін. — Сёння праз Беларусь ідуць вялізныя таварапатокі. І турысты ў гэтай справе, кажучы фігуральна, таксама адзін з "тавараў", які трэба падхапіць, завабіць, каб пасля прыехалі ў Беларусь яшчэ раз. У вас чысціня, парадак, дысцыпліна, арганізаванасць…



Застаецца дадаць, што пытанні развіцця турызма будуць пастаянна кантралявацца — рэгулярна, два разы на год, на сумесных калегіях міністэрстваў двух краін, якія адказваюць за развіццё гэтага важнага напрамку.

***На здымку: Павел Барадзін падчас наведвання турыстычнай кампаніі "Синяя птица Бел".***

## Вытокі

# Спадчына — па закону

**Ірына ТУЛУПАВА**
**фота Уладзіміра Нікалайчыка**

**Рыхтуюцца папраўкі ў дзеючы закон, і, адпаведна, у заканадаўчыя акты, якія працуюць у сферы аховы спадчыны. Пра гэта паведаміў начальнік упраўлення Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь Ігар Чарняўскі на "круглым стале", прысвечаным пытанням захавання і аднаўлення гісторыка-культурнай спадчыны Беларусі.**

Аблвыканкамы і Мінскі гарадскі выканкам, зацікаўленыя арганізацыі прадставілі ўжо свае прапановы, якія цяпер разглядаюцца сумесна са спецыялістамі Нацыянальнага цэнтра заканадаўчай дзейнасці.

Папраўкі, у прыватнасці, датычаць сферы арганізацыйнай дзейнасці, працы спецыялістаў па ахове спадчыны. Да арганізацыйнага моманту трэба дадаць клопат пра ўзровень кваліфікацыі кадраў, а менавіта навукова-праектных, праектных і вытворчых арганізацый. Сёння з улікам скарачэння ліцэнзаваных відаў дзейнасці, удасканалення тэхнічных нарматыўных актаў практычна любая праектная арганізацыя, любы трэст, ПМК, будаўнічае ўпраўленне маюць права займацца ў тым ліку і рэстаўрацыяй, калі гэта падраздзяленне выйграла тэндэр. Ігар Чарняўскі лічыць, што сістэма была б больш эфектыўнай і калі б вярнуліся да працы інспекцый па ахове спадчыны.

Адказваючы на пытанне карэспандэнта "ЛіМа" пра магчымасць аднаўлення ў Мінску дома, у якім нарадзіўся Максім Багдановіч, Ігар Чарняўскі зазначыў:

— Ёсць намер гэта зрабіць. І архітэктары па замове камерцыйнай структуры прапрацоўваюць пытанне. Але аднавіць яго на гэтым месцы, дзе дом стаяў, немагчыма, бо цяпер гэта праезджая частка дваровай тэрыторыі і тут пракладзены магутны вузел камунікацый. Таму можа быць збудаваны муляж у іншым месцы. Дарэчы, у 1994 годзе праектная дакументацыя была падрыхтавана, і ўжо тады муляж "ставіўся" не на тым месцы, а з невялікім зміяшчэннем у бок Свіслачы. Напярэдадні 120-годдзя Максіма Багдановіча гэта ідэя зноў адрадзілася.



Што да іншых помнікаў, звязаных з імёнамі літаратараў, то для нас актуальная тэма надмагільных помнікаў Янку Купалу і Якубу Коласу ў Мінску на Вайсковых могілках. У наступным годзе будзем святкаваць юбілей, пэўна, і на стан помнікаў трэба звярнуць увагу сумесна Міністэрству культуры і Мінскаму гарвыканкаму. Ужо адбылася папярэдняя размова і знойдзены агульны падыход. Толькі малавата часу: фактычна з красавіка да пачатку чэрвеня, калі сюды будзе прыходзіць шмат людзей, хацелася б, каб работы на надмагіллі былі выкананы.

***На здымку: Ігар Чарняўскі адказвае на пытанні журналістаў.***

## У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

### Прынятыя ў СПБ



**Вадзім Валер'евіч ВАЗНЯСЕНСКІ**
***Пісьменнік-фантаст***

Нарадзіўся 27 лютага 1975 года ў Салігорску Мінскай вобласці. Скончыў Мінскі радыётэхнічны інстытут па спецыяльнасці інжынер электроннай тэхнікі. З'яўляецца слухачом 6-га курса факультэта завочнай адукацыі Акадэміі МУС Рэспублікі Беларусь. Працуе першым намеснікам начальніка Службы аддзела Дэпартамента аховы, маёр міліцыі. Аўтар кніг "Евангелие рукотворных богов" (2010), "Механист" (2011). Спрабуе сябе ў жанры кінасцэнарыя.



**Віталій Канстанцінавіч РАДЗІВОНАЎ**
***Публіцыст***

Нарадзіўся 21 чэрвеня 1946 года ў Ваўкавыску Гродзенскай вобласці. Скончыў кампазітарскае аддзяленне Беларускай кансерваторыі імя А.Луначарскага. 35 гадоў выкладаў у музычных навуковых установах: Гродзенскім і Лідскім музвучылішчах, дзіцячых музычных школах Гродна, Ліды, Ваўкавыска і інш. Заснавальнік Міжнароднага конкурсу маладых кампазітараў імя Ю.В.Семянякі. Апошнія 15 гадоў актыўна прапагандуе класічную музыку, вядзе канцэртную дзейнасць як адміністратар Гродзенскай абласной філармоніі. Член Беларускага саюза кампазітараў.

Аўтар больш як 280 артыкулаў у абласным і рэспубліканскім друку ("Беларуская думка", "ЛіМ", "Культура"), а таксама кнігі "Музыкальная Гродненщина" (2010). Свет пабачылі два зборнікі афарызмаў В. Радзівонава "В цветущих садах любви" (1997) і "Под сенью мудрости" (2010).

## Вектар

# Школа «Маладыя літаратар»

**Ала ДАРАШЭНКА**

У Гомелі была створана і на сённяшні дзень паспяхова працуе школа-студыя "Малады літаратар" на базе Гомельскага Палаца творчасці дзяцей і моладзі. Кіруе школай паэтэса, член Саюза пісьменнікаў Беларусі Ніна Шклярава. Творчыя заняткі праходзяць кожныя чацвер і пятніцу ў Славянскай спецыялізаванай бібліятэцы.

Цяпер у школу ўваходзяць два гурткі: "Малады літаратар" і "Літаратурнае краязнаўства". Праходзяць тут і майстар-класы пісьменнікаў — у чацвер у 17 гадзін у Палацы творчасці. Праводзіць іх паэт Іван Бісеў. Гэта ён заснаваў і аплаціў серыю "АЗ — першая кніга паэта". Былі выдадзены кнігі Іны Спасібінай, Дар'і Дарошкі, Уладзіміра Чарахіна. Мяркуецца стварыць і бібліятэку школы-студыі "Малады літаратар".

Займаюцца ў школе студэнты, ліцэісты, старшакласнікі ва ўзросце ад 15 да 22 гадоў. Яны размеркаваны па секцыях: паэзіі, прозы, перакладу. Многія ўжо сталі пераможцамі шматлікіх конкурсаў, што праводзіцца пры падтрымцы Саюза пісьменнікаў Беларусі і суполкі "Русское общество", якой кіруе Алена Шацько.

## Літабсягі

Ірына МАСЛЯНІЦЫНА,
фота Наталіі Купрэвіч

# Чалавек, які смяяўся

**У галерэі "Лабірынт" Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі адбылося адкрыццё выстаўкі "Патрыярх беларускай сатыры", прымеркаванай да 115-годдзя з дня нараджэння народнага пісьменніка Беларусі Кандрата Крапівы. На выстаўцы былі прадстаўлены кнігі выдатнага сатырыка, дакументы і фотаздымкі.**



— Кандрат Крапіва варты таго, каб паводле яго біяграфіі вывучаць гісторыю нашай краіны, — выказаўся, адкрываючы імпрэзу, дырэктар Нацыянальнай бібліятэкі Раман Матульскі. — Зведаць яму давялося ўсе цяжкасці эпохі, прайсці праз усе войны і ўсе ўзрушэнні XX стагоддзя, выжыць. Але ён не проста выжыў — ён здолеў захаваць галоўнае чалавечае пачуццё — пачуццё гумару, якім шчодра дзяліўся з суайчыннікамі.

Унучка Кандрата Кандратавіча, кандыдат мастацтвазнаўства, прафесар Беларускай акадэміі мастацтваў Алена Атраховіч расказала пра тое, як працаваў над сваімі бессмяротнымі творамі Крапіва. Многія даследчыкі звярталі ўвагу, што чарнавікі пісьменніка амаль не пакрэмзаныя. Гэта таму, што ён запісваў ужо практычна гатовыя, прадуманыя вершаваныя радкі ці абзацы празаічнага тэксту. Прысутным было цікава даведацца пра тое, якое значэнне ў творчасці Кандрата Кандратавіча мела яго п'еса "Брама неўміручасці".

— Задумаў Крапіва твор пра бессмяротнасць, калі пайшла з жыцця яго жонка Алена Канстанцінаўна. Ён сумаваў, і стан гэты расцягнуўся на гады, а давялося яму перажыць жонку ажно на дваццаць сем гадоў. Сем з іх ён паклаў на стварэнне "Брамы". Памятаеце, там ёсць такі эпізод: прафесар Дабрыян адмаўляецца ад неўміручасці, бо разам з ім эліксір не змажа прыняць яго жонка — яна не прыдатная для вечнага жыцця па стане здароўя. Гэтак Крапіва выказвае свой асабісты боль…

Выказваць свой боль, ствараючы камедыю, плакаць смеючыся, смяяцца над тым, што ў іншых выклікае жах, і перамагаць гэтыя жах смехам — такое пад сілу толькі вялікаму чалавеку. Тое, што Кандрат Крапіва быў сапраўды вялікім пісьменнікам, выказаў у сваім выступленні літаратуразнаўца, доктар філалагічных навук Сцяпан Лаўшук.

— Каб у XX стагоддзі беларуская літаратура мела нават толькі аднаго пісьменніка, Кандрата Крапіву, — прамовіў ён, — ужо і гэтага было б дастаткова, каб мы лічыліся еўрапейскай літаратурнай нацыяй.

***На здымку: у імпрэзе прынялі ўдзел вядомыя літаратары і навукоўцы: Аляксей Дудараў, Навум Гальпяровіч, Юлія Зарэцкая, Алена Атраховіч, Сцяпан Лаўшук. Вядучая — супрацоўнік Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры Вольга Гулева.***

## З-пад пяра

У Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа адбыўся чарговы вечар з цыкла "Нашчадкі славутых людзей". На гэты раз госці былі запрошаны на сустрэчу з дочкамі народнага пісьменніка Беларусі Івана Шамякіна, Таццянай і Алесяй, а таксама з яго ўнучкай Славянай. Прысутныя пачулі цёплы аповед пра каханне пісьменніка да жонкі і паплечніцы сваёй, Марыі Філатаўны. Пісьменнікі Алесь Савіцкі і Генрых Далідовіч засведчылі незвычайную гарманічнасць узаемаадносін у сям'і Івана Шамякіна. Сваім асабістым жыццём ён даказаў: шчаслівыя сем'і — гэта не пісьменніцкая прыдумка. Яны існуюць, і жыць у шчасці і любові варты кожны з нас.

**Ірына АЛЯКСАНДРАВА**

У прэс-цэнтры Дома прэсы святочны сакавіцкі дзень быў адзначаны правядзеннем "круглага стала" "У жанчыне прырода ўсе тайны хавае". На сустрэчу з журналістамі прыйшлі знакамітыя жанчыны краіны — намеснік міністра працы і сацыяльнай абароны насельніцтва Рэспублікі Беларусь Валянціна Каралёва, дырэктар выдавецтва "Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі" Таццяна Бялова, рэжысёр кінастудыі "Беларусьфільм" Алена Турава, старшыня Дабрачыннага фонду "Прикосновение к жизни" Ларыса Івашкевіч, дацэнт кафедры мастацтва эстрады БДУКіМ Дзіна Тыцюк, першы намеснік старшыні Рэспубліканскага аб'яднання "Беларускае добраахвотнае пажарнае таварыства" Марыя Пячура, шматдзетная маці Аліна Гесць. Падарункі і кветкі, шчымлівыя жаночыя гісторыі — усяго хапіла на гэтай святочнай сустрэчы, арганізаванай прадпрыемствам "Дом прэсы" на чале з дырэктарам Віталем Назаранкам.

**Сяргей ШЫЧКО**

У горадзе Беразіно прайшла духоўна-асветніцкая выстаўка-кірмаш, арганізаваная Выдавецтвам Беларускага Экзархата. На працягу тыдня жыхары горада мелі магчымасць набыць прадукцыю праваслаўных майстэрняў, азнаёміцца з навінкамі выдавецтва, стаць духоўна багацейшымі. Усе мерапрыемствы праходзілі ў рамках праграмы "Сям'я. Яднанне. Айчына". Апошні дзень кірмашу супаў с Даравальнай нядзеляй і пачаткам Вялікага посту. У актавай зале мясцовага дома культуры Выдавецтвам Беларускага Экзархата быў падрыхтаваны канцэрт, у праграму якога ўваходзіла ўзнагароджанне прадстаўнікоў мясцовых органаў кіраўніцтва і святароў храмаў Беразіно і Бярэзінскага раёна ганаровымі граматамі за актыўную дапамогу ў духоўна-асветніцкай дзейнасці.

**Вера АФІЦЭРАВА**

У сталічным Доме дружбы адбылася прэзентацыя публікацыі беларускага гераічнага эпасу "Радзівіліяда" Яна Радвана (1592). Гэты аб'ёмісты твор — 3302 радкі гекзаметра — у перакладзе з лацінскай будзе публікавацца на старонках часопіса "Маладосць" на працягу года. Перакладчык "Радзівіліяды", вядомая даследчыца-медыявіст Жанна Некрашэвіч-Кароткая, распавяла пра сваю шматгадовую працу па вяртанні ў нашую культуру іншамоўнай літаратуры Беларусі. Раіса Баравікова, галоўны рэдактар "Маладосці", падкрэсліла, што пабеларуску "Радзівіліяда" друкуецца ўпершыню. Вядучы вечара Анатоль Бутэвіч прадставіў гледачам калектыў сярэдневечнай музыкі "Brevis".

**Віка ТРЭНАС**

Саюз пісьменнікаў Беларусі глыбока смуткуе з прычыны смерці заслужанага дзеяча мастацтваў Расійскай Федэрацыі Валерыя Давідавіча РУБІНЧЫКА і выказвае шчырыя спачуванні яго блізкім і родным.

## Артлінія

Віктар КАВАЛЁЎ,
фота аўтара

# У адмысловым антуражы

**"Гульня ў коткі" — такая назва выстаўкі жывапісу Таццяны Гардашнікавай, якую адкрылі пры канцы лютага ў малой зале Музея сучаснага выяўленчага мастацтва. Дырэктар музея Наталля Шаранговіч зазначыла, што ў сцюдзёны зімовы дзень адкрываецца амаль вясенняя экспазіцыя, бо вобраз ката заўсёды выклікае адчуванне не проста замілаванасці, а цеплыні і хатняй утульнасці. Тым больш гэта выдатны падарунак нашым жанчынам напярэдадні 8 сакавіка (выстаўка працуе да 13 сакавіка).**



Таццяна Гардашнікава — член беларускіх саюзаў мастакоў і дызайнераў, рэгулярна бярэ ўдзел у рэспубліканскіх і міжнародных выстаўках, працуе ў жывапісе, плакаце і кніжнай ілюстрацыі. Яна неаднаразова ўзнагароджвалася дыпломамі конкурсаў "Мастацтва кнігі", таксама мае ўзнагароды па выніках конкурсаў плаката, якія праходзілі ў Літве, Расіі, Японіі.

З адкрыццём персанальнай выстаўкі Таццяну Васільеўну віншавалі яе сябры і калегі, сярод якіх старшыня Беларускага саюза дызайнераў Дзмітрый Сурскі і Уладзімір Голубеў — яго намеснік, дацэнт кафедры дызайну БДУ. Уладзімір Голубеў акрэсліў назву экспазіцыі як вельмі ёмістай і нават культуралагічнай, бо сам па сабе прынцып гульні — гэта тое, што адрозніваe чалавека ад жывёл. З гэтым выказваннем можна і не пагадзіцца, таму што ўсім вядома, як каты і асабліва кацяняты любяць гуляць: з мячыкамі, скамечанай паперчынай, спецыяльнымі цацкамі, тэлефонным провадам і нават са сваім хвастом.

Часцяком каты і коткі выступалі літаратурнымі персанажамі: "Котка, якая гуляла сама па сабе" Р. Кіплінга, "Кот у ботах" Ш. Перо, "Жыццёвыя гледжанні ката Мура" Э. Т. А. Гофмана, "Чорны кот" Э. По, знакаміты Чашырскі кот з "Алісы ў Краіне Цудаў" Л. Кэрала, героямі мультфільмаў: "Кацяня па імені Гаў", "Том і Джэры", "Трое з Прастаквашына", "Кот Леапольд"… А яшчэ паводле твора "Практычнае кіраўніцтва Старога Апосума аб котках" Т. Эліёта Э. Л. Уэбер стварыў знакаміты брадвейскі мюзікл "Коткі".

Выстаўка складаецца з 25 работ, якія адлюстроўваюць аўтарскае ўспрыманне сутнасці гэтых мілых і пухнатых жывёл. Т. Гардашнікава не проста напісала вывы катоў, а надала ім чалавечыя якасці, эмоцыі, рысы твараў і пастаў, змясціла іх у не зусім звыклае для іх асяроддзе: карціны "Восеньскі настрой", "Аркестр", "Любімы конік". Таксама кожны наведвальнік беспамылкова пазнае на работах некаторых вядомых палітычных дзеячаў, акцёраў і поп-зорак з адмысловымі назвамі: "Таварыш Мяо", "Мурлен", "Мурчэла", "Муррылін", "Дэмі Мурр". Тонка прыкмечаныя мастачкай нюансы натуры чалавека і майстэрскае іх увасабленне ў работах дазваляюць гледачу ад сузірання праз перажыванне і мілаванне адкрыць самога сябе.

## Повязі

Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА,
фота аўтара

# Пераклад яднае культуры

**У мінскай бібліятэцы № 5 адбылася сустрэча чытачоў з Ірынай Качатковай. Пісьменніца, перакладчыца, літаратурны крытык, рэдактар — вось няпоўны пералік граняў яе творчай асобы.**



Ва ўмовах, калі быў парушаны гадамі адпрацаваны працэс узаемавывучэння літаратур розных народаў, па-за ўвагай аб'ёмных літаратурных маскоўскіх часопісаў, культавых для СССР, засталася літаратура былых савецкіх рэспублік. Апошнім часам звесткі пра літаратурнае жыццё бліжэйшых суседзяў — Беларусі і Украіны — на старонках расійскіх выданняў з'яўляюцца, але больш аддаленыя краіны зніклі з поля зроку чытача. Беларусь з поўным правам можа пахваліцца — на яе літаратурнай карце белых плям куды менш. Дзякуючы намаганням выдаўцоў і перакладчыкаў, у ліку якіх Ірына Львоўна, кругагляд чытача не звузіўся. Як падкрэсліў старшыня Мінскага гарадскога аддзялення СПБ Міхась Пазнякоў, пераклад — справа вельмі цікавая, але складаная і адказная, патрабуе ўвагі і засяроджанасці, грамадзянскай сталасці і мужнасці. За час шматгадовай працы ў літаратуры І. Качатковай давялося перакладаць розных аўтараў — як беларускіх, так і замежных, у тым ліку знакамітых палітыкаў. Яе пераклады не толькі наблізілі да беларускага чытача творы Нурсултана Назарбаева, Аскара Акаева, Майрам Акаевай, Ато Хамдама, Станіслава Куняева, але і адчынілі рускамоўнаму чытачу сусвет сучаснай беларускай літаратуры: раманы Георгія Марчука, аповесці Алеся Камароўскага, казкі Раісы Баравіковай, проза Алеся Петрашкевіча і Леаніда Левановіча, нарысы Людмілы Сіньковай засталіся ў агульным літаратурным кантэксце ў перакладзе на мову братняга народа. Вядомы беларускі фалькларыст, кандыдат гістарычных навук Кастусь Цвірка высока адзначыў працу Ірыны Львоўны як рэдактара, які цягам сваёй шматгадовай працы меў дачыненне да складаных кніжных выданняў, а таксама падкрэсліў яе ролю як пісьменніцы, чые творчыя інтарэсы звязаны менавіта з Мінскам, чые перакладныя і арыгінальныя творы, крытычныя артыкулы ўбачылі свет у часопісах "Полымя", "Нёман", "Качели", "Крыніца", газетах "Літаратура і мастацтва", "Культура", "Минский курьер", "Народная газета".

Паглыбленне ў рэаліі і культурны кантэкст далёкіх і такіх непадобных на Беларусь краін далі моцны штуршок творчасці — прысутныя ацанілі алегарычныя творы Ірыны Качатковай. Запомнілася ўдзельнікам сустрэчы і апавяданне-ўспамін Ірыны Львоўны ў выкананні пісьменніцы Наталлі Касцючэнкі пра нашу сталіцу тых часоў, калі ў Мінску яшчэ адчувалася рэха вайны. На заканчэнне імпрэзы Ірыны Качатковай, унучкі слыннага паэта Аркадзя Моркаўкі, прагучалі яго вершы, пранізлівая нота лірычных твораў не пакінула абыякавымі слухачоў.

***На здымку: Ірына Качаткова прадстаўляе кнігі, якія перакладала.***

# У сяброўстве з багіняй Кліа

**У багатым шэрагу імён сучасных беларускіх навукоўцаў, так сказаць, вышэйшага эшалона годнае месца займае і імя акадэміка-сакратара Аддзялення гуманітарных навук Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, доктара гістарычных навук, прафесара Аляксандра Кавалені. Пра Аляксандра Аляксандравіча як душэўнага, сумленнага і вельмі абаяльнага чалавека, пра ягоны жыццёвы і творчы шлях можна расказваць і пісаць шмат.**


Фота Кастуся Дробава

Алесь МАРЦІНОВІЧ

Вельмі плённай з'яўляецца яго штодзённая работа. Самому Аляксандру Аляксандравічу вельмі блізкае меркаванне Антона Паўлавіча Чэхава: "Прызванне кожнага чалавека ў духоўнай дзейнасці — у пастаянным пошуку праўды і сэнсу жыцця". Гэта для яго як свайго роду праграма на кожны дзень.

Ён ніколі не збіраўся шукаць лёгкіх шляхоў. Таму пасля заканчэння дзевяці класаў у 1962 годзе паступіў у Мінскае прафесійна-тэхнічнае вучылішча № 23. Адначасова наведваў заняткі і ў школе рабочай моладзі, дзе, як і ў вучылішчы, паказваў толькі выдатныя веды. І як вынік у 1964 годзе атрымаў дыплом з адзнакай аб заканчэнні вучылішча і атэстат аб сярэдняй адукацыі.

Пасля гэтага таксама палёгкі сабе не даваў. Працуючы на будоўлі, знаходзіў час і для заняткаў у Мінскім аэраклубе і радыёшколе. Калі праз год прызвалі ў армію, то накіравалі ў элітныя дэсантныя войскі. Пасля звальнення ў запас зноў працаваў на будоўлі. Але, паколькі марыў атрымаць вышэйшую адукацыю, у вольны час шмат чытаў. Дый, каб пашырыць кругагляд, вандраваў нямала. Гэта і дапамагло канчаткова вызначыцца з будучай прафесіяй: у 1970 годзе паступіў на гісторыка-геаграфічны факультэт Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя М. Горкага.

Не толькі старанна вучыўся, але і займаўся актыўнай грамадскай дзейнасцю. Неаднаразова выбіраўся старшынёй прафсаюзнага бюро факультэта, а з 1974 года ўзначаліў прафсаюзны камітэт інстытута. Шмат увагі ўдзяляў стварэнню належных умоў для вучобы і адпачынку студэнтаў, развіццю спартыўна-масавай і аздараўленчай работы. Па гэтым паказчыку дзякуючы і няўрымслівасці А. Кавалені Мінскі дзяржаўны педагагічны інстытут імя М. Горкага на працягу шэрагу гадоў быў на лепшым рахунку не толькі ў рэспубліцы, а і сярод звыш 200 аналагічных навучальных устаноў СССР. На пасадзе старшыні прафкама А. Каваленя працаваў да залічэння ў 1979 годзе ў аспірантуру, якую скончыў у 1982 годзе з паспяховай абаронай кандыдацкай дысертацыі.

Са снежня 1982 года працаваў асістэнтам кафедры гісторыі КПСС Мінскага педінстытута, затым стаў старшым выкладчыкам, а ў маі 1987 года быў выбраны дацэнтам кафедры. З 1983 па 1991 год з'яўляўся членам Рэспубліканскага каардынацыйнага савета па распрацоўцы праблем гісторыі Вялікай Айчыннай вайны.

У 1995 годзе, у падтрымку рашэння кафедры, яго залічылі ў дактарантуру. Але неўзабаве адклікалі з вучобы і выбралі загадчыкам кафедры айчыннай і сусветнай гісторыі. Гэта, як вядома, быў складанейшы перыяд у дзейнасці ўсёй сістэмы вышэйшай адукацыі. Таму А. Каваленю па сутнасці давялося не толькі фарміраваць навукова-педагагічны калектыў, але і вызначаць навукова-метадычны напрамак дзейнасці кафедры. Толькі дзякуючы высокаму навуковаму і творчаму патэнцыялу і майстэрству выкладчыкаў удалося ў сціслы тэрмін выпрацаваць навукова абгрунтаваны кірунак вучэбна-педагагічнага курса, сфармуляваць прынцыпы дзейнасці кафедры.

Пад кіраўніцтвам А. Кавалені была распрацавана канцэпцыя гістарычнай адукацыі студэнтаў негістарычных спецыяльнасцей, падрыхтавана праграма курса "Гісторыя Беларусі ў кантэксце сусветнай цывілізацыі". У вучэбны працэс укараніліся якасна новыя, напоўненыя сучаснымі навукова-метадычнымі падыходамі і патрэбамі грамадска-палітычнага жыцця незалежнай Рэспублікі Беларусь спецкурсы: "Гісторыя маладзёжнага руху", "Маладзёжны рух на акупіраванай тэрыторыі Беларусі ў гады Вялікай Айчыннай вайны", "Вялікая Айчынная вайна савецкага народа ў кантэксце Другой сусветнай вайны" і іншыя.

Калектыў кафедры распрацаваў вельмі важную, а ўлічваючы сённяшнія рэаліі, і вельмі актуальную тэму: "Беларусь у сусветным гістарычным працэсе". Гэта дазволіла за кароткі час стварыць грунтоўны навуковы падмурак і наладзіць падрыхтоўку шэрагу метадычных дапаможнікаў, якія сталі трывалай асновай дзеля арганізацыі вучэбна-выхаваўчага працэсу на 14 факультэтах універсітэта.

Актыўна распрацоўваліся заданні Дзяржаўнай праграмы фундаментальных даследаванняў нацыянальнай гісторыі Беларусі "Акупацыйны рэжым на Беларусі ў ваенныя гады: гісторыка-параўнальны аналіз (1915 — 1921 гг.), (1941 — 1944 гг.)", зацверджанай пастановай Прэзідыума НАН Беларусі. На кафедры выконваўся шэраг цікавых даследаванняў, звязаных з вывучэннем дэмаграфічнай сітуацыі ў рэспубліцы напярэдадні і ў гады Вялікай Айчыннай вайны, быў выдадзены шэраг зборнікаў навуковых прац.

Пачаткам асабістага глыбокага асэнсавання А. Каваленем складаных праблем нядаўняга мінулага ў суаднясенні іх з днём сённяшнім стала яго першая манаграфія "Беларусь у гады Другой сусветнай вайны (1939 — 1945)", станоўча ацэненая ў навуковых колах і адзначаная Другой прэміяй з прысуджэннем Дыплома лаўрэата БДПУ імя Максіма Танка за 1997 год. Гэтая тэма ў самых розных аспектах, прынамсі, даследавання праблем патрыятычнага руху беларускай моладзі ў барацьбе супраць германскіх акупантаў, стала ў ягонай навуковай дзейнасці вызначальнай. Дарэчы, падобны кірунак даследавання ён узяў адным з першых не толькі ў айчыннай, а і ў замежнай гістарыяграфіі.

Новы кірунак у гістарычнай навуцы – асэнсаванне маладзёжнай палітыкі нацысцкай Германіі на акупіраваных тэрыторыях краін Еўропы ў 1939 — 1945 гадах — адкрыла манаграфія А. Кавалені "Прагерманскія саюзы моладзі на Беларусі. 1941 — 1944. Вытокі. Структура. Дзейнасць". Праца, у прыватнасці, вызначаецца смелым увядзеннем у навуковы ўжытак новых дакументаў, падачы іх без купюр і скарачэнняў, што лішні раз сведчыць пра высокую аб'ектыўнасць. Гэта ж тычыцца і манаграфічнага даследавання "Беларусь. 1939 — 1945: Война и политика".

Вялікі ўклад А. Каваленя зрабіў у стварэнне праграмы вучэбна-метадычнага комплексу "Вялікая Айчынная вайна савецкага народа (у кантэксце Другой сусветнай вайны)" для вучняў і студэнтаў ВНУ. Як вядома, у сувязі з 60-годдзем вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнка прыняў у 2003 годзе рашэнне ўвесці для вучняў старэйшых класаў факультатыў, а для студэнтаў ВНУ аналагічны спецкурс, а таксама распрацаваць праграму і падручнікі. Рашэннем Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь тэрмінова быў створаны навуковы калектыў на чале з А. Каваленем.

Аналагаў падобнага падручніка не мелася ні ў былым СССР, ні ў СНД, ні ў краінах Еўропы. Толькі дзякуючы высокай кваліфікацыі А. Кавалені, яго вялікім арганізатарскім здольнасцям і ўмеламу навукова-метадычнаму кіраўніцтву ўдалося ў даволі сціслы перыяд справіцца з пастаўленай задачай.

Працуючы з кастрычніка 2004 года дырэктарам Інстытута гісторыі Нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі, А. Каваленя зарэкамендаваў сябе і выдатным арганізатарам гістарычнай навукі, а калі глядзець шырэй, то і ўвогуле навук гуманітарных. Таму 5 лютага 2009 года і быў прызначаны Акадэмікам-сакратаром Аддзялення гуманітарных навук і мастацтваў. З першага кастрычніка 2010 года перайшоў на пастаянную працу акадэмікам-сакратаром Аддзялення гуманітарных навук і мастацтваў.

Інстытутам гісторыі за час дырэктарства А. Кавалені зроблена надзіва шмат. У тым ліку і ў рамках Дзяржаўнай комплекснай праграмы навуковых даследаванняў "Гісторыя беларускай нацыі, дзяржаўнасці і культуры" на 2006 — 2010 гады, кіраўніком якой ён быў прызначаны Прэзідыумам НАН Беларусі ў 2006 годзе. Выканаўцамі яе з'яўляліся не толькі навукоўцы Інстытута гісторыі, але і даследчыкі Інстытута мастацтвазнаўства, прадстаўнікі вядучых кафедраў ВНУ краіны. Усяго было задзейнічана каля чатырохсот навукоўцаў. Сумеснымі намаганнямі праведзена велізарная праца па вывучэнні гісторыка-культурнай спадчыны Беларусі.

Асабліва актыўна разгортвалася праца па напісанні грунтоўных манаграфічных даследаванняў і арганізацыі навуковых канферэнцый, сімпозіумаў, "круглых сталоў", брыфінгаў. За апошнія гады іх было арганізавана каля сотні, прычым не толькі ў Мінску і абласных гарадах, а і ў раённых цэнтрах, нават вёсках. У гэтых мерапрыемствах актыўны ўдзел прымалі не толькі айчынныя і замежныя даследчыкі, але і шырокія колы мясцовай інтэлігенцыі.

Нават не верыцца, што А. Каваленю ўжо 65 гадоў. Ён па-спартыўнаму падцягнуты, пастаянна ў добрым настроі. Аптыміст і жыццялюб, Аляксандр Аляксандравіч і іншых зараджае гэтай сваёй няўрымслівасцю, бадзёрасцю, светлым поглядам на свет і людзей. З такімі людзьмі, як А. Каваленя, ніколі не бывае сумна. Яны, прыцягваючы да сябе, а разам з тым валодаючы вялікай энергіяй, перадаюць суразмоўцам такую сілу, што нават тыя, хто ў мінуты роспачы ці няўдачы гатовы быў апусціць рукі, напаўняюцца новымі планамі, задумамі.

У гэтым неаднойчы ўпэўніваешся, калі сустракаешся з А. Каваленем. З якім бы настроем да яго ні зайшоў, абавязкова адыходзіш з настроем цудоўным. Хоць, па праўдзе кажучы, і развітвацца асабліва не хочацца. Бо ледзь не на парозе ўжо ён абавязкова скажа нешта такое, што не можа не зацікавіць, прымусіць прыпыніцца. Адразу адчуваецца, што энергія ў яго б'е, як кажуць, праз край. Што ж, гэтаму застаецца толькі па-добраму пазайздросціць. Дый лішні раз парадавацца таму, што ёсць у наш час такія людзі, якія аптымізмам сваім, высокім прафесіяналізмам, апантанасцю ў працы паказваюць прыклад, як трэба жыць. І, безумоўна, прыклад у тым, як трэба працаваць.

# Па яго кнізе вучацца хірургі

**Лёс падараваў мне сустрэчу са знакамітым вучоным, доктарам медыцынскіх навук, прафесарам, загадчыкам хірургічнага аддзялення Рэспубліканскага клінічнага медыцынскага цэнтра Кіраўніцтва справамі Прэзідэнта Беларусі Сяргеем Сцяпанавічам Сцебуновым.**

Алена ВІЛЬЧЫНСКАЯ

У гэтым хірургічным аддзяленні працуюць добрасумленныя і міласэрныя людзі: урачы, медсёстры, санітаркі, у калектыве пануюць дабрыня і спакой. Тут выконваюцца самыя складаныя аперацыі з прымяненнем сучасных тэхналогій, у тым ліку лапараскапічныя, пластычныя.

— Аперацыя за аперацыяй, цяжкія хворыя. Радасць удач і вялікі боль ад таго, што кагосьці не змаглі вылечыць. Дарыць жыццё і здароўе людзям, якія трапілі ў бяду, — гэта шчасце для любога доктара, — гаворыць Сяргей Сцяпанавіч. — Гэты боль я адчуваю доўга.

Пазіраю на доктара — і разумею яго настрой.

Сяргей Сцяпанавіч крыху супакойваецца, калі ў аддзяленні ўсё ладзіцца, калі хворыя атрымліваюць належную медыцынскую дапамогу. І тады доктар часцей усміхаецца, у яго вачах пачынаюць гуляць іскрынкі-агеньчыкі. Можна любавацца яго пастаццю і хадою: перад вамі высокі, стройны, хударлявы чалавек, які хутчэй нагадвае артыста балета ці спартсмена. Але галоўнае — яго прафесійны талент.

Нарадзіўся Сяргей Сцяпанавіч у вёсцы Машавое Касцюковіцкага раёна. Маці, Таццяна Васільеўна, настаўнічала. Бацька, Сцяпан Фядосавіч, працаваў старшынёй перадавога калгаса "Праўда", пакуль яго не перавялі ў горад на пасаду дырэктара Касцюковіцкага льнозавода.

Сяргей скончыў школу з залатым медалём, марыў стаць вайскоўцам. Яго нават запрашалі ў Маскву ў вучылішча Крамлёўскіх курсантаў. Але не прайшоў медкамісію. Паступіў у Віцебскі медыцынскі інстытут. Скончыў яго з чырвоным дыпломам, застаўся працаваць у Віцебску. Праз два гады абараніў кандыдацкую дысертацыю, і яго запрасілі на кафедру хірургічных хвароб Віцебскага мединстытута. А праз сем гадоў перавялі працаваць у Мінск на адказную пасаду намесніка галоўнага ўрача лечкамісіі.

Але больш цікавіла практыка, і цяпер ён загадвае хірургічным аддзяленнем. Нягледзячы на тое, што яму прапануюць розныя пасады, Сяргей Сцяпанавіч застаецца верным сабе. Ён вельмі патрэбны людзям сваёй шчырасцю і ведамі.

Доктарскую дысертацыю абараніў у 2002 годзе, калі было толькі 36 гадоў.

Цяпер доктар Сцебуноў — знаны вучоны. Часта бывае ў камандзіроўках у Маскве, Польшчы, Германіі, Балгарыі, Ірландыі, Прыбалтыцы, ЗША, Турцыі і іншых краінах. Усюды не толькі пераймае вопыт, але і дзеліцца сваім. Ён стаяў ля вытокаў айчыннай лапараскапічнай хірургіі. Па кнізе доктара Сцебунова вучацца ўрачы гэтай спецыяльнасці. Усяго Сяргей Сцяпанавіч у свае 44 гады выканаў больш як 5 тысяч аперацый.

З маладым беларускім вучоным Сцебуновым сустракаўся падчас свайго прыезду ў Мінск лаўрэат Нобелеўскай прэміі Жарэс Алфёраў. Яны нават сфатаграфаваліся разам. Славуты вучоны хваліў Сяргея Сцяпанавіча за вялікія дасягненні, прамаўляючы свае любімыя словы: "Так трымаць!"

Доктар Сцебуноў сябруе з народным артыстам СССР і БССР Расціславам Янкоўскім. І хоць у яго мала вольнага часу, пры любой магчымасці стараецца наведаць Дзяржаўны рускі тэатр. Ён любіць "Песняроў", "Сяброў". Падабаюцца спевакі Дзмітрый Хварастоўскі, народны артыст Беларусі Мікалай Скорыкаў.

Доктар медыцынскіх навук прафесар Сяргей Сцяпанавіч Сцебуноў з гонарам выконвае свой свяшчэнны абавязак перад шчодрым, працавітым, таленавітым беларускім народам.

# Канстытуцыі беларускай дзяржавы

**Неўзабаве ў выдавецтве "Мастацкая літаратура" пабачыць свет незвычайная кніга, у якой сабраны ўсе Канстытуцыі, што дзейнічалі ў Беларусі ў XX ст. Выданне "Канстытуцыя нашай дзяржавы" — сумесны праект выдавецтва і Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, бо менавіта ў НББ захоўваюцца вельмі рэдкія сёння асобнікі асноўных законаў краіны розных гадоў. Каб даведацца больш падрабязна пра кнігу, што рыхтуецца да друку, наш карэспандэнт завітала да галоўнага рэдактара "Мастацкай літаратуры" Віктара Шніпа.**

**Марына ВЕСЯЛУХА, фота Кастуся Дробава**

"Сёння мы жывём па Канстытуцыі, прынятай у 1994 годзе. І тыя Канстытуцыі, што былі раней — ужо гісторыя нашай краіны, па іх жылі нашы дзяды і бацькі. Яны і сёння выклікаюць цікавасць у многіх людзей, — расказвае Віктар Анатольевіч. — Пачаткам, першай Канстытуцыяй нашай дзяржавы можна лічыць статуты Вялікага Княства Літоўскага. Цягам XX ст. беларусы жылі па пяці Канстытуцыях (1919, 1927, 1937, 1978 і 1994 г.). Першыя чатыры з іх — савецкія, дзякуючы ім Рэспубліка Беларусь у складзе СССР была краінай, бо мела сваю Канстытуцыю і прадстаўніцтва ў ААН".

Кнігу распачынае Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь 1994 года (са змяненнямі і дапаўненнямі), на беларускай і рускай мовах — асноўны закон краіны, які дзейнічае і сёння. А наступныя дакументы — Конституция Социалистической Советской Республики Белоруссии 1919 года, Канстытуцыя Беларускай Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі 1927 года, Канстытуцыя Беларускай Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі 1937 года і Канстытуцыя Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі 1978 года — падаюцца ў выглядзе факсіміле.

"Важна заўважыць, — працягвае Віктар Анатольевіч, — што Канстытуцыя 1927 г. была на чатырох мовах: беларускай (надрукавана тарашкевіцай), рускай, яўрэйскай і польскай. У ёй жа мы знайшлі некалькі граматычных памылак. Думаю, людзі, якія ў той час займаліся наборам дакумента, пазней, у 1930-я гады, былі строга пакараны, бо ад памылак гэтых змяняецца сэнс слова, нават сказа, а выданне Канстытуцыі — вельмі сур'ёзная справа".



Каго можа зацікавіць падобная кніга? На гэтае пытанне галоўны рэдактар адказвае: "Усіх, хто хоча ведаць сваю гісторыю. Для кожнага беларуса гэта ва ўсіх адносінах вельмі каштоўная кніга, яна дазваляе прасачыць, як развівалася дзяржаўная і юрыдычная сістэма ў краіне. Таму кнігу варта мець дома. Думаю, што падобнае выданне яшчэ не хутка з'явіцца. На яго ў выдавецтва ёсць заказы, яно выйдзе накладам дзве тысячы асобнікаў. Ды і аб'ём выдання не малы — амаль трыста старонак. Канечне, для многіх будзе нечаканым і фармат, і змест выдання, для некаторых кніга стане гістарычным адкрыццём. Мы ўсе хадзілі ў школу, вучыліся ў ВНУ, ведаем гісторыю СССР і сваёй краіны, але ўсё забываецца. Таму кніга можа стаць напамінам, згадкамі пра развіццё беларускага грамадства. Выданне будзе цікавым для ўсіх: і для студэнтаў, і для людзей больш сталага веку, якія ганарацца тым, што жывуць у Беларусі".

***На здымку: мастацкі рэдактар выдавецтва "Мастацкая літаратура" Валерый Сенчанка завяршае працу над дызайнам вокладкі выдання.***

# Соль зямлі — селянін...

**Прэзентацыя дакументальнай аповесці Уладзіміра Ліпскага "Мужык" адбылася ў Дастоеве Іванаўскага раёна, на радзіме яе галоўнага героя, слыннага старшыні СВК "Астрамечава" Аляксея Скакуна. Сам герой прысутнічаў на мерапрыемстве ў Дастоеўскім Доме культуры, крыху бянтэжыўся і дзякаваў выступоўцам за павагу і цёплыя словы ў яго адрас.**

**Ірына МАСЛЯНІЦЫНА, фота Кастуся Дробава**

Пра такіх кажуць: соль зямлі. А яшчэ — гаспадары зямлі. Яны нараджаліся на Беларусі ва ўсе часы. Але, пэўна, ніколі яшчэ не было гэтак важна для нашага народа захаваць як клас, як клан, як з'яву моцнае, упэўненае ў сабе сялянства. Людзей, што сапраўды любяць працу на зямлі і ведаюць, як трэба правільна арганізаваць яе. Пра Астрамечава ж і яго гаспадара ў народзе нават ужо легенды ствараюцца. Усё там у іх зладжана, усё — на навуковай аснове. Умовы жыцця — лепшыя за гарадскія. Кароў дояць пад класічную музыку. А каля дамоў — выключна кветкі, бо бульбу вырошчваюць усе разам на агульным полі за сялом... Значыць, гэтак жыць можна! А можа, трэба жыць толькі гэтак?

Пытанне цікавае. А за ім узнікаюць іншыя. Хто ён, гэты старшыня Скакун? Чаму так смела заступаецца за селяніна? Чаму не збег з вёскі, калі гэтак рабілі іншыя? Пісьменніку Уладзіміру Ліпскаму захацелася знайсці адказы. Дапытлівы літаратар правёў з будучым героем свайго твора шмат часу. Распытваў пра ранняе дзяцінства, пра юнацтва, пра мары і спадзяванні, пра людзей, побач з якімі жыве Аляксей Скакун, пра родную зямлю. Без залішняга пафасу і патэтыкі адказваў астрамечаўскі старшыня. Толькі тое, што сапраўды ведае, перажывае, узгадвае. Таму аповесць атрымалася шчырай, пранікнёнай. Сапраўднай. А інакш і нельга было — вясковы чалавек добра адчувае фальш, ён яе не прымае. З фальшывых напышлівых слоў у вёсцы смяюцца.

Аповесць "Мужык", названая так, безумоўна, з прыгадваннем прывабных у сваёй працавітасці і самасці някрасаўскіх мужыкоў і купалаўскага "пана сахі і касы", друкуецца ў гэтым годзе з працягам у часопісе "Полымя". Да выхаду яе пачатку ў першым нумары была прымеркавана прэзентацыя ў Мінску. Пасля з'яўлення нумара другога — дастоеўская прэзентацыя. На абодвух прысутнічалі аднавяскоўцы Аляксея Сцяпанавіча, яго блізкія, пісьменнікі (між іншым, Аляксей Скакун таксама член Саюза пісьменнікаў Беларусі). Народная артыстка Беларусі Марыя Захарэвіч чытала са сцэны ўрыўкі з аповесці, якія прысутныя слухалі ўважліва, зацікаўлена, заваражана. Падчас мінскай прэзентацыі на сцэне выступаў ансамбль з Астрамечава "Лявоны", які скарыў прысутных узроўнем выканання беларускіх народных песень. У Дастоеве ў канцэртнай частцы мерапрыемства свае таленты паказалі вучні мясцовай сярэдняй школы.



Між іншым, Аляксея Сцяпанавіча ў той дзень віншавалі не толькі з прэм'ерай твора пра яго жыццё, але і з юбілеем. У сакавіку яму споўнілася 65 гадоў. А пасля імпрэзы госці наведалі разам з віноўнікам урачыстасці хату, у якой ён нарадзіўся, і пакаштавалі гарачых, адразу з печы дранікаў.

***На здымку: галоўны рэдактар часопіса "Полымя" Мікола Мятліцкі, аўтар аповесці "Мужык" Уладзімір Ліпскі і галоўны яе герой, астрамечаўскі старшыня Аляксей Скакун.***

## Анкета пісьменніка

# Сталець духоўна і інтэлектуальна



*1. Як вы лічыце: ці павінна ў агульнай плыні прысутнічаць масавая літаратура? Ці згодны з думкай, быццам культура ўсяго грамадства абавязкова мае маскультуру сваім цэнем?*

*2. Якія кнігі, на вашую думку, цікавяць чытача? Ці праўда тое, што поспех літаратара ўсё больш залежыць ад майстэрства фатографа і мастака, які афармляе кнігу, ад яе знешняга выгляду?*

*3. Які ён ёсць, наш сучаснік? Што ў яго характары надае аптымізму?*

**Уладзімір ДУКТАЎ, старшыня Магілёўскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі:**

1. Масавая літаратура — з'ява ў нашай краіне даволі новая. Калі яна прыжывецца на нашай глебе, дык шкоды ад гэтага не будзе. Тут перш за ўсё мы можам гаварыць пра творы мастацкай прозы. Я сюды аднёшу такія жанры, як дэтэктывы, жаночыя раманы, фэнтэзі. Ёсць два цікавыя празаікі ў горадзе Быхаве Магілёўскай вобласці. Сяргей Антонаў даўно вядомы чытацкай аўдыторыі. Яго містычныя дэтэктывы "Поўня", "Унук чарнакніжніка", "Расслаенне" выйшлі ў 2007 годзе ў маскоўскім выдавецтве "Амадеус". У 2008 годзе гэтым жа выдавецтвам выпушчаны ў свет містычны дэтэктыў Сяргея Антонава "Скальпель доктара Менгеле" і напісаныя ў жанры фэнтэзі раманы С. Антонава "Аргор. Пажыральнік часу", "Аргор. Дачка Сета". Можна з упэўненасцю казаць пра тое, што гэта сталы празаік, з уласным стылем і манерай пісьма. Другі аўтар — таксама быхаўчанін. Гэта фантаст Сяргей Данілаў. За 2009 — 2010 гады ён выдаў пяць кніг з аповесцямі і апавяданнямі ў Мінску ў выдавецтве Віктара Хурсіка. Ён працуе ў жанры фэнтэзі. Я згодзен з думкай, што культура ўсяго грамадства абавязкова мае маскультуру сваім цэнем. Бо масавая культура — частка народнай творчасці ўвогуле. І патрабуе сур'ёзнага навуковага вывучэння.

2. Чытачам падабаюцца кнігі розныя. Усё залежыць ад таго, у якім настроі, калі і дзе чытач мае магчымасць застацца сам-насам з творам. Такі будзе і жанр, і "памер" кнігі. Кожнаму ўросту — сваё. Ёсць творы, да якіх хочацца звяртацца і звяртацца. Ёсць і такія, што прачытаны аднойчы і адно ўзгадваюцца часта. Але да перачытвання справа не даходзіць. Ёсць творы, асабліва паэтычныя, якія з намі заўсёды, мы іх ведаем на памяць. А поспех кнігі залежыць у першую чаргу ад зместу твораў. Ад глыбіні пранікнення аўтарам у сутнасць тэмы, шчырасці і майстэрства пісьменніка. Знешні выгляд выдання мае значэнне. Вядома, больш прыемна трымаць у руках з густам аформлены томік. Заўважу яшчэ, што кніжкі ў мяккіх вокладках павінны быць знітаванымі, бо склейка не вытрымае і аднаразавага прачытання.

3. Нашы сучаснікі — людзі розных пакаленняў. У кожнага свае любімыя кнігі, песні, кінафільмы, тэлевізійныя праграмы. У кожнага свой непаўторны зямны лёс. Усе нашы сучаснікі павінны добра суіснаваць і паважаць адзін аднаго, нягледзячы на інтэрнэтную прасунутасць маладзейшых прадстаўнікоў грамадства і боязь розных мабільнікаў і пластыкавых картак асобных прадстаўнікоў старэйшага пакалення. Людзям трэба жыць у разуменні і павазе адзін да аднаго. Я бачу, што у асноўным так яно і ёсць на самай справе. Таму гляджу ў заўтрашні дзень з аптымізмам. Падабаецца мне яшчэ і тое, што шмат хто з нашых сучаснікаў смела адкрывае сваю ўласную справу, расце духоўна і інтэлектуальна.

# Міфалогія пераадолення

## Беларуская проза першага дзесяцігоддзя XXI стагоддзя

Ірына ШАЎЛЯКОВА

**Для старэйшага літаратурнага пакалення Вялікая Айчынная вайна і ў XXI стагоддзі так і не сталася мінулым. Зрэшты, да тэмы вайны старэйшыя пісьменнікі не *вяртаюцца*: з гадамі падзеі яе не толькі не блякнуць, але, здаецца, набываюць новую рэчыўнасць (гл. аповесць "Помні, Сталінград", 2000, апавяданне "А немцы ў Парыжы", 2001, І. Навуменкі; новыя раздзелы кнігі Н. Гілевіча "Пережыўшы вайну. Аповесць у абразках памяці", 2008 — 2009).**

З кожным новым творам В. Быкава вайна ўсё глыбей "прарастала", укаранялася ў пасляваенным жыцці, працягваючы нявечыць лёсы тых, хто яе перажыў і нават, падавалася, "перамог": "У вёсцы хадзіла пагалоска, што Выпаўзак за свае заслугі мае права застрэліць кожнага. Такая ягоная ўзнагарода. Іншым за подзвігі давалі ордэны ці медалі, а гэтаму далі такое страшнае права — забіць кожнага на свой суд. Мабыць, сапраўды вялікія былі яго заслугі, сведчаннем якіх насіў з сабой гэты страхавіты для вяскоўцаў наган" (апавяданне "Велікоднае яйка", 2001). У апошніх быкаўскіх аповедах вайна ўсутыч наблізілася да сучаснасці — і трагедыя паглыналася паўсядзённасцю, героіка нярэдка пераўтваралася ў трагіфарс, як у апавяданні "Дзвацаць марак" (1999). Героі тых твораў В. Быкава, дзеянне якіх адбываецца ў эпіцэнтры вайны, з'яўляюцца перад чытачом у той момант, калі ўся бясконцасць часу і прасторы сціскаецца для іх да кропкі, калі адвечны рух спыняецца — чалавек апынаецца ў пустаце, праміж звыкла-ўтульным быццём і... нічым (апавяданне "Кароткая песня", 2002). Як правіла, аўтар выводзіць сваіх персанажаў з гэтага Вялікага Нішто, і "кропка Нуль" становіцца пачаткам, а не завяршэннем Шляху.

У прозе А. Кудраўца вайна асэнсоўваецца як бясконцасць канкрэтных чалавечых трагедый. Апошнім часам ён аддае перавагу малым эпічным формам; яго невялікія па аб'ёме творы сінтэзуюць прыкметы філасофска-псіхалагічнай і лірычнай прозы (апавяданне "Каця і Балабончык", 2000). Лейтматыўная ў творчасці гэтага празаіка тэма вайны набывае адметнае гучанне дзякуючы спалучэнню тонкіх эмацыянальных адценняў, нюансаў з дакладнасцю, рэчыўнасцю апісанняў і дэталяў (апавяданне "Зязюля пракукуе заўтра", 2001). Разам з тым, у творах А. Кудраўца, што пабачылі свет у 2000-х, на першы план вылучаецца матыў "агледзін" прыватнай, асобаснай гісторыі. Хацця герой аповесці "Развітанне" (1987, 2007) і мяркуе, што "ніколі не трэба вяртацца ў сады сваёй маладосці", вяртанне да сябе для розных персанажаў А. Кудраўца ў рэшце рэшт становіцца вяртаннем у *роднасць*. Пры гэтым асабліва абвастранае адчуванне зломнасці сучаснай эпохі, пэўная "рэтраспектыўная скіраванасць" мастацкай увагі гэтага аўтара абумоўлівае адметны — "элегічны" — псіхалагізм ягонай прозы апошніх гадоў ("Успамін пра шэршня. З дзённікаў несучаснага чалавека", 2006).

"У кожнага — свая вайна", — назва аповесці (2005) М. Дубоўскага можа быць скарыстаная ў якасці "формулы", што адлюстроўвае агульны прынцып вырашэння гэтай тэмы ў беларускай прозе першага дзесяцігоддзя XXI стагоддзя. Напрыклад, сам М. Дубоўскі асэнсоўвае яе ў рэчышчы традыцый сацыяльна-псіхалагічнай айчыннай прозы, часам, аднак, не ўнікаючы раманізацыі вобразаў-персанажаў (згадаем, напрыклад, галоўных герояў аповесці "Мядовачка", 2006, Косцю і Марысю).

Так ці інакш, у творах, аўтары якіх і напачатку XXI стагоддзя звяртаюцца да тэмы вайны, выразна адчуваецца глыбокая ўнутраная перакананасць пісьменнікаў у тым, што вайну нельга "прыдумаць": каб мець права пісаць пра яе, трэба ведаць яе "знутры", няхай гэтае веданне і апасродкаванае вопытам дзядоў і бацькоў. Бадай, менавіта гэты непрадэкляраваны маральны імператыў абумоўлівае той факт, што ў беларускай літаратурнай прасторы можна адшукаць адзінкавыя творы, прысвечаныя чужым ваенным акцыям ды аперацыям. А вось падзеі Другой сусветнай вайны нават у невялікіх, "камерных" творах беларускіх празаікаў (такіх, як навела Уладзіміра Сцяпана "Чорна-белы фотаздымак", 2005) набываюць значнасць маштабнага вобраза-сімвала, бо любыя звязаныя з ёй падзеі і азначаюць сустрэчу з нябытам, якая доўжыцца і дагэтуль не толькі для відавочцаў (адзін з самых яскравых узораў — аповед Л. Дранько-Майсюка "Аляксей Нічыпорка і Рудольф Гес" (2003), жанр якога самім аўтарам вызначаны як "паэма").



Малюнак Малгажаты Аўярчук

І наступным пакаленням беларусаў лёсіла мець сваю "вайну", у іх — свае бітвы. Адна з найбольш трагічных і трагедыйных паводле сваіх наступстваў — Чарнобыль. Напрыканцы XX стагоддзя катастрофа на Чарнобыльскай АЭС асэнсоўвалася амаль як "всесвая падзея" найноўшай гісторыі, пункт адліку "постчарнобыльскага" быцця; адпаведна, чарнобыльская тэма ў 1990-х гадах займала істотнае месца і ў беларускай прозе, і ў паэзіі, і ў эсэістыцы. У першае дзесяцігоддзе XXI стагоддзя колькасць празаічных твораў, непасрэдна звернутых да наступстваў чарнобыльскай катастрофы, відавочна зменшылася, хаця і тыя, што з'явіліся на старонках літаратурна-мастацкай перыёдыкі, уражвалі адчайнай непазбыўнасцю чалавечых трагедый, спароджаных Чарнобылем (аповесць П. Місько "Зялёныя змеі", 2004, раман Л. Левановіча "Пальновы вецер", 2002 — 2004). Зрэшты, чарнобыльская катастрофа настолькі трывала ўвайшла ў беларускую паўсядзённасць, што сталася неад'емнаю часткаю айчыннага грамадска-культурнага "пейзажу", ці не абавязковым элементам дэкарацый, на фоне якіх разгортваюцца жыццёвыя драмы (падобныя да гісторыі кахання маладых людзей, што належаць да розных сацыяльных слаёў, з аповесці А. Дзялендзіка "Эскулап і фея", 2010).

Наогул, варункі ўнутры сучаснага беларускага соцыуму і асабліва супярэчлівыя стасункі індывідуальнага і грамадскага, якія гранічна абвастрылі праблему вызначэння і асэнсавання асобаснай і нацыянальнай ідэнтычнасці, цягам гэтага дзесяцігоддзя знаходзіліся ў фокусе ўвагі айчыннай прозы. Прадстаўнікі старэйшага літаратурнага пакалення найчасцей асэнсоўваюць згаданую праблему праз зварот да шырокага спектра сацыяльна-побытавых канфліктаў (аповесці "Месяц у Раі, або Аддай сэрца людзям", 2006, "Фінская лазня, або Цяжка ў гэта паверыць", 2006, раман "На мяжы цярпення", 2007, У. Дамашэвіча, быліца "Адарка і пацукі", 2001, П. Місько, трыпціх "Сямейныя бывальцы", 1996 — 2000, Г. Далідовіча, навелы "Пажывi для людзей", 2005, С. Лобач, апавяданне "Ранні холад", 2006, А. Рыбака і інш.). Паказальна, што часам даследаванне паўсядзённасці — толькі на першы погляд "мазаічнае", "фрагментарнае", — становіцца грунтам для высноў сацыяльна-філасофскага ўзроўню, мастацкае ўвасабленне якіх ажыццяўляецца найчасцей праз жанры *апавядання* (творы са зборнікаў "Вячэра манекенаў", 2002, Р. Баравіковай, "Кола", 2004, М. Вайцяшонак, "У лесе", 2002, "Графіці", 2007, "Бунін-Марцінкевіч", 2007, "Лёд", 2002; 2007, "Уночы", 1993; 2009, А. Федарэнкі; "Антонік", 2001, А. Наварыча; "Мары з бульвара Даву. Аповед гіпатоніка", 2005, Ф. Сіўко; творы з дэбютных кніг "Палескі Напалеон", 2001, А. Крэйдзіча, "Закуцце", 2007, Ю. Нератка і інш.), *навелы* (кніга "Урсула: навелы кахання", 2003, Г. Марчука) і *аповесці* ("Шула-мегаполіс", 2007, Ф. Сіўко, "Халодная страва", 2000, "Ахвяры", 2001, В. Кадзетавай; "Шчасце ў падарунак. Гісторыя адной меланхоліі", 2001, А. Крэйдзіча; "Ланцуг. Кінааповесць", 1994; 1995; 2005, А. Федарэнкі і інш.).

У першае дзесяцігоддзе XXI стагоддзя абвостраная ўвага беларускіх празаікаў да феномена індывідуальнай экзістэнцыі мела наступствам з'яўленне шэрагу твораў, якія, нягледзячы на адрозненні, аб'ядноўвае агульная эстэтычная інтэнцыя. Сутнасць яе можна ўмоўна акрэсліць праз паняцце "экзістэнцыйна-лірычнага рэалізму": калі першы складнік тут задае вектар ідэйна-канцэптуальнага руху, дык другі ўказвае, хутчэй, на моўна-стылявыя асаблівасці мастацкага тэксту. Паводле гэтых сутнасных адзнак у адным мастацка-эстэтычным вымярэнні аказваюцца аповесць М. Купрэева "Лісты з млына" (2003), раман-эсэ А. Лойкі "Уладзімір Караткевіч, або Паэма Гарсія Лойкі" (2009), "Воўчая выспа. *Палеская легенда*" (2009) К. Цвіркі; апавяданні К. Тарасава "Брыгіткі" (2007), "Нячутныя гукі самоты" (2007); "Чалавек-дрэва. Фантасмагорыя" (2002), аповесць "Спавядальныя дні ў чужым горадзе" (2005), аповед "Арні і Берк" (2009) С. Рублеўскага; аповед "Галубы" (2008) М. Андрасюка і інш. Менавіта ў гэтым рэчышчы апошнім часам выяўляецца арыгінальнасць светабачання В. Карамазава. Дзякуючы кнізе "З вясною ў адным вагоне" (2002), аповесці "Чырвоная брама" (2003), навелам "Гарачая кроў Джота" (2004), "Марцавалі каты" (2005), іншым творам гэтага празаіка сёння беларускі чытач становіцца саваўтарам своеасаблівай "гісторыі ў асобах" нацыянальнага выяўленчага мастацтва (колішняга і найноўшага). Рыса паміж жыццём і мастацтвам у нарысах, эсэ, аповесцях, аповедах В. Карамазава як бы "станчаецца", лёс творцы паўстае працягам — і пераадоленнем лёсу роднай зямлі, Беларусі, якая нараджае "людзей-птушак", няхай тыя на час і забыліся пра тое, што могуць лётаць.



## «Унікальны культуралагічны матэрыял…»

Уладзімір Зяневіч

Праблема захавання і вывучэння традыцыйнай народнай культуры, інтэграцыі яе ў сістэму сучаснага духоўнага жыцця набывае сёння асаблівую вастрыню і актуальнасць. Вось чаму кніга Ніны Русаковіч "Пра песню народную, "Неруш" і Валянціну", якая выйшла гэтымі днямі, выклікае вялікую цікавасць. Упершыню ў друку Беларусі прадстаўлена асобная грунтоўная праца, прысвечаная дзейнасці Заслужанага аматарскага калектыву Рэспублікі Беларусь ансамбля "Неруш" і яго кіраўніка Валянціны Гладкай, у якой аўтар уздымае вельмі актуальную і важкую для новай Беларусі тэму выхавання патрыятычнай свядомасці і нацыянальнай годнасці нашай моладзі.

Н. Русаковіч дастаткова глыбока і поўна прадстаўляе творчы шлях ансамбля "Неруш" — ад пачатковых форм аматарскай дзейнасці да вяршынь мастацка-творчага прафесіяналізму. Асэнсоўваецца роля ў гэтым працэсе мастацкага кіраўніка ансамбля Заслужанага дзеяча культуры Рэспублікі Беларусь В. Гладкай, якая таксама прайшла надзвычай цікавы шлях да высокага прафесіянала, выдатнага інтэрпрэтатара народнага мастацтва.

Кніга філолага па адукацыі Ніны Русаковіч вельмі актуальная, бо, па-першае, небагатая практыка асвятлення і асэнсавання творчых дасягненняў лепшых мастацкіх калектываў краіны, якая існавала ў савецкія гады, у апошнія дзесяцігоддзі спынілася ўвогуле. Сёння замест аналітычнага матэрыялу і глыбокіх разважанняў над лёсам нацыянальнага мастацтва мы маем пераважна невысокай якасці камерцыйную рэкламу сучасных папулярных груп.

Дакладнае вызначэнне жанравай прыналежнасці твора вымагае аналізу. На першы погляд кніга напісана ў жанры дакументальна-публіцыстычнага нарыса, у якім падрабязна выкладаюцца і асэнсоўваюцца факты творчага жыцця ансамбля "Неруш" у, так бы мовіць, "інтэр'еры" грамадскага і культурнага жыцця нашай краіны. На карысць гэтага сведчыць форма гутаркі, якая паслядоўна выкарыстоўваецца аўтарам. Праз добра падабраныя інтэрв'ю, у якіх выказваюцца думкі, меркаванні розных людзей, аўтар мэтанакіравана выводзіць чытача на пэўны роздум, вымушае яго паверыць у тое, чаму верыць сама. У кнізе выкарыстоўваюцца дакументы, матэрыялы перыядычнага друку, спасылкі на навуковыя творы, шматлікія выказванні вядомых дзеячаў навукі і мастацкай культуры. Разам з тым, відавочныя і рысы гісторыка-біяграфічнай прозы — плюс публіцыстычны пафас, які тлумачыцца падкрэсленай грамадскай пазіцыяй аўтара.

У кнізе можна ўмоўна вылучыць тры ўзаемаабумоўленыя тэмы: традыцыйная народная культура, песенны фальклор Беларусі; ансамбль "Неруш" і яго кіраўнік; лёс айчыннай культуры. Творчая дзейнасць калектыву як прапагандыста і папулярызатара нацыянальнага мастацтва разглядаецца ў кантэксце гістарычнай пераемнасці народазнаўства ў Беларусі. У гэтым плане вельмі паказальныя раздзелы "Збіральнікі-адраджэнцы народнай песні", "Народная песня на чужыне". Выданне змяшчае дадатак для замежных чытачоў на рускай і англійскай мовах.

Кніга пабачыла свет у Выдавецкім цэнтры БДУ да 90-годдзя ўніверсітэта і 30-годдзя творчай дзейнасці ансамбля і яго кіраўніка В. Гладкай. Гэта сапраўды юбілейнае выданне з прывабным дызайнам, багата ілюстраванае. Каштоўнасць кнігі ўзбагачаецца дадаткам — двума кампакт-дыскамі, якія дадуць магчымасць адчуць усю прыгажосць гучання "Нерушы".

***18 лютага, у дзень народзінаў беларускага пісьменніка Максіма Гарэцкага, Дзяржаўны музей гісторыі беларускай літаратуры гасцінна прымаў удзельнікаў штогодняй навуковай канферэнцыі — XIX Гарэцкіх чытанняў. "Максім і Гаўрыла Гарэцкія. Жыццё і творчасць. Праблема выдання спадчыны" — менавіта так былі акрэслены тэматычныя межы канферэнцыі. Сорак восем заявак прыхільнікаў таленту братоў Гарэцкіх было даслана на адрас Аргкамітэта, і многія навукоўцы прынялі непасрэдны ўдзел у чытаннях. У цэнтры ўвагі даследчыкаў апынулася праблема выдання літаратурнай і навуковай спадчыны Максіма і Гаўрылы Гарэцкіх. Якраз пра гэта ішла размова на пленарным пасяджэнні — і ў дакладзе члена-карэспандэнта НАН Беларусі М. Мушынскага і акадэміка Р. Гарэцкага. Закранутыя пытанні знайшлі свой працяг у дакладах іншых навукоўцаў — Я. Аношкі, Г. Кажамякіна, В. Скалабана, Д. Дудзінскай, Р. Зінавай, В. Курцовай.***



# «Пачнём збіраць зярно к зярняці...»

**Міхась МУШЫНСКІ**

Рашэнне Аргкамітэта XIX Гарэцкіх чытанняў уключыць у праграму чарговай канферэнцыі тэму "Выданне спадчыны братоў М. і Г. Гарэцкіх" трэба толькі вітаць. Мой шматгадовы асабісты вопыт у распрацоўцы планаў-праспектаў многіх збораў твораў, а тым болей удзел у іх практычным ажыццяўленні, пераконвае, што падрыхтоўчы перыяд заўчасным не бывае. Наадварот, найчасцей мы маем справу са значнай запозненасцю пачатку працы. А гэта заўсёды спараджае паспешлівасць, пры якой непазбежна ўзнікаюць пралікі, накладкі, упушчэнні і г.д. Варта адзначыць і яшчэ адзін істотны момант. За апошнія гады выдадзена салідная бібліятэка твораў нацыянальнай класікі, пачынаючы з Поўнага збору твораў М. Багдановіча ў 3-х тт., Я. Купалы ў 9 тт. (10 кн.), набліжанага да Поўнага Збору твораў Я. Коласа ў 20 тт. (з іх выйшла 13), але не было ніводнага выпадку, каб планпраспект друкаваўся ў літаратурнай перыёдыцы з мэтаю яго публічнага абмеркавання зацікаўленымі коламі. Прычына тут вельмі банальная — на падобныя эксперыменты ў тэкстолагаў не стаецца часу, бо ім трэба тэрмінова запускаць шматтомнае выданне ў вытворчасць! І такое становішча стала нормай. Хацелася б у гэтую норму ўнесці карэктывы.

Зрэшты, не сам па сабе план-праспект сёння з'яўляецца першачарговай задачай. Галоўнае — ад агульных заклікаў і адцягненых разважанняў перайсці да канкрэтнай справы: паставіць і абмеркаваць практычныя пытанні, ад вырашэння якіх і будзе залежаць узровень Поўнага збору твораў, яго запатрабаванасць чытачамі і даследчыкамі. Толькі далёкія ад практыкі выдання шматтомных збораў твораў людзі могуць думаць, нібыта згаданае пытанне вырашаецца лёгка, аператыўна. Гэта памылковы погляд. Распрацоўцы плана-праспекта папярэднічае абмеркаванне шэрагу складаных праблем. Вось я і хацеў бы закрануць некаторыя з гэтых праблем, звярнуць на іх увагу, папрасіць практычнай дапамогі са спадзяваннем, што заклік будзе пачуты.

Паўтараю: сёння выразнага адказу на многія пытанні няма. Шукаць адказ трэба разам, сумесна, калектыўна. У першую чаргу неабходна вызначыць, з якіх крыніц будзе папаўняцца корпус новага выдання. Шэраг крыніц вядомы:

1. Збор твораў у 4-х тт. (1984 — 1986). Гэта 97,9 ул.-выд. аркушаў.
2. Творы (1990) — 36,02 арк.
3. Гісторыя беларускай літаратуры (1992) — 27,7 арк.
4. Зборнік "Максім Гарэцкі. Публіцыстыка 1918 — 1919 гг." (2000). 10,25 арк.
5. Часопісныя публікацыі твораў, якія па розных прычынах не ўвайшлі ў пералічаныя вышэй тамы і выданні: "Скарбы жыцця", "Маладняк" за пяць гадоў" і інш.
6. Рускі варыянт "Віленскіх камунараў" — Виленские воспоминания (1934, 1937).

Гэта даступныя крыніцы, дзе аўтарскі матэрыял сабраны, часткова пракаменціраваны. Але існуюць іншыя, менш вывучаныя крыніцы. Сярод іх трэба назваць публіцыстычную спадчыну пісьменніка. Яна абнародавана толькі часткова, шэраг значных матэрыялаў у "Творы" (1990) не ўвайшоў. Тут нас чакае няпростая карпатлівая праца і сур'ёзныя намаганні каментатараў. Карпатлівая таму, што перыядычныя выданні, у якіх змешчаны адсутныя ў аднатомніку 1990 г. публіцыстычныя матэрыялы, знаходзяцца ў Вільні, і паездкі ў тамтэйшыя кнігасховішчы, бібліятэкі і праца ў іх сёння звязаны з сур'ёзнымі фінансавымі выдаткамі.

Узнікнуць складанасці і пры каменціраванні нававыяўленых публіцыстычных артыкулаў, бо аўтарам закраналіся вострыя пытанні міжнароднага становішча, міжнацыянальных адносін, тэрытарыяльных спрэчак, рэлігійных, канфесіянальных стасункаў. Усё гэта запатрабуе ад тэкстолага дасведчанасці ў пытаннях грамадзянскай гісторыі, гісторыі культуры і г. д. За кароткі тэрмін, "на хаду" такую працу якасна, поўна, вычарпальна не зробіш.

Другая крыніца папаўнення асноўнага корпуса Збору твораў — лексікаграфічная спадчына М. Гарэцкага. 1. Руска-беларускі слоўнік. Разам з Г. Гарэцкім. Смаленск. 1918. 2 — 3. Невялічкі беларуска-маскоўскі слоўнік. Вільня. 1919. 2-е выд., стэрэатыпнае. Вільня. 1921. 4 — 5. Практычны расійска-беларускі слоўнік. З М. Байковым. Мінск. 1924. 2-е выд. Мінск. 1926. Выпраўленае і дапоўненае. 6. Беларуска-расійскі слоўнічак. Белорусско-русский словарик. Выданне 3-е, перапрацаванае. Мінск. 1925. 7. "Маскоўска-беларускі слоўнік" братоў М. і Г. Гарэцкіх. Выд. 2-е, "з папраўкамі і вялікімі дадаткамі" (1920).

З выкладзенага бачна, што даследчыкаў чакае вялікая праца ў плане каменціравання слоўнікаў — ацэнкі іх навуковага ўзроўню, іх класіфікацыі і г.д. Будзем спадзявацца перш за ўсё на практычную дапамогу з боку тых моваведаў, хто рэгулярна бярэ ўдзел у "чытаннях". А даследаваць тут ёсць што. Напрыклад, пытанне выбару асноўнага тэксту. Калі за асноўны браць тэкст 3-га выдання "з папраўкамі і вялікімі дадаткамі", то якім павінен быць лёс першапачатковага тэксту? Яго трэба зусім адкінуць ці ён варты аказаць ў рубрыцы "Варыянты і разначытанні"? Ці ўвогуле ўсе выданні друкаваць у храналагічнай паслядоўнасці?

Трэцяя крыніца — пераклады мастацкіх твораў, ажыццёўленыя М. Гарэцкім. Агульны іх аб'ём — даволі значны, бо размова ідзе не толькі пра малыя жанравыя формы, але і пра аповесці, раман і інш. Вось пералік гэтых перакладаў:

1. Арсенneў У. У нетрах Усурыйскага краю (1929). 2. Горкі М. Зброднік; Канавалаў; Чалкаш (1930). 3. Лібядзінскі Ю.Камісары: [Аповесць] (1930). 4. Лібядзінскі Ю. Тыдзень: [Аповесць] (1930). 5. Фадзееў А. Разгром (1930). 6. Спроба перапрацовак і вольных перакладаў песеннага матэрыялу для пяяння яго па-беларуску. Дзесяць песень і рамансаў / З руск. (1920). 7. Слова а палку Ігараве / Са старажытна-руск. (1922). 8. Пераклад уласных твораў: Сука магната, Шчыміт сэрца, За что?, Монашенка.

Тут тэкстолагаў-гарэцказнаўцаў зноў жа чакаюць непрадбачаныя цяжкасці. Сутнасць іх вось у чым. Калі мы рыхтавалі Зборы твораў М. Багдановіча, Я. Купалы, Я. Коласа, там вершаваныя пераклады з А. Пушкіна, М. Лермантава, Адама Міцкевіча, з Тараса Шаўчэнкі, нават Купалавы пераклады апавяданняў з украінскай мовы, друкаваліся без праблем. Ніякіх пярэчанняў з боку выдавецкіх рэдактараў, кнігагандлёвых арганізацый, рэцэнзентаў не ўзнікала. Па-першае, гэта адносна невялікія памерамі вершаваныя творы, па-другое, размова ішла пра сусветную класіку, перададзеную класікамі беларускай літаратуры. А цяпер размова ідзе пра аповесці і раманы савецкіх пісьменнікаў, ацэнка і роля якіх у літаратурна-грамадскім жыцці краіны, у развіцці рускай літаратуры апошнім часам перагледаецца, пераасэнсоўваецца. Раней і Ю. Лібядзінскі, і А. Фадзееў уваходзілі ў пісьменніцкую наменклатуру, іх творы вывучаліся ў школе, у ВНУ. Сёння сітуацыя змянілася. Адсюль зразумела: перш чым уводзіць перакладныя аповесці ў корпус Поўнага збору, неабходна вывучыць пытанне: ці не састарэлі гэтыя аповесці, раманы ў сваім змесце, пафасе? Ці ёсць патрэба тыражаваць іх у беларускамоўным чытацкім асяроддзі? Пэўны адказ на пастаўленыя пытанні патрэбен дзеля таго, каб збор твораў не даваўся пасля карэнным чынам перагледзець у працэсе выдання.

А што трэба рабіць з перакладзенымі і адрэдагаванымі М. Гарэцкім ленінскімі тэкстамі? Тут таксама ёсць праблема. На мой погляд, гэтыя прыклады, а яны, як устанавіў М. Кенька, складаюць цэлы том (!), — надзвычай каштоўны матэрыял для вывучэння гісторыі выпрацоўкі моўна-стылёвых, вобразна-выяўленчых сродкаў публіцыстычных жанраў. М. Гарэцкі імкнуўся пазбягаць калек з рускай мовы, ён шукаў беларускія лексічныя адпаведнікі. Шукаў і многае зрабіў у гэтым кірунку. Вось таму было б карысна ўключыць ленінскія артыкулы ў Поўны збор. Тое, думаецца, узбагаціла б нашы веды пра Гарэцкага-моваведа, Гарэцкага-перакладчыка.

Я спыніўся на тых "крыніцах", якія могуць істотна паўплываць на агульны аб'ём Поўнага збору. Зусім відавочна, што выданне будзе выглядаць па-рознаму ў залежнасці ад таго, увойдуць у яго корпус згаданыя вышэй празаічныя творы У. Арсенева, М. Горкага, Ю. Лібядзінскага, А. Фадзеева, У. Леніна ці не. Калі ж мець на ўвазе "крыніцы", не такія багатыя на новыя тэкставыя паступленні, то і іх таксама нельга скідваць з рахунку, бо сумарна і яны могуць даць адчувальную лічбу ў друкаваных аркушах. Каб наглядна пацвердзіць дадзены тэзіс, я правёў паралельны аналіз тэксту апавядання "Рунь" 1914 г. і тэксту, які дапрацоўваўся ў 1926 — 1928 гг. Вынікі назіранняў выкладзены ў артыкуле "Творчая гісторыя апавядання "Рунь". Ён надрукаваны ў зб. "XVIII Гарэцкія чытанні" (2010. С. 122 — 138). Варыянтаў набралася шмат. І ўсе тэкставыя розначытанні цікавыя, змястоўныя. Яны даюць багаты матэрыял для вывучэння творчасці пісьменніка, эвалюцыі яго светапогляду, станаўлення майстэрства. Якім акажацца аб'ём варыянтаў астатніх апавяданняў, загадзя не скажаш. Тут патрэбна франтальная зверка. І не толькі твораў зборніка "Рунь", зборніка "Досвіткі", але і іншых твораў. Можна не сумнявацца, што варыянты першадруку істотна ўзбагацяць выданне.

Тое рашэнне, якое было прынята пры падрыхтоўцы да друку і каменціраванні "Гісторыі беларускае літаратуры" ў 1992 г., задавальняла і чытачоў, і даследчыкаў. Маецца на ўвазе і выбар асноўнага тэксту, і змястоўнае, разгорнутае пасляслоўе, у якім адзначаліся адрозненні паміж першым выданнем (1920) і трэцім (1924), дзе выявілася найбольш поўна адбілася творчая воля аўтара гэтай этапнай для беларускага літаратуразнаўства "Гісторыі…". Але на сённяшні дзень зробленага амаль 20 гадоў таму ўжо недастаткова, паколькі прыведзеныя ў пасляслоўі асобныя фрагменты тэксту першага выдання не могуць даць вычарпальнага ўяўлення пра навуковую канцэпцыю Гарэцкага — гісторыка літаратуры. Вось чаму тут патрэбны новыя падыходы. І ў дадзеным выпадку вельмі дарэчы была б рубрыка "Іншыя рэдакцыі і варыянты", якая дасць і шараговаму чытачу, і прадстаўнікам новай літаратуразнаўчай генерацыі нагляднае ўяўленне пра тое, як мяняўся погляд Гарэцкага на гісторыка-літаратурны працэс у Беларусі, на творчасць многіх пісьменнікаў.

Але і на гэтым праблемы друкавання "Гісторыі…" не вычэрпваюцца, паколькі існуюць чатыры яе выданні. І іх сутнасныя адрозненні таксама павінны быць зафіксаваны і пракаменціраваны.

Са сказанага не вынікае, нібыта ўсе пытанні, якія тут узнімаюцца, павінны быць вырашаны неадкладна. Не, гэта аб'ёмная праца, якую на энтузіязме не адолееш. Патрэбны сумесныя намаганні. Але бясспрэчна адно: можа здарыцца так, што мы атрымаем магчымасць выдаваць спадчыну М. Гарэцкага ў яе поўным аб'ёме, а рэальна да гэтай справы будзем не гатовыя. І ўсё пойдзе па скарочаным варыянце, бо зноў у тэкстолагаў не хопіць часу, як яно ўжо не раз здаралася. Вось каб такая небяспека нас не напаткала, якраз і патрэбна мець пэўны задзел, мець рэальныя напрацоўкі, якія будуць з удзячнасцю выкарыстаны складальнікамі і каментатарамі Збору твораў.

Калі пераводзіць размову ў чыста практычны план, то, думаецца, варта было б на добраахвотнай аснове стварыць каардынацыйную групу тых, хто мае жаданне і магчымасць больш шчыльна заняцца пытаннямі падрыхтоўкі Поўнага збору твораў М. Гарэцкага. Маецца на ўвазе і непасрэдная распрацоўка тых аспектаў, якія мы закранулі; і прыцягненне да працы маладых даследчыкаў, іх захоўванне пытаннямі тэксталогіі; і сувязь з іншымі навуковымі, адукацыйнымі цэнтрамі, з архіўнымі службамі на прадмет пошукаў новых дакументаў, звестак, у тым ліку і выяўлення публікацый у замежным друку. Без кааперацыі, без сумесных намаганняў мы далёка не прасунемся… Максім Гарэцкі — шматгранная асоба, дзеяч нацыянальнага адраджэння, а гэты час спараджаў сапраўдных падзвіжнікаў, якім быў і застаўся М. Гарэцкі ў свядомасці беларускага народа. Годна адзначыць 120-годдзе класіка нацыянальнай літаратуры, выдатнага грамадска-культурнага дзеяча, вучонага-асветніка — а гэтая дата прыпадае на 18 лютага 2013 г., — пачэсная задача беларускай інтэлігенцыі.



Кастусь Жук

* * *

*Нахлыне ў сэрца пачуццё —*
*І снег душы растане раптам.*
*І ты мяне надзеліш праўдай,*
*Гарачай, быццам цел зліццё.*

*І зашумяць наўкол жыты,*
*Брылі заззяюць жаўтаквету.*
*І будзе гэта сон ці лета,*
*Наўрад ці зразумееш ты.*

*Ярыла мяккай даланёй*
*Цябе акрые, аблагодзіць.*
*І вочы шчасце кроз народзяць*
*Пад першабытнай вышынёй.*

## Міннае поле

Алесю Харобраму

*Чацвёра нас*
*па мінным полі йшло.*
*Вужакай смерць*
*вадзіла нас па галу.*
*І выйсця з гэтай пасткі*
*не было.*
*Мы паміралі зажыва, памалу.*

*Налева — смерць.*
*Направа смерць,*
*але*
*Карцела выжыць нам,*
*яшчэ зялёным.*
*Мы па жарстве ступалі*
*след у след,*
*Зямлі раз-пораз*
*робячы паклоны.*

*Малілі Бога.*
*Праклінaлі лёс.*
*І “духаў” крылі*
*злымі мацюкамі.*
*І не было страшней*
*для нас пагроз —*
*Як “цвёрды грунт”*
*намацаць пад нагамі…*

*Пагуднае здранцвенне.*
*Люты жах.*
*Напяты нервы —*
*як стальныя ліны.*
*І пот — руччом.*
*І слёзы — далавах.*
*І ўдары сэрцаў:*
*“Міны! Міны! Міны!”*

*А потым — гром…*
*А потым — гул вятроў…*

*І зразумееў я,*
*лежачы на жвіры,*
*Дваіх недалічыўшыся сяброў,*
*Што два плюс два —*
*не кожны раз чатыры.*

## Вісажары

*Пакуль круціў я жорны жар-нябёс*
*Сугмень-вачыма —*
*Перада мной праходзіў міма лёс,*
*Праходзіў міма.*

*Круціць прынадна гэты калаўрот*
*Святла, мігцення,*
*Бо вісажары — гэта касмалёт,*
*Палёт імгнення.*

*Яшчэ не ўпаў за неба маладзік,*
*А ўжо світае.*
*Я й сам — прыгнаны з забалацця дзік,*
*Святло — вітаю.*
*Пайду. І суніму сваю душу*
*Ля тых нябёсаў,*
*Дзе свой давер запасу я нашу*
*Ля сінянёсаў.*

*Там мама бразне-выстукне вядром,*
*Сустрэне Шарык.*
*І я адчую ўсім сваім нутром:*
*Тут — вісажары…*

## Крынічная завадзь

*Памалюся вадзе,*
*Што адкрыла*
*мне тайну свядома,*
*І ўвайду,*
*сівадзед,*
*У святыя*
*яе вакаёмы,*

*Дзе так многа святла,*
*І цяпла,*
*і густой халадэчы,*
*Быццам*
*вечнасць на плечы лягла,*
*Проста —*
*цэлая вечнасць.*

*Абцалую я гэту ваду,*
*Ёй*
*напіўшыся ўволю, —*
*І нуду*
*ад сябе*
*адвяду*
*І на год, і на два,*
*і — на болей…*



Фота Кастуся Дробава




# Пайшла, ніколі ўжо не вернецца…

**У першых числах лютага на Елісееўскіх могілках пад Барысавам хавалі, мабыць, самую таленавітую паэтку Барысаўшчыны Таццяну Зіненку. Чорныя стараверскія крыжы на фоне белага снегу надавалі жалобнае афармленне гэтай, па сутнасці, непазбежнай падзеі. Адпяваў нябожчыцу мясцовы святар Аляксандр.**

**У апошні шлях паэтку праводзілі яе сваякі, блізкія сябры, педагогі, журналісты мясцовых газет. Цырымонія была сціплай, як пры жыцці і сама жанчына, якая ляжала ў труне. Вянкоў таксама было няшмат, адзін з якіх — ад паэтаў Барысаўскага раённага літаратурнага аб’яднання “Натхненне” — ускляў аўтар гэтых радкоў.**

**На крыжы пазначаны лічбы: “4 сакавіка 1960 — 1 лютага 2011”. Яна пражыла крыху больш за 50 гадоў, але пакінула добрую памяць у сэрцах аматараў паэзіі, удзячных вучняў.**

**Творы Таццяны Зіненкі друкаваліся ў мясцовых газетах, увайшлі ў апошні калектыўны зборнік барысаўскіх паэтаў “Званы памяці”. На жаль, намечаны да друку свой аўтарскі зборнік вершаў “Плакала дзяўчынка” яна ўжо не ўбачыла.**

**— Калі я вучылася ў 5-м класе СШ №14, у нас была выдатная настаўніца — Таццяна Зіненка, якая і навучыла мяне любіць усё беларускае, — сказала былая вучаніца паэткі Людміла Лапянок. — Яна прыходзіла на ўрокі ў стылізаваным беларускім адзенні, расказвала пра цікавыя старажытныя рэчы, якімі багатая Беларусь. Гэта і паспрыяла таму, што я стала настаўніцай беларускай мовы і літаратуры. Я заўсёды сачыла за яе вершамі. Яны былі такімі пранікнёнымі, шчырымі, у іх заўсёды прысутнічаў роздум. Хоць і не шмат год Таццяна Зіненка працавала ў нашай школе, але памяць пра яе жыве заўжды.**

**Анатоль МАЗГОЎ**

<u>Таццяна ЗІНЕНКА</u>

## Пакінь мяне

Г. А.

*А нам з табой не выпадае разам,*
*Каханы мой, ты сам пакінь мяне,*
*Не палічу я гэта за абразу —*
*Я па табе заплачу і ў труне.*

*Не пазбягай апошняе прынукі:*
*Пакінь мяне на строме пачуцця, —*
*Кажу табе і прасціраю рукі,*
*Як безнадзейна хворы да жыцця.*

* * *

*Дазволь паплакаць на тваім плячы.*
*І супакойна не ўсчувай за гэта,*
*Бо найцяжэй за ўсё любіць паэта*
*І развітанню кланяцца ўначы.*

*Нібы знямелі нашы галасы,*
*Каб мы сустрэчы новай не прасілі.*
*І то не слёзы вочы абрасілі,*
*А прыгаршчы бурштынавай расы.*

* * *

*Як хутка спыняецца наша дарога...*
*Нам час разлучацца, а рук не разняць.*
*Дазвольце мне Вам напаследак сказаць:*
*“Як хутка спыняецца наша дарога...”*
*Бясконцая роспач мая і трывога,*
*Мне Вас немагчыма ніколі суняць.*
*Як хутка спыняецца наша дарога.*
*Нам час разлучацца, а рук не разняць.*

## Памяці бабулі

*Я не дайшла да Бога...*
*я падышла да Храма.*
*Зязюльчына куванне*
*пачулася здаля...*
*О, не кувай, зязюля,*
*я ведаю таксама:*
*Няма такога грэху,*
*якім не грэшна я...*
*Адну магілу маю,*
*і то не ў родным краю.*
*О, не кувай, зязюля,*
*і лес не шалясці.*
*Сама сябе я толькі*
*за гэта пакараю,*
*Сама сабе я толькі*
*скажу, куды ісці...*



Іван Ждановіч

## Замовы для мовы

### 1. Замова сонечна-крынічная

*З-за далёкага бору,*
*Цёмнага нагавору,*
*З бяспамяцтва ночы —*
*Сонца прасвятляе вочы.*

*А з-пад каменя халоднага,*
*Цяжкага і няплоднага,*
*Сіліцца ў свет прабіцца*
*Багіні Жывы сястрыца —*
*Жывая крыніца.*

*Прамаўляю табе, брат, замову*
*На родную мову.*
*Дай, Божа, мове роднай,*
*Табе ўгоднай —*
*У душы брата пасяліцца.*

*Дай розуму, як сонцам,*
*Ёй прасвятліцца!*
*І знямелай душы да донца,*
*Як вадою крынічнай,*
*Ацаліцца.*

*А жыві ты,*
*Святая мова-аснова,*
*У сховах розуму і душы…*
*І вечнае Дрэва роду-народу*
*Уздымай-калышы…*
*Амінь.*

### 2. Замова вясновая

*Ад вясновага цяпла —*
*Сіла дрэва працяла,*
*Ажывіла, пацякла*
*І лістотай загула,*
*Загаварыла…*
*Прачынайся, мова-сіла!..*
*Наталяйся мова сілай,*
*Ты, чуллівая душа…*
*Каб што ні дзянёчак —*
*То новы расточак,*
*Каб што ні гадок —*
*То новы лясок.*
*А моўныя сухоты —*
*Прэч вас у гнілыя балоты!*
*Амінь.*

### 3. Замова ад трасянкі-ліхаманкі

*Добрым часам*
*Чыстым словам*
*Хай бароніць мая замова*
*Ад слоў-паразітаў —*
*Прэч іх у карыта,*
*Ад памылак у родным склоне —*
*Назаўсёды, не толькі сёння.*
*Як ад зерня прэч мякіна —*
*Пакінь, трасянка, дачушку і сына!*
*Каб цякла іх мова,*
*Як салодкі мёд,*
*Каб лавілі словы*
*Ў свае ловы*
*Ззянне расы,*
*Таямніцы красы,*
*Сонца прамяні…*
*Божа, моваю ўсіх абарані —*
*Каб жылі ў радасці і чысціні.*
*Амінь.*

Сумесны праект штотыднёвіка «ЛіМ»
і Нацыянальнай кніжнай палаты Беларусі

Кніжны свет

11 сакавіка 2011г.

# Вобраз ідэальнай краіны

Дзяніс МАРЦІНОВІЧ,
фота Кастуся Дробава

**Напрыканцы зімы ў Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры адкрылася персанальная фотавыстаўка Анатоля Дрыбаса "Мая Беларусь", арганізаваная выдавецтвам "Беларуская Энцыклапедыя імя П. Броўкі" сумесна з грамадскім аб'яднаннем "Фотамастацтва".**

Большая частка прафесійнага шляху Анатоля Дрыбаса звязана з выдавецтвам "Беларуская Энцыклапедыя імя П. Броўкі". Выпускнік Мінскага радыётэхнічнага інстытута, ён прыйшоў туды ў студзені 1981 года. Спярша працаваў фоталабарантам, пасля — фотакарэспандэнтам. Спецыфіка дзейнасці ў выдавецтве патрабуе ўмення фатаграфаваць самыя розныя аб'екты: фабрыкі і заводы, гарады, помнікі архітэктуры, інтэр'еры, творы мастацтва. Але самай любімай тэмай А. Дрыбаса быў і застаецца беларускі пейзаж.

Сведчанне прафесійных здольнасцей і густу А. Дрыбаса — дзевяць альбомаў, прысвечаных культурным помнікам Беларусі (касцёлы, цэрквы, манастыры), альбомы "Хатынь", "Ю. П. Пэн", "Мінск", "Вытокі натхнення", "Непаўторныя імгненні", "Я ад дрэва твайго", "Першамайскі раён г. Мінска", "Алмаз — 20 гадоў у дзеянні", "Барысаў", "Шклоў", два тамы энцыклапедыі пра прыроду, альбом пра нашу краіну для выстаўкі ў кітайскім Шанхаі. Работы фатографа сталі асновай серыі каталогаў-праспектаў, прысвечаных культурнай спадчыне Беларусі — Жыровіцкаму манастыру, Камянецкай вежы, гомельскаму палацу Румянцавых-Паскевічаў, Свята-Духаваму сабору ў Мінску і шэрагу іншых помнікаў архітэктуры.

На што цяпер скіраваны аб'ектыў Анатоля Дрыбаса? Гэта праца ў выдавецтве "Беларуская Энцыклапедыя імя П. Броўкі". Нездарма большасць выпушчаных там кніг не абыходзіцца без здымкаў фатографа. Супрацоўніцтва з газетай "Минский курьер" і часопісам "Родная прырода". А яшчэ А. Дрыбас — сябра грамадскага аб'яднання "Фотамастацтва" і фотаклуба "Мінск". Паводле слоў калег, якія прагучалі на адкрыцці выстаўкі, ён самы працаздольны прадстаўнік клуба, рэгулярна прымае ўдзел у яго мерапрыемствах і ахвотна дзеліцца прафесійнымі сакрэтамі.

"Мая Беларусь" стала шостай персанальнай выстаўкай фатографа. На пляцоўцы Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры прадстаўлены 72 работы, зробленыя за апошнія два гады. Акрамя іх на выстаўцы можна



таксама пазнаёміцца з кніжнымі навінкамі выдавецтва "Беларуская Энцыклапедыя імя П. Броўкі".

Пляцоўка выстаўкі падзелена на тры залы. Адпаведную колькасць сэнсавых і тэматычных частак мае выстаўка майстра. Першая зала прысвечана помнікам архітэктуры і гарадскім краявідам. Гледачы ўбачаць хрэстаматыйныя фотаздымкі Мірскага замка, палаца Радзівілаў у Нясвіжы і Камянецкую вежу. Але больш за ўсё тут прадстаўлены Мінск. Фатограф выхапіў з гарадскіх краявідаў Палац спорту, Нацыянальную бібліятэку, Прывакзальную плошчу, Чыгуначны вакзал, адзнаку нулявога кіламетра на Кастрычніцкай плошчы. Амаль усе "сталічныя" фотаздымкі зроблены ў зімовы марозны дзень, што дадае асаблівую кантраснасць двум цёплым летнім кадрам Траецкага прадмесця.

Другая зала насычана пахамі і гукамі прыроды. На фотаздымках А. Дрыбаса адлюстраваныя найбольш крохкія стварэнні фауны: мушкі-зелянушкі, матылькі. Прычым яны ўбачаны з такой блізкай адлегласці, што нагадваюць партрэты: так дакладна бачна кожная частачка іх цела.

Нарэшце, трэцяя зала (разам з часткай другой) прысвечана беларускай прыродзе. З прадстаўленых там фотаздымкаў найбольшую ўвагу звяртаюць на сябе некалькі. Звычайнае поле падчас паводкі. Уся мясцовасць, здавалася б, да самага гарызонта, падзелена на вузкія гарызантальныя лініі. Зялёныя палоскі густой травы чаргуюцца з блакітна-шэрым адлюстраваннем рачной вады.

Дзве лодкі на беразе возера. Не толькі бераг, але і ўсю далячынь засцілае туман, а яны, нібы сёстры, прытуліліся адна да адной, спяць, а можа, проста дрэмлюць і чакаюць гаспадароў на ранішнюю рыбалку.

Цэлая група дрэў на розных фотаздымках. Адно з іх скаванае маразамі, што ўгадваецца па халадэчы неба. Другое, наадварот, хаваецца ў навакольнай зеляніне. А вось яшчэ тры старыя, высахлыя дрэвы пакідаюць самае моцнае ўражанне. Адно з іх засланяе сабой сонца, што садзіцца за лесам. Святло шырокім веерам рассыпаецца ва ўсе бакі і стварае эфект жывых промняў. Застаецца толькі здагадвацца, што сімвалізуе гэты кадр. Можа, шчодрасць людзей сталага ўзросту, што, не шкадуючы сябе, дзеляцца жыццёвай энергіяй з наваколлем, часам не пакідаючы нічога сабе.

Мастак Рыгор Сітніца адзначыў на адкрыцці выстаўкі, што Анатоль Дрыбас убачыў праз аб'ектыў фотаапарата і стварыў у сваіх працах вобраз ідэальнай Беларусі, вобраз раю на зямлі. Паводле яго слоў, з'яўленне выстаўкі — гарантыя таго, што Беларусь такой і будзе.

***На здымку: Анатоль Дрыбас падчас адкрыцця персанальнай фотавыстаўкі.***

*У падтрымку чытання*

## «У глыбіні душы я вандроўнік»

Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА

Пачатак гэтага года адзначаны прэм'ерай. Дакументальны фільм "Цярновыя вянкі Алімпа", у якім расказваецца пра лёс Р. Кныша — трэнера Вольгі Корбут і іншых алімпійскіх зорак, — зняў Сяргей Лук'янчыкаў. Стужка закранае вострыя пытанні, якія звычайна застаюцца па-за ўвагай аматараў спартыўных спаборніцтваў.



**Рэжысёр Сяргей Лук'янчыкаў:**

— У дзяцінстве ў мяне мянушка ў двары была Філосаф. Усе ведалі, што я не б'юся, а калі на мяне нехта нападаў, абаранялі, не давалі ў крыўду. Я збіраў такія кніжкі, якія не чыталі іншыя — Канта ў гадоў 14 прачытаў. Праўда, нічога не зразумеў. Калі сур'ёзна, захапляўся літаратурай філасофскага зместу. Мне было цікава пранікаць у гэты свет філасофіі, развag. Тады мы толькі адкрылі, што ёсць Фрэйд.

Маці працавала дырэктарам кнігарні. Была магчымасць знаёміцца з усімі навінкамі — японская драматургія, французская. Сказаць, што быў прыхільнікам творчасці Льва Талстога, на жаль, не магу.

Захапляўся японскімі вершамі. У глыбіні душы я вандроўнік. Таму, відаць, з прычыны адсутнасці магчымасці вандраваць мяне вабіла такая літаратура. Коба Абэ і інш. Японская літаратура на мяне моцна паўплывала.

Класе ў сёмым прачытаў гісторыю дыпламатыі Лоўсана. А знайшоў яе... на сметніку. Нехта палічыў непатрэбнымі некалькі яго тамоў.

Толькі што скончыў чытаць у арыгінале раман-рэпартаж Раберта Савіана "Gomorra" пра мафію. Валодаю англійскай і італьянскай мовамі. Для мяне гэта своеасаблівае даследаванне — параўнаць тое, што на слыху, з арыгіналам. Жыву ў сённяшнім дні — сачу за навінкамі ў музыцы і кіно. Часта ўнучка звяртаецца за парадай, што пачытаць.

*Віражы сюжэта*

# Правілы небяспечнай гульні

Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА

**Творчасць Сяргея Трахімёнка вядома не толькі беларускаму чытачу, яго кнігі выходзяць сур'ёзнымі тыражамі ў Расіі і прэзентуюцца ў буйных кнігарнях Масквы. Вопыт тых прэзентацый ён скарыстаў, прадстаўляючы новую кнігу: імпрэза пачалася кадрамі з дакументальнай стужкі, у якой пра пісьменніка расказвалі літаратуразнаўцы, рэжысёры, сябры.**

Беларускія карані, служба ў арміі, заняткі адзінаборствамі і руплівая праца за камп'ютарам. Захапленне паэзіяй. Дарэчы, ён няблага спявае пад гітару песні на словы Аляксандра Вярцінскага, Мікалая Шыпілава, сучасных беларускіх паэтаў.

Яго прозвішча добра ведаюць тыя, хто цікавіцца дакументальным кіно. На рахунку пісьменніка вялікая колькасць кніг, якія на палічках не затрымліваюцца. Прыгадаем некалькі — "Родная крывинка", "Заказ на двадцать пятого", "Миллениум в Авсюках", "Диалектика игры", "Груз небесный"...

Аб'ядноўвае гэтыя творы бездакорна пабудаваны сюжэт, што з першай старонкі да апошняй не дае чытацкай увазе ні хвіліны перапынку. А яшчэ, безумоўна, асоба аўтара, які добра ведае прадмет, пра які гаворыць, і з павагай ставіцца і да чытача, і да сваіх герояў. Імкненне прааналізаваць усебакова тую ці іншую з'яву сучаснага жыцця вымагае менавіта такой пазіцыі. У якасці формы адлюстравання рэчаіснасці Сяргей Аляксандравіч часта выкарыстоўвае дэтэктыў.

Займальная форма дзеяння, якое хутка развіваецца, пранізана шматграннымі пластамі рэчаіснасці і ўтварае яркае палатно з разнапланавымі фігурамі. Фон для іх — як адносна далёкія ў часе падзеі, так і падзеі, зусім свежыя ў нашай памяці. Дзеянне ў "Записках «чёрного полковника»" ахоплівае каля пяцідзесяці гадоў — з моманту заканчэння Другой сусветнай вайны і да нашых дзён. Галоўны герой кнігі, Леанід Карбалевіч, супрацоўнік ведамства, назва якога вясёлай усмешкі ніколі не выклікала, — Камітэта дзяржаўнай бяспекі, атрымлівае ў спадчыну запіскі свайго настаўніка. Ён спрабуе перадаць іх на кінастудыю "Беларусьфільм", спадзеючыся, што ўспаміны і вопыт сапраўднага прафесіянала змогуць стаць сцэнарыем аб'ектыўнага фільма пра вялікае супрацьстаянне разведак у гады так званай халоднай вайны. Для Карбалевіча гэты ўчынак не толькі даніна памяці і павагі да настаўніка, але і прынцыповае пытанне — падкрэсліць важнасць справы, якой займаюцца яго калегі. Аўтар сцвярджае: супрацьстаянне — працэс, які не мае завяршэння. Сутыкаюцца інтарэсы дзяржаў у розных галінах чалавечага існавання. Калі раней гэта быў шпіянаж вакол ваенных баз, радыёпрапаганда, дыверсіі, сённяшнія намаганні бізнесменаў ад палітыкі вырашыць свае праблемы за кошт інтарэсаў іншай дзяржавы адрозніваюцца хіба толькі маштабам...

З дапамогай лаканічных дэталяў пісьменнік стварае карціну жыцця супрацоўнікаў спецслужбаў. З гумарам расказвае, як Карбалевіч робіць сабе "вузельчык на памяць", каб не забыцца пра ўспаміны Б. Н.: піша слова "рукапіс", згортвае з паперчыны кулёк, каб слова знаходзілася ўнутры, і пакідае на стале. Літаральна праз некалькі гадзін калегі пачынаюць задаваць пытанні — ці не піша Леанід мемуары. Працаваць у гэтае ведамства трапляюць лепшыя з лепшых, і адбор ідзе даволі жорсткі. Безумоўна, выбар пазбаўляе людзей многага. Закінуты па легендзе ў пасляваенную Германію агент не мае права распавесці пра гэта бацькам. Напрыканцы жыцця співаецца "чорны палкоўнік" Б. Н., без сям'і сустракае старасць Ухналёў, Карбалевічу былая жонка адмаўляе ў сустрэчах з сынам.

Але гэты выбар — паставіць інтарэсы дзяржавы вышэй за ўласныя — героі рамана робяць свядома і не адмаўляюцца ад яго на працягу ўсяго жыцця.

Дэбют



Надзея Статкевіч

*Нарадзілася ў 1986 г. у вёсцы Арэхаўка Магілёўскай вобласці. Скончыла гістарычны факультэт і магістратуру БДУ. Цяпер навуковы супрацоўнік НГАБ (Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі). Друкавалася ў часопісе "Маладосць", студэнцкіх газетах. Раман "Папялішча" цалкам будзе надрукаваны ў 5-м — 6-м нумарах "Маладосці".*

# Папялішча

## Урывак з рамана

Жалі штодзень ад усходу сонца і да змяркання. Не прыйсці ж было нельга, бо гайдукі, прыстаўленыя, каб назіраць за працай, добра выконвалі ўсе даручэнні пана Незабытоўскага. Нават за нявялікую правіну ці затрымку ў ход ішоў бізун. А праз два тыдні панскія палі былі пустыя.

Дзяўчатам жа свая радасць. Шукаюць у жыце падвойны колас і варожаць на замужжа.

Старыя бабы тым часам пачалі раіцца, каму надзець дажыначны вянок.

З гурта дзяўчат яны часцей пазіралі на трох: Ульяну, Галінку Панасаву і Дануту. Спрачаліся доўга, нарэшце жанчыны паклікалі Ульяніцу і надзелі ёй на галаву вянок, у які прыгожа былі ўплецены кветкі і стужкі. Апошні сноп жыта дзяўчаты таксама аздобілі кветкамі, потым надзелі спадніцу, завязалі паверх каласоў хустку і з песнямі панеслі на панскі двор.

Па дарозе Войцеха настаўляла Ульяніцу:

— Ты ж глядзі, каб усё добра было. Усміхайся пану і яго жонцы.

Ульяна кіўнула, а старая раптам нахілілася і шапнула:

— Яшчэ кажуць, што паніч малады прыехаў, ён у французаў вучыўся. Можа, таксама выйдзе, дык не стой як слуп, сама ж ведаеш. Будзь з ім ласкавая, бо і выбралі цябе таму, што не будзеш стаяць з адкрытым зевам, калі пан ці пані чаго запытаюць.

Жней сустрэлі самі гаспадары ў акружэнні дваровых людзей. Пан Незабытоўскі з жонкай і дзецьмі чакалі на ганку маёнтка. Данута глядзела на пані Марыю і дзівілася яе прыгажосці. Залацістыя валасы былі ўплецены ў складаную прычоску, якая ёй вельмі пасавала. Адзета пані была па апошняй модзе, у якую зусім нядаўна ўвайшла рагоўка. Яна трымала на руках маленькага Станіслава, а побач з імі стаяла гувернантка і лагодна ўсміхалася, калі выхаванец, як маленькі француз, вымаўляў завучаныя чужыя словы.

Пан Міхал не ўхваляў змен, якія адбываліся не толькі ў фасонах адзення і прычоскі, а і ў палітыцы дзяржавы. Гэта можна было заўважыць па яго знешнім выглядзе, дзе быў падкрэслены сармацкі дух. Незабытоўскі трымаўся годна, з гонарам. Часам ён паглядаў на дзяцей, падміргваў ім і ўсміхаўся. Было бачна, што яго весяліў сялянскі звычай.

Усе кропачкі маці ўвабрала ў сябе маленькая Людовіка. Такія ж бліскучыя малахіты вачэй, залатыя валасоў у доўгай касе, пераплеценай стужкамі і аздобленай шаўковымі кветкамі, сціплы позірк. Дзяўчынка стаяла побач у жоўценькай сукенцы і не адрывала вачэй ад Ульяны і вянка.

Пані Марыя паклікала дзяўчат. Яны абступілі гаспадыню і пачалі вадзіць карагод. Пані кружылася разам з імі і спявала. Малую Людовіку падхапілі пад рукі жнейкі і павялі ў карагод. Калі ж пані стамілася і спынілася, дзяўчаты скончылі танчыць. Ульяніца падышла і надзела ёй на галаву свой вянок, а пану аддалі "бараду". Гаспадыня пачала раздаваць жнейкам пернікі. Маленькая Людовіка стаяла каля маці, пасля нарэшце падышла і папрасіла:

— Падары і мне вянок.

Пані Марыя ўсміхнулася і перадала Ульяне свой вянок, які тая адзела на галоўку дзяўчынцы.

— Мама, можна, яна застанецца ў нас служкай? — папрасіла яна ў матулі.

Жанчына падумала крыху і адказала:

— Мне здаецца, што так, але, Луіза, ты сапраўды жадаеш, каб яна засталася ў нашым маёнтку? У цябе ўжо ёсць гувернантка.

— Так, але ж яна вучыць мяне французскай мове, а гэта дзяўчына будзе гуляць са мной. Яна мяне навучыць плесці такі ж прыгожы вянок, які ў яе на галаве.

Пані Марыя зірнула на мужа. Ён кіўнуў, і тады жанчына звярнулася да Ульяніцы:

— Застанешся ў маёнтку.

***

Старая Параска стаяла на каленях і падкладвала сушняк у полымя. Камін быў зграбненькі, абкладзены магілёўскай цэглай, ён добра абаграваў гэты пакой, адзін з самых халодных у маёнтку. Яшчэ колькі год таму, калі яе панначка толькі нарадзілася, старая папрасіла гаспадара збудаваць гэтую пячурку.

Зараз малая клалася спаць. Яна кружылася ў беленькай, з тонкага лёну сукенцы і смяялася да слёз. Адштурхнуўшыся ножкамі, яна падскоквала і даставала пальчыкамі да саламянага галубка, які вісеў над яе ложкам. Галубок пачаў гойдацца на аборцы і ціха шабуршэў пёркамі залацістых крыльцаў пры кожным дотыку да столі. Нарэшце Людовіка здаволілася і села.

— Бабцю, — паклікала раптам старую, — чаго ён тут вісіць? Толькі пыл збірае. Можа, выкінуць?

Параска пакруціла галавой і падышла да дзяўчынкі.

— Няхай вісіць, панначка. Я гэтую цацку зачапіла, калі ты з калыскі яшчэ без мяне не вылазіла.

— Нашто?

— Каб Сон прыходзіў.

Дзяўчынка здзівілася:

— Сон? А ён без гэтай птушкі не прыйдзе?

Параска заўсміхалася.

— Не. Увечары ціхенька паляжы, можа, што пачуеш.

— То як?

— Кожны вечар да цябе Сон прылятае.

Малая шырока расплюшчыла вочы.

— Раскажы, раскажы мне, бабцю, — стала прасіць і паляпала далонькай па коўдры. — Садзіся. Які ён, мой Сон?

Параска прысела і пачала распавядаць.

— Сон галубком прылятае, чапляецца лапкамі за парэнчы і крыльцамі цябе накрывае. Я ж тады сяджу і не рухаюся, каб не спужаць.

— Я яго магу бачыць?

— Не. Але калі раптам цёпленька стане, быццам маці лашчыць, то ведай — гэта Сон. Ты спіш, а птах пільнуе, каб розныя жахі ўначы не прыходзілі.

— І мой саламяны такі?

— То як жа, панначка.

— Тады няхай вісіць.

Яна супакоілася і ляжала ціхенька, разглядаючы саламяную птушку. Тут зарыпелі дзверы, і ў пакой увайшла Ульяніца. Яна прынесла дровы і паклала каля каміна. Пасля села на крэсла побач і пачала пераплятаць касу, з якой вылезлі непаслухмяныя пасмы залацістых валасоў. Людовіка цяпер зноў сядзела, трымаючы ў руках стужку чырвонага шоўку, ды цікавала за ёй.

— Учора да мяне Сон не прыйшоў, — раптам сказала яна.

— Мусіць, у іншай дзяўчынкі затрымаўся, — адказала Параска.

— Таксама паненкі?

— Ён да ўсіх дзяцей прыходзіць.

— Да ўсіх?

— Але.

— Як дзіўна. Яны ж халопы.

Параска засмяялася:

— Усе дзеткі аднолькавыя. З ручкамі, ножкамі, усе плачуць і смяюцца, да мамкі просяцца.

Людовіка задумалася, пасля зноў паглядзела на Ульяніцу.

— Учора я бачыла, як яна ноччу некуды пайшла, — зноў загаварыла.

Дзяўчына пераглянулася са старой, а Людовіка працягвала:

— Да мяне Сон не прыляцеў, вось і не спала.

Ульяніца пабялела і апусціла вочы.

— Я да буслоў хадзіла.

— Да якіх буслоў? — здзівілася дзіця.

— Учора было Узвіжанне, а на яго жораў у астатніх пытаецца, калі ляцець у вырай.

— Праўда?

— Так, — пацвердзіла Параска. — На полі зжатым усе буслы збіраюцца і гамоняць.

— Я таксама хачу гэта пабачыць!

Параска пакруціла галавой.

— Яны сёння адляцелі. Наступным разам пойдзем. Цяпер жа кладзіся спаць, Сон хутка павінен прыляцець, а калі не знойдзе на месцы, то пойдзе да іншай дзяўчынкі.

— Ой, — закрычала панначка і пабегла да ложка. — Я так не хачу! Я буду чакаць мой Сон!

Параска з Ульяніцай засмяяліся, а дзяўчо схавалася пад коўдру і замаўчала, але не вытрымала духаты і высунала галаву.

— Людовіка, — паклікала яе Параска.

— Што?

— Ты толькі пра буслоў нікому не гавары.

— Каб вусны адсохлі, калі каму раскажу.

Яна па-змоўніцку зірнула на Ульяніцу і засмяялася.

— Бабцю, — звярнулася яна да старой, — будзеш мне пець?

— А ты хочаш?

— Хачу.

— Дык чаму ж учора сказала, каб не пела? Дарослай сябе назвала.

Дзяўчынка сумелася і вінавата прамурчала:

— Адмовілася, бо бацька быў з Альбертам. Альберт з мяне смяецца, дражніцца, што малая.

Яна паглядзела на старую і засмуцілася. Нянечка сядзела на зэдліку і здавалася такой маленькай, старэнькай і сумнай, што малая не вытрымала і кінулася да яе. Ручкамі абхапіла Параску за шыю і зашаптала:

— Даруй мне, Парасачка. Я больш ніколі такога не скажу.

— Ды даўно даравала, мая песта.

Яна пасадзіла дзяўчынку на калені і пачала гушкаць.

— Раскажы пра змея, — папрасіла дзяўчынка.

— Навошта пра змея? Давай лепш пра вадзяніц, а то спужаешся і не заснеш.

— Не, спачатку пра змея, а пасля пра вадзяніц.

— Ну, добра. Жыў у нашай вёсцы чалавек. Нічога не меў: ні гаспадаркі, ні грошай, хлеб ніколі не еў. Але раптам разбагацеў. Каня купіў, хату адбудаваў, пачаў жыць добра. Вось і сталі людзі гаварыць, што яму грошы змей носіць, якога сам вывеў. Кажуць, што калі чорны певень пражыве сем гадоў, то пад канец апошняга знясе гаспадару яечка, якое нагадвае ракавінку смаўжа. Гэтае яйка носяць пад пахаю тры гады, пакуль не вылупіцца маленькае змяеня. Яго трэба песціць, трымаць у цяпле і карміць яечняй, бо калі вырасце, то пачне лятаць і адшукваць скарбы. Ці чулі такое калі?

Дзяўчаты пакруцілі галовамі. Тады Параска працягвала:

— Шмат хто лічыць, што змей той падобны на вужа ў золаце і з крыламі. Чула і такое, што гэта чалавек, але не веру. Ці ж будзе чалавек чалавеку грошы насіць за яечню? Людзі паўсюль злыя, сквапныя, за грош могуць забіць.

Яна спынілася і паглядзела на дзяўчат.

— Што, мае ясачкі, чаму прыціхлі? Лепш паслухайце пра вадзяніц, ці, як іх у нас яшчэ клічуць, купалак. Гавораць, што гэта маленькія дзяўчынкі, якія памерлі нехрышчонымі. Яны маюць доўгія-доўгія валасы, якія не заплятаюць у косы, і апранутыя ў празрыстыя сукенкі, а на галовах — вяночкі з белых кветак. Ёсць сярод вадзяніц і дочкі, праклятыя бацькамі яшчэ ў матчыным чэраве, і маладыя тапельніцы. Пасля Сёмухі на русальны тыдзень выходзяць яны з вады і пачынаюць гойдацца на галінах дрэў і водзяць карагоды. Тады да іх не варта падыходзіць, бо пачнуць казытаць, а пасля зацягнуць у раку і патопяць. Хто выратуецца, той усё роўна без пакарання не застанецца. У суседняй вёсцы, казалі, быў такі чалавек. Усю ноч вадзіў з імі карагоды, ды неяк збёг. Цяпер то не чуе нікога, а то раптам рагоча, як шалёны. Шкадуюць яго людзі, але дапамагчы нічто не можа.

Людовіка залезла пад коўдру і буркнула адтуль:

— Ну, бабцю, аж мурашы па скуры. А ты гаварыла, што пра змея на ноч нельга, бо страшней.

Тут зарыпелі дзверы, і ў пакой зазірнула пані Марыя.

— А я думала, што дзясяты сон бачыш, цурачка мая, — сказала яна.

— Не, мамка. Мне Параска пра вадзяніц распавядала.

Пані Марыя засмяялася:

— Зноў, Параска, пужаеш казыткамі?

Параска паружавела.

— Ды хіба я пужаю каго? Я што чула, тое маёй ясачцы і распавядаю.

Пані Марыя стаяла каля дзвярэй і паглядала на дачку. Вочы яе ззялі, бо прыгадала, як сама сядзела са сваёй нянечкай кожны вечар і слухала яе байкі. Тады было так добра, спакойна ў бацькоўскім маёнтку каля парку з мядовымі ліпамі, сярод якіх салодка пахлі здзічэлыя ружы.

З задумення яе вывеў Станіслаў. Яго ніхто напачатку і не заўважыў, бо малы сядзеў за спінай у маці, учапіўшыся маленькімі ручкамі за складкі рукавоў. Хлопчыку надакучыла быць аднаму без увагі, да якой прызвычаіўся, таму ён высунуўся з-за матчынага пляча і выкрыкнуў:

— Лудові-іка!

Засмяяўся срэбным званочкам і схаваўся зноў.

Сястрычка ўскінула і падбегла да яго.

— Матулечка, можна, я пакалыхаю?

Пані схілілася, і малая ўзяла брацікa на рукі.

— Станіслаў, ты мяне любіш? — пыталася дзяўчынка.

— Лублу.

— Лубіш! І я цябе. А давай зараз заказычу!

Малец пачаў выкручвацца, але не змог. Тады раптам ён заплакаў, спрабуючы такім чынам спыніць сястру. Людовіка ж не пускала, і малы паклікаў маці:

— Мама, мама, яна мяне крыўдзіць!

Нарэшце ён вызваліўся і пабег да ложка. У боціках ускараскаўся на яго і залез пад коўдру. Людовіка пачала стукаць па коўдры, каб Станіслаў выпаўз адтуль, але брацік адказваў звонкім смехам і зашыўся яшчэ глыбей.

— Стасік! Нашто ў ботах усцёгся?! Мне тады спаць пасля цябе, — крычала дзяўчынка.

— Ха-ха-ха! — толькі і даносілася з-пад коўдры.

— Не выкурыш!

— Параска, скажы яму! — крыкнула яна тады на служку.

Параска пачала ўгаворваць паніча.

— Родненькі, добранькі, выходзь, а то, барані божа, яшчэ захлынешся. Я табе казку распавяду пра вадзяніка, хочаш?

Станіслаў сцішыўся і высунуў галаву.

— Таго, што ў возеры жыве?

— То ж бо.

Малому спадабалася прапанова, і ён выпаўз са свайго схову. Пані Марыя кіўнула старой і звярнулася да сына:

— Ты, Стасік, ідзі з Параскай у свае пакоі, а я пасля прыйду цябе пацалаваць.

— Мама, я хачу з вамі! — стаў прасіцца ён.

— Я казку гэту чула, таму застануся з Людовікай. Параска табе дапаможа распрануцца і пакладзе спаць.

Яна ўсміхнулася.

— Ідзі, — буркнула Людовіка.

— Ну і пайду! Мамка, дай бусу!

Ён падбег да маці, і тая з пяшчотай пацалавала шухрая ў лобік.

Калі Параска вынесла яго з пакою, пані звярнулася да дачкі:

— Луіза, не крычы на брацікa. Ён маленькі яшчэ.

— Затое б'ецца моцна.

— Сама ж лезеш.

— Не.

— Што не?

Людовіка пачырванела і схіліла галаву. Пані кіўнула Ульяніцы, і тая выйшла за дзверы, а жанчына абняла дачку.

— Маму, я не хачу з ім біцца.

— Добра, — шапнула пані.

Вочы малой засвяціліся.

— Я сон добры сасніла.

— Які?

Дзяўчынка залезла пад коўдру і пачала распавядаць.

— Маці Божую бачыла. Гуляла па белым-белым садзе, і раптам з'явілася Прачыстая Дзева. Мамка, яна такая прыгожая!

— А чаму думаеш, што гэта была яна?

— Сама сказала.

— Сама?

— Так. А пасля ўзяла за руку і павяла па сцежцы.

— І ты пайшла за ёй?

— Я не хацела спачатку, але згадзілася. Толькі…

— Што?

— Мне цябе было шкада.

— Чаму? Я таксама там была?

— Ага. Ты мяне клікала, але Боженька мяне не адпусціў. Мама, гэта добры сон?

— Добры, Луіза, — сумна ўсміхнулася пані Марыя. — Боженька цябе любіць.

— Тады буду спаць. Яна сказала, што хутка да сябе забярэ, гуляць са мной будзе.

— Спі.

Пані Марыя дакранулася рукой да галавы і пацалавала дачку.

— Спі, доча.

— Мама, а я хачу, каб яна мне зноў прыснілася.

Вочы шляхцянкі напоўніліся слязамі.

— Не, доню, не трэба. А як іншым дзеткам? Яны таксама хочуць пагуляць з ёй.

Яна з пяшчотай лашчыла малую і ўсміхалася праз слёзы.

— Але калі ў наступны раз Боженька павядзе цябе, то скажы, што не можаш, бо мамка не хоча адпускаць.

— А як не згодзіцца?

— Тады папрасі жаласна, каб і мяне з вамі ўзяла.

— Дык мо і Стасіка, бо не застанецца адзін.

— І Стасіка.

— А тата з Альбертам няхай тут будуць. Я не хачу з імі.

— Няхай.

— То добра. Вы ідзіце, мамка. А то Сон да мяне не прыйдзе.

Яна накрылася і заплюшчыла вочы. Жанчына схіліла галаву, пацалавала дачку і пайшла да сябе.

# Спыніся, імгненне!

Галіна МАХАЕВА,
фота Віктара Зайкоўскага

**10 сакавіка народнаму артысту Беларусі, заслужанаму артысту РСФСР, лаўрэату дзяржаўных прэмій Уладзіміру Гасцюхіну споўнілася 65. Колькі за гады яго творчай дзейнасці сыграна роляў, колькі атрымана ўзнагарод і ў нашай краіне, і за мяжой! Не адзін аркуш спатрэбіцца, каб пералічыць усе яго акцёрскія ды рэжысёрскія заслугі ў кіно, у тэатры, на тэлебачанні.**



Шырокая палітра мастацкіх вобразаў Уладзіміра Гасцюхіна: шафёр, селянін, генерал, настаўнік, шахцёр, салдат, трэнер футбольнай каманды, следчы, атаман, здраднік, злодзей… Можна згадваць тут вядомыя беларускія ды расійскія фільмы з яго ўдзелам: "Узыходжанне", "Батанічны сад", "Вазьму твой боль", "Урга — тэрыторыя кахання", "Прыкаваны", "Вока за вока", "Ваўкі", тэлесерыялы "Дальнабойшчыкі", "Каманда".

Яго персанажы могуць быць трагічнымі або камічнымі, драматычнымі або лірычнымі, трагікамічнымі, station станоўчымі ці адмоўнымі. Але як сапраўдны мастак–рэаліст, ён аб'ядноўвае ў герою шмат адценняў, дзе можа быць і дадатнае, і дрэннае — толькі б гэта было апраўдана. Сам артыст кажа: "Мае героі будуць любіць або ненавідзець тое, што люблю або ненавіджу я, а я ніколі не пераступлю забароненую мяжу".

Асаблівае майстэрства У. Гасцюхіна выявілася ў працы над вобразамі з творчасці класікаў: М. Ляскова, А. Талстога, І. Буніна, А. Чэхава, Я. Баршчэўскага, М. Шолахава, В. Быкава, А. Адамовіча, С. Ясеніна. Гледачы штораз пазнавалі герояў, добра знаёмых нам па літаратуры, але кожны раз гэта было адмысловае ўспрыманне праз прызму акцёрскай індывідуальнасці У. Гасцюхіна. А нядаўна мы ўбачылі яго новую вялікую работу ў тэлесерыяле "У лясах і на гарах", паказаным на канале РТР. Роля купца Патапа Чапурына была сыграна У. Гасцюхіным настолькі ярка, пераканальна, натхнёна, што хацелася выгукнуць: "Спыніся, імгненне, ты — цудоўнае!"

Тэлесерыял "У лясах і на гарах" (рэжысёр В. Нікіфараў, сцэнарысты В. Раманаў і М. Раманава) створаны паводле дылогіі вядомага рускага пісьменніка XIX стагоддзя А. Мельнікава–Пячэрскага. У рамане вялікая ўвага надаецца лёсу раскольніцкага руху, але гэты матэрыял сёння зацікавіць хутчэй гісторыкаў, чым звычайных гледачоў. Таму, пазначыўшы тэму раскольніцтва пэўнай сюжэтнай лініяй, галоўную ўвагу стваральнікі фільма аддалі тэме купецтва. Жыццё і побыт купцоў Заволжа ў тэлесерыяле малюецца грунтоўна і замілавана. У адпаведнасці з раманам паказаны і вобраз купца Патапа Максімыча Чапурына. У ім аўтар увасобіў лепшыя якасці рускага нацыянальнага характару: працавітасць, сумленнасць, дабыню, гумар, спагаднасць да чужой бяды. Акцёр У. Гасцюхін "купаецца" ў гэтай ролі. Вось мы бачым яго на кірмашы. Гэта самавіты, салідны чалавек, купец-"тысячнік", якога ведаюць і паважаюць усе купцы ў горадзе. Кожны мкнецца яму пакланіцца. А ён усё прымячае, да ўсяго прыцэньваецца і дзякуючы свайму прыроднаму розуму ды кемлівасці выгадвае чатыры капейкі на рубель.

І дома ён гаспадар, яго ўсе шануюць ды пабойваюцца. Толькі з'яўляецца, як дочкі Наста і Праскоўя кідаюцца насустрач, дапамагаюць распрануцца; жонка са слугамі рыхтуе стол, а ён з усмешкай і любоўю надзяляе ўсіх падарункамі. Аднак раз'юшаны робіцца Патап Максімыч, калі Настачка яго не паслухалася, загадвае замкнуць яе на ключ... А вось наш герой прыгнечаны і прыніжаны ў сцэне з Аляксеем, дзе той зневажае ягоную годнасць купца і чалавечы гонар пры аплаце пратэрмінаванага вэксаля. Стрымлівае сябе Патап Максімыч, слоўка лішняга не кажа, толькі вочы блішчаць, вусны сціснутыя ды руку крыўдзіцелю не дае. Калі ж яго падманулі махляры "вятлужскім золатам", заўважна, як герой У. Гасцюхіна зусім разгубіўся... Ды ўрэшце мы бачым шчаслівага чалавека, якога лёс "панавучаў" і ён, палагоднеўшы, дае дазвол на шлюб дачкі Праскоўі з Васілём Барысавічам.

Уладзімір Гасцюхін па-майстэрску паказаў купца Чапурына ў адпаведнасці з літаратурным персанажам і, галоўнае, прадставіў вобраз у развіцці, шматпланава.

# Натхняе ўсё…

Таццяна ПЕСНЯКЕВІЧ

(Працяг. Пачатак на стар. 1.)

**— Што натхняе вас на творчасць?**

— Калі Ахматава пісала пра тое, што натхняе яе:

*"Когда б вы знали, из какого сора*
*Растут стихи, не ведая стыда,*
*Как жёлтый одуванчик у забора,*
*Как лопухи и лебеда.*
*Сердитый окрик,*
*запах дёгтя свежий,*
*Таинственная плесень на стене…*
*И стих уже звучит,*
*задорен, нежен…"*

— я думаю, яна не хітравала. На пытанне пра тое, што натхняе мяне на творчасць, можна адказаць адным словам: "Усё!" Нават калі ты атрымліваеш канкрэтную прапанову ад дырыжора ці выканаўцы напісаць твор, асацыятыўныя вобразы, якія выклікае гэтая прапанова, часам бываюць нечаканымі нават для мяне самой. І растлумачыць гэты таямнічы працэс я не магу.

**— Брамс казаў: "Хутчэй мужчына народзіць дзіця, чым жанчына напіша добрую музыку". Сафія Губайдуліна лічыць, што гэтыя словы ўжо гучаць несур'ёзна і ёсць шмат прыкладаў, калі дзяўчаты-кампазітары праяўляюць сябе ў творчасці нашмат ярчэй, чым юнакі. Ці згодная вы, як педагог, з гэтым?**

— Тое, што казаў Брамс, я думаю, ён казаў не ў прысутнасці Клары Вік і не пра Клару Вік, якую глыбока шанаваў, як і яе опусы. Але жанчыне самой прыродай адведзена пэўная роля: нараджэнне прадаўжальнікаў роду чалавечага, і ніхто, акрамя яе, гэта не зробіць. У гэтай уласцівасці закладзена і яе сацыяльная роля, якая, зразумела, адрозніваецца ад сацыяльнай ролі мужчыны. Займаючыся творчасцю, жанчына павінна траціць больш энергіі, чым мужчына, бо ёй даводзіцца пастаянна пераключаць увагу на мноства чыста жаночых абавязкаў. Але, урэшце, яна сама вызначае, чым ёй займацца ў жыцці. Талент жа ў прынцыпе не выбірае пол чалавека. Сёння ў нас кампазіцыі навучаюцца пераважна дзяўчаты, але кампазітарамі становяцца адзінкі — як мужчыны, так і жанчыны.

**— Якую ролю адыгралі ў вашым жыцці настаўнікі і што вас сёння хвалюе ва ўласнай педагагічнай дзейнасці?**

— Настаўнікамі я магу назваць усіх, каго сустрэла ў сваім жыцці. Адны давалі мне прыклад, як трэба годна жыць і ствараць. Гледзячы на іншых, я вучылася, чаго не трэба рабіць ні ў якім разе. Безумоўна, вызначальную ролю ў маім лёсе адыграў мой галоўны настаўнік Дзмітрый Браніслававіч Смольскі, які сфарміраваў мяне і як прафесіянала, і шмат у чым як асобу. Але маімі настаўнікамі былі і такія сапраўдныя музыканты, як Кім Цесакоў, Рычард Буцвілоўскі, у якіх я займалася ў Мінскім музычным вучылішчы. У асістэнтуры-стажыроўцы Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі я павышала сваё майстэрства ў патрыярха беларускай музыкі Анатоля Васільевіча Багатырова. Безумоўна, вельмі многа мне далі стасункі (на шматлікіх майстар-класах) з прафесарам Маскоўскай кансерваторыі Юрыем Аляксандравічам Фартунатавым. Акрамя таго, я заўсёды давярала парадам і заўвагам маіх старэйшых калег — Льва Абеліёвіча, і Генрыха Вагнера, і Сяргея Картэса, і Андрэя Мдзівані. У маёй уласнай педагагічнай дзейнасці я імкнуся не забываць свае адчуванні студэнцкіх гадоў і вельмі радуюся, калі ў маім класе з'яўляюцца здольныя вучні.

**— Які галоўны кірунак у вашай творчасці сёння, з кім з выканаўцаў супрацоўнічаеце?**

— Наблізіўшыся да ўзросту, калі Вечнасць з'яўляецца для цябе бліжэйшай перспектывай, пачынаеш цікавіцца пытаннямі Вечнасці. Таму ў філасофска-этычным сэнсе цяперашні кірунак маёй творчасці вызначаецца такімі творамі, як аркестравая п'еса, напісаная па ініцыятыве Юрыя Башмета і сыграная ім, "Ingemisco" ("Виновный, вздыхаю и каюсь…"); напісаны ў дні смутку каля паміраючай матулі "Notturno degli incurabili" ("Накцюрн невылечных"); маленькая, але вельмі важная для мяне п'еса "И видел сон в раю Адам…", альтовы і гітарны канцэрты, Канцэрт для ўдарных ды іншыя творы.



А з тэхналагічнага боку ў розныя перыяды майго жыцця сам напрамак творчага працэсу вызначала супрацоўніцтва з тым ці іншым выканаўцам. Калі я мела стасункі з маімі сябрамі-вакалістамі і выдатным канцэртмайстрам Ларысай Максімавай, я пісала багата вакальнай музыкі. Затым быў, калі можна так сказаць, "флейтовы напрамак", затым — перыяд твораў для трубы. У апошнія дзесяць гадоў я напісала шмат музыкі для альта, бо дзякуючы цудоўнаму педагогу Лючыі Ластаўцы ёсць каму іграць сучасную альтовую музыку, дзякуй Богу. Некалькі п'ес я напісала для Ансамбля салістаў "Класік-Авангард". Калісьці гэты ансамбль уразіў мяне сваім прафесіяналізмам, яркасцю і шырынёй стылёвага дыяпазону. Цяпер шмат пішу для ўдарных інструментаў, таму што ў нашай краіне сёння проста найвыдатныя ўдарнікі! Бліскучаму выканаўцу сучаснай музыкі і яе вялікаму энтузіясту Мішу Канстанцінаву, з якім мы актыўна супрацоўнічаем апошнім часам, я прысвяціла Канцэрт для ўдарных інструментаў.

**— Ці быў у вашым жыцці хаця б адзін момант, калі вы цалкам былі задаволены сабой?**

— Ніколі!

*За гэтым "ніколі" паўстае складаны, невытлумачальны, пакутлівы, але такі шчаслівы працэс пошукаў гармоніі быцця. І няхай новыя творы Галіны Гарэлавай зноў здзіўляюць нас адчуваннем хараства і непаўторнасці жыццёвых дробязей, тонкасцю перажыванняў, прымушаюць узняцца над штодзённасцю і ўдыхнуць паветра вышынь чыстай Прыгажосці!*

***На здымку: у класе прафесара БДАМ Галіны Гарэлавай — студэнты кафедры кампазіцыі Віка Спарыш і Сяргей Бадалаў.***

## ART-пацеркі

Лана ІВАНОВА

З гэтага месяца Нацыянальны акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета Беларусі перайшоў на новую электронную цэнтралізаваную сістэму распаўсюджвання білетаў. Набыць білет можна, не выходзячы з дому, праз Інтэрнэт (е-квіток), расплаціўшыся з дапамогай пластыкавай карткі ды раздрукаваўшы "пропуск" на спектакль, скарыстаўшыся звычайным прынтарам. Новая паслуга — вынік партнёрства НАВТ з кампаніяй "Квіткі Бел", якая плённа працуе ў Літве ды Украіне. Дарэчы, пастаянна пашыраецца колькасць кас гэтай кампаніі, дзе можна купіць білеты ў рэжыме рэальнага часу, атрымаўшы іх адбітак на спецыяльнай тэрмапаперы (штрых-код кожнага такога білета "счытваецца" на ўваходзе ў тэатр з дапамогай партатыўнага сканера).

Над новым спектаклем працуе калектыў Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы. Гэта будзе безумоўна арыгінальнае відовішча пад назвай "Тэатр Уршулі Радзівіл", вызначанае як нясвіжская арлекінада ў 2-х дзеях. Тэксты Францішкі Уршулі Радзівіл у перакладзе Наталлі Русецкай, зведаўшы сцэнічную адаптацыю Сяргея Кавалёва, набудуць увасабленне ў рэжысуры Мікалая Пінігіна ды ў вобразнай інтэрпрэтацыі мастака-пастаноўшчыка Вольгі Мацкевіч. Таксама спрычыніліся да стварэння "Тэатра Уршулі Радзівіл" кампазітар Андрэй Зубрыч, балетмайстар Наталля Фурман і, вядома ж, акцёры-купалаўцы.

Эл Джэра — сусветная легенда, чалавек-аркестр, унікальны джазавы спявак, уладальнік васьмі ўзнагарод "Грэмі" ў розных намінацыях, ушанаваны персанальным знакам на знакамітай Алеі зорак у Галівудзе, — упершыню завітаў у Беларусь. Выступленне мега-зоркі са Злучаных Штатаў Амерыкі ды яго аркестра адбылося на сцэне Беларускай дзяржаўнай філармоніі ў межах еўрапейскага турнэ. Гэты канцэрт-падзея, трансляцыю якога наладзіла Беларускае тэлебачанне, стаўся чарговым супольным праектам БДФ і кампаніі "Берын Арт Менеджмент".

Майстар-клас "Праца з духавым ансамблем" правёў у Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі доктар мастацтвазнаўства, прафесар Маскоўскай дзяржаўнай кансерваторыі імя П. Чайкоўскага Валерый Бярэзін. Пасля заканчэння майстар-класа студэнты кафедры драўляных духавых інструментаў БДАМ выступілі з канцэртам. У праграме былі прадстаўлены творы кампазітараў розных народаў і часоў, у тым ліку М. Аладава, В. А. Моцарта, М. Радзівіла, Дж. Расіні, А. Туранкова, П. Чайкоўскага. Між тым у акадэміі музыкі рыхтуецца выбітны фартэпіянны канцэрт, абвешчаны на 15 сакавіка і прысвечаны 200-годдзю з дня нараджэння піяніста-віртуоза ды кампазітара Феранца Ліста. Выканаўцы — студэнты класа прафесара Зоі Качарскай.

# Спасцігаючы сябе

Святлана БЕРАСЦЕНЬ,
Віктар КАВАЛЁЎ,
фота Віктара Кавалёва

**Мастацка-асветніцкае свята "Заслаўе-2011" распачало сезон фестываляў Нацыянальнага акадэмічнага канцэртнага аркестра Беларусі. Арганізатары імпрэзы, якая ладзіцца знаным калектывам пад кіраўніцтвам маэстра Міхаіла Фінберга пры падтрымцы Мінскага аблвыканкама, Мінскага райвыканкама ды мясцовых улад, бачаць у гэтай падзеі пэўную сімвалічнасць. Менавіта легендарны прытулак Рагнеды і Ізяслава быў першым на шляху гістарычнага абнаўлення, хрысціянізацыі духоўнага жыцця Беларусі, дый сёння старажытны горад адкрывае гадавы цыкл унікальных фэстаў аркестра, што напаўняюць новым духоўна-эстэтычным сэнсам жыццё ўжо многіх куткоў беларускай глыбінкі.**

Той дзень у Заслаўі ўлучыў у сябе чараду пазнаваўчых і змястоўных падзей, паяднаных дэвізам: "Майстэрства дзеля будучыні". У Заслаўскай дзіцячай школе мастацтваў прайшлі, выклікаўшы захапленне навучэнцаў і выкладчыкаў, майстар-клас заслужанага дзеяча мастацтваў, доктара навук, прафесара Уладзіміра Скараходава і творчая сустрэча з ансамблем флейтыстаў, якім ён кіруе. Цэнтральная праграма дня, што атрымала назву "Скарбніца Рагнеды", прадставіла музыку славутых дынастый (Агінскія, Радзівілы, Ельскія, Карловічы), а таксама наноў адкрыла для музычнай прасторы Беларусі адметную нацыянальную постаць XX стагоддзя — Дзмітрыя Лукаса. Да 100-годдзя з дня нараджэння гэтага вядомага ў свой час кампазітара, гутарыць з якім калісьці неаднойчы даводзілася і супрацоўнікам "ЛіМа", камерныя калектывы аркестра падрыхтавалі адмысловы і ёмісты букет прэм'ер. А заключным акордам фестывальнага дня сталася праграма "Лепшыя песні" з удзелам лаўрэатаў міжнародных і рэспубліканскіх конкурсаў, выбітных музыкантаў Нацыянальнага акадэмічнага канцэртнага аркестра Беларусі, яго салістаў-спевакоў, вакальнай групы ды балета. Гэта была, дарэчы, ужо 121-я асветніцкая імпрэза, праведзеная заслужаным калектывам за ўсю гісторыю фестывальнага руху, разгорнутага аркестрам у невялікіх нашых гарадах і мястэчках.


Вакальны ансамбль пад кіраўніцтвам Наталлі Міхайлавай.

Кожны дзень рэдакцыйнага жыцця, кругабег сталічных мастацкіх падзей і звязаныя з імі новыя ўражанні, здавалася б, маглі вельмі хутка адсунуць у дальнія куткі памяці сёлетнія заслаўскія сустрэчы. Аднак жа — не: калі-нікалі ўспомніцца кранальная шчырасць і простасць, інтанацыйная самабытнасць мелодый Дзмітрыя Лукаса; выразнасць інструментальных транскрыпцый Генрыха Гедыльтара; шыкоўнасць аркестровак Андрэя Шпянёва; стылёвая чысціня і трапная жанравасць гучання ансамбляў драўляных духавых інструментаў (кіраўнікі Генадзь Забара, Уладзімір Скараходаў, Іван Брычыкаў); сонечная энергетыка звонкагалосых труб ("Інтрада", узгадаваная Мікалаем Волкавым); кантылена струннага квартэта (кіраўнік Антаніна Казлова); пранікнёнасць вакальнага ансамбля (хормайстар Наталля Міхайлава); пачуццёвая хваля аркестравага крашчэнда (дырыжор Валерый Сарока) і ўзлёт душы ў натхнёным сола скрыпкі Святланы Іванюковіч...

Успомніцца і тое, на што звярталі ўвагу падчас напоўненых музыкай заслаўскіх сустрэч нашы суразмоўцы — народны артыст Беларусі, мастацкі кіраўнік фестывалю Міхаіл Фінберг; доктар мастацтвазнаўства, навуковы кіраўнік і вядучая фестывальных праграм Вольга Дадзіёмава; старшыня Заслаўскага гарвыканкама Ніна Бухавец.

## Міхаіл Фінберг: "Я супраць камерцыйных падыходаў у падрыхтоўцы новага слухача".

*Да падрыхтоўкі нашых музычна-асветніцкіх свят мы падыходзім вельмі адказна, таму што праз іх нібы адчыняем дзверы новаму мастацтву — новаму для нас сённяшніх, бо гэтае мастацтва, вядомае раней, цяпер, можна сказаць, не ведае ніхто. Пачыналі ладзіць святы, звяртаючыся да музычнай спадчыны XVII, XVIII, XIX стагоддзяў, а цяпер наш калектыў разгортвае ў фестывальных праграмах незнаёмую беларускую музыку XX стагоддзя, якая, на наш погляд, незаслужана не гучыць: ні на канцэртных пляцоўках, ні на радыё. На жаль, амаль забытая творчасць Дзмітрыя Лукаса — заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі. Выпускнік Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі па класе кампазіцыі Васіля Залатарова, ён быў пранікнёны меладыст, лірык, пісаў у розных жанрах: сімфоніі, п'есы для камерных ансамбляў, рамансы, песні, музыку для харавых калектываў, да кінафільмаў. Асаблівае месца ў гісторыі айчыннай культуры заняла опера Лукаса "Кастусь Каліноўскі". А яго мелодыі з фільмаў адметныя тым, што ў іх арганічна ўпляліся інтанацыі беларускага музычнага фальклору. Нагадаю, што менавіта ў рэчышчы адраджэння музыкі беларускіх кампазітараў-класікаў XX стагоддзя наш аркестр робіць апошнім часам канцэрты прэм'ер Мікалая Чуркіна, Яўгена Глебава, Анатоля Багатырова, Льва Абеліёвіча, Генрыха Вагнера. Да сёлетняга, першага фэсту ў Хойніках падрыхтавалі праграму, прысвечаную Рыгору Пуксту. На "Чачэрскіх сустрэчах" прадставім творчасць Аляксея Туранкова* (між іншым, правядзенне свята "Заслаўе-2011" супала са 105-й гадавінай з дня нараджэння гэтага кампазітара. — **Рэд**.). *Як паказала наша шматгадовая фестывальная практыка ў Нясвіжы і Заслаўі, галоўны плён і сэнс у тым, што праз гэтую мастацка-асветніцкую традыцыю нам удаецца абудзіць цікавасць людзей да высокага мастацтва, адукаваць сваю аўдыторыю і ўзгадаваць новае пакаленне слухачоў. І адбываецца гэта далёка ад сталіцы і абласных цэнтраў, дзе, дарэчы, такую справу не робіць ніхто. Я неаднойчы звяртаўся да кіраўнікоў філармоній, але ж не заўсёды знаходзіў з імі паразуменне ў арганізацыі такога руху. Я супраць камерцыйных падыходаў у падрыхтоўцы новага слухача, які б ведаў тое, што было ў беларускай музыцы пры канцы XX і пачатку XXI стагоддзя, бо наша галоўная мэта — асветніцтва і выхаванне.*

## Вольга Дадзіёмава: "Ці ж нармальна, што на сённяшні дзень у музычнай рэальнасці ўтварылася бездань паміж XX і XXI стагоддзямі?"

*Узнаўленне класічнай спадчыны, той музычна-асветніцкі працэс, які дзякуючы ініцыятыве Нацыянальнага акадэмічнага канцэртнага аркестра разгортваецца ў многіх гарадах, — з'ява невыпадковая. Кожны з нас адчувае настальгію па нармальнай музыцы, па класічнай музыцы, па зразумелых, добрых, гуманных, празрыстых мелодыях, што ідуць ад сэрца. Музыка XX стагоддзя, скіраваная на высокія ідэі, ідэалы, гучыць у фестывальных канцэртах дзякуючы ініцыятыве Міхаіла Фінберга, сведкі музычнага жыцця Беларусі мінулага стагоддзя, знаўцы тых кампазітараў ды іх творчасці.*

*Ён прапанаваў і навуковы падмурак гэтага вялікага праекта па адраджэнні сучаснай, але ўжо забытай музыкі: яе трэба прапагандаваць, бо вырасла пакаленне, якое нават прозвішчаў Чуркіна, Аладава, Туранкова, Лукаса не ведае. Ці ж нармальна, што на сённяшні дзень у музычнай рэальнасці ўтварылася бездань паміж XX і XXI стагоддзямі? Усё, што адбывалася ў тым стагоддзі, з якога мы ўсе родам, паступова нібы сыходзіць у пясок. Баюся, што пры такім стаўленні грамадства да сур'ёзных здабыткаў сваёй культуры калі-небудзь у будучыні нашым спадкаемцам давядзецца аднаўляць музыку XX стагоддзя гэткім жа чынам, як нам з Уладзімірам Скараходавым давялося ўзнаўляць музыку кампазітараў XVI — XIX стагоддзяў. Калі не было яшчэ гэтых фестываляў ды нават самой ідэі пра іх; калі ніхто не ведаў прозвішчаў старадаўніх кампазітараў, чыю музыку мы цяпер прадстаўляем у праграмах, Уладзімір Паўлавіч першы, на сваю рызыку, без надзеі на поспех, пачаў выдаваць гэтыя творы. Чвэрць стагоддзя таму нотны, навуковы, выдавецкі падмурак складаўся менавіта ў колішнім Беларускім інстытуце праблем культуры, гэтак званым "Інстытуце Скараходава". Тая праца, якую разгортваў ён, сёння працягваецца ў канцэртным увасабленні. Але, падкрэслю, без падтрымкі афіцыйнай, дзяржаўнай, выдавецкай гэта б не здзейснілася, і мы з Аляксандрам Капілавым, Аленай Ахвердавай ды іншымі калегамі заставаліся б да сённяшняга дня дзівакамі, якія ездзілі па замежных архівах, шукалі ноты, рабілі копіі ды імкнуліся хоць неяк увесці ў мастацкую практыку забытую беларускую музычную спадчыну.*

*Ідэя галоўнай праграмы "Заслаўя-2011" вынікала з праблемы, над якой я працую ў навуковым рэчышчы: парадокс разлому эпох, які мае месца ў гісторыі музычнай культуры Беларусі. Таго разлому, які назаўсёды аддзяліў стагоддзе дваццатае ад папярэдніх. Прычым аддзяліў па зусім аб'ектыўных прычынах, інакш і быць не магло. Беларускія класікі нацыянальнага музычнага мастацтва XX стагоддзя не маглі ў рэаліях свойго часу ўсведамляць сябе нашчадкамі кампазітараў папярэдніх эпох, у адрозненне ад іх рускіх, польскіх, нямецкіх, італьянскіх майстроў, у якіх станаўленне нацыянальнай школы і "рух да сябе" быў беспярашкодны. У сваю чаргу кампазітары XVIII — XIX стагоддзяў не маглі зрабіцца тымі папярэднікамі, на творчасці якіх магла б, як на падмурку, разгарнуцца нацыянальная школа, бо яны не былі прадстаўнікамі нацыянальнага беларускага мастацтва. Яны працавалі ў Беларусі, на беларускай зямлі, якая не называлася Беларуссю, дзе беларуская мова не была дзяржаўнай, дзе не магло быць адзінай, плённай і бездакорнай нацыянальнай ідэі, якая спараджала ў іншых краінах промні і выбухі нацыянальнага мастацтва яшчэ ў XVIII — XIX стагоддзях. Вы ж ведаеце спецыфічны лёс Беларусі, якая станавілася донарам для іншых культур, а свой лёс прыносіла ў ахвяру. Разлом эпох — факт. На сённяшні дзень мы проста рэканструіруем непарыўнасць музычнага працэсу, як бы кампенсуючы тыя парадаксальныя зломы, якія спазнала наша гісторыя. Менавіта таму ў сёлетняй заслаўскай праграме паяднался, здавалася б, незлучальнае. Музыка дынастый, самыя першыя прадстаўнікі якіх былі апантанымі дзеячамі Беларусі, жылі ў Беларусі, спрадвеку вялі свой радавод з Беларусі: Агінскія, Радзівілы, Карловічы, Ельскія. Сёння іх музыка яднаецца ў адзінай прасторы на заслаўскай зямлі, якая спрадвеку яднала духоўныя каштоўнасці. Улучаецца ў гэтую прастору і музыка беларускага савецкага кампазітара Дзмітрыя Лукаса. Каб не ўтварыўся ў нашай музычнай гісторыі яшчэ адзін разлом эпох, паміж XX і XXI стагоддзямі, — вось на гэтую ідэю мы працуем сёння.*

## Ніна Бухавец: "Ёсць спадзяванні, што статус турысцка-рэкрэацыйнага спадарожніка надасць новы ўздым і развіццё нашаму гістарычнаму гораду".

*Жыхары Заслаўя кожны год чакаюць традыцыйны фестываль, свята музыкі, песні, высокага майстэрства. Ён дае творчы ўздым на ўвесь каляндарны год. Горад з годнасцю адзначыў сваё 1025-годдзе. Гісторыка-культурны музей-запаведнік "Заслаўе", дзіцячая школа мастацтваў, установы культуры падтрымліваюць і працягваюць нашы слаўныя традыцыі, у ліку якіх і штогадовае свята музыкі, арганізаванае знакамітым аркестрам. Мінулы год быў знакавы тым, што Заслаўе ў ліку 9 населеных пунктаў краіны стаў горадам-спадарожнікам. Ёсць спадзяванні, што статус турысцка-рэкрэацыйнага спадарожніка надасць новы ўздым і развіццё нашаму гістарычнаму гораду. "Турысцка-рэкрэацыйны" — гэта азначае, што сюды не плануецца вынас прамысловых прадпрыемстваў са сталіцы. Будзе больш будавацца жылля, аб'ектаў сацыяльна-культурнага прызначэння. У горадзе на сёння больш як 600 прадпрыемстваў розных форм уласнасці, 93 працэнты з іх прадстаўляюць недзяржаўны сектар эканомікі. У Заслаўі рэалізуецца шмат інвестыцыйных праектаў, ідзе рэканструкцыя вяслярнага канала, плануецца будаўніцтва бальніцы, абновіцца рэспубліканская аўтатраса ў напрамку Маладзечна. Нараджальнасць у нас павялічваецца, будуецца жыллё, узводзяцца новыя гандлёвыя аб'екты. Усе ўмовы ствараюцца, каб горад развіваўся. І як добра, што ў ім ужо ёсць свой традыцыйны музычны фестываль!*

Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ

# Сем гадоў у ЦК

**У бліжэйшых нумарах часопіс "Полымя" распачне публікацыю дзённікаў вядомага літаратуразнаўца і пісьменніка, акадэміка НАН Беларусі У. В. Гніламёдава. Аповед тычыцца сямі гадоў, якія аўтар правёў на адказнай працы ў ЦК КПБ (1969 — 1976 гг.), дзе на той час вырашаліся прыярытэтныя пытанні грамадскага, палітычнага і культурнага жыцця краіны. Курыруючы Саюз пісьменнікаў БССР, У. Гніламёдаў непасрэдна ўдзельнічаў у вырашэнні згаданых праблем і пытанняў. Прапануем чытачу фрагменты з дзённікаў У. Гніламёдава.**

*Аддзел крытыкі штотыднёвіка "ЛіМ"*

**1969 г. 11 лютага.** Выклікалі ў ЦК. Гутарыў са мной, больш гадзіны, загадчык аддзела культуры. На шыльдзе яго кабінета прозвішча: Марцалеў. Пытаўся пра Інстытут: "Як там Барысенка?" Што магу сказаць пра Барысенку я, малодшы навуковы супрацоўнік, "мэнээс", як кажуць у Акадэміі?

— Калектыў яго паважае.

Гаворым з маім суразмоўцам па-беларуску.

— Гэта добра, што вы прайшлі вывучку ў акадэмічным інстытуце. Інстытут нешта дае…

— Не скарджуся.

— Якое ваша сямейнае становішча?

Гэтага пытання я не люблю, але даводзіцца адказваць.

— Халасцяк, адзін, бацькі жывуць у Брэсце.

— А ў вайну?

— Жылі ў вёсцы, працавалі на гаспадарцы.

— А дзе ўступалі ў партыю?

— Калі служыў у войску.

— Ну, там прымаюць усіх, — пасміхнуўся мой субяседнік і зашамацеў паперамі, што ляжалі перад ім на стале.

Што праўда, дык праўда. Мяне прымалі — угаварыў зампаліт старшы лейтэнант Балтабаеў, каб не хадзіў у самаволку. Сорамна камуністу бегаць у самаволку. Але партыйную пазіцыю я падзяляю.

На "гражданцы" ўступіць у партыю — тым, хто гэтага хоча, — складаней. Тут разнарадка, ліміт. Інтэлігенцыю ў апошнюю чаргу. Між тым, падхадзяшчыя людзі ёсць. Колькі гадоў назад у Інстытуце прымалі ў партыю Адама Іосіфавіча, я быў старшынёй схода. Добры, прынцыповы камуніст з яго атрымаўся.

— Ну, харашо, — падагульніў субяседнік нашу размову, — можаце ісці, але з Інстытута не адлучайцеся, бо можаце спатрэбіцца.

Зачыніў за сабой дзверы (яны былі падвойныя), развітаўся з сакратаркай, немаладой ужо бландзінкай са спушчанымі на скроні бледнымі кудзеркамі, па калідоры прайшоў да лесвіцы. З аднаго боку вокны, з другога — кабінеты. На дзвярах — шыльдачкі з прозвішчамі партработнікаў. Усё — па-беларуску. Страшэнна цікава, як гэта яны тут усім кіруюць.

Успомніліся мае прафесары Перкін і Пшыркоў, якія расказвалі, як яны ў пачатку 50-х гадоў пісалі для сакратара ЦК КПБ нейкага Іаўчука па яго патрабаванню даведку аб стане тагачаснай беларускай літаратуры. У даведцы былі адзначаны без указання на канкрэтных пісьменнікаў некаторыя недахопы, уласцівыя бягучаму літаратурнаму працэсу. Неўзабаве даведка з'явілася ў "Советской Белоруссии", але ўжо як установачны артыкул за подпісам самога Іаўчука. У канцы была прыпіска: "Досадных ошибок в осмыслении литературного процесса не удалось избежать и научным сотрудникам Института литературы Перкину и Пширкову".

**19 красавіка.** Паклікалі ў ЦК на гутарку з сакратаром па ідэалогіі Пілатовічам.

— Вы не гаварыце, больш слухайце, — папярэдзіў Марцалеў. — Тут не прынята разглагольстваваць.

Падняліся на пяты паверх. За сталом, пакрытым тоўстым зялёным сукном, сядзеў яшчэ не стары, чарнавалосы чалавек з суперсуровым, іспытуючым позіркам. На мяне паглядзеў недаверліва, нібы выпрабоўваў, на што я здатны. Гэта і быў Пілатовіч, сакратар ЦК. Удакладнілі некаторыя мае анкетныя дадзеныя.

— Падняў галаву рэвізіянізм, — сказаў сакратар ЦК і глыбока ўздыхнуў. — У нашай беларускай літаратуры таксама ёсць асобныя хібы. Возьмем хоць бы зборнік апавяданняў Б.Сачанкі "Барвы ранняй восені". Ён малюе людзей пераважна як дзяцей прыроды, бачыць складанасць характару чалавека ў нізкіх пабуджэннях яго натуры, у палавой анархіі і душэўнай неарганізаванасці, у <…> занядбанні і прыніжэнні яго грамадскага прызначэння.

Хацелася спытаць, што разумеецца пад "душэўнай неарганізаванасцю", але не спытаў, пасароміўся. Сакратар працягваў:

— Чамусьці апошнім часам я даволі часта сустракаю ў літаратурных выданнях, нават у "Звяздзе", выразы тыпу: "пісьменнік даследуе", "літаратура даследуе". Што гэта значыць? Пра вучонага, панятнае дзела, так можна сказаць, але пра пісьменніка… Пісьменнік апісвае, паказвае, малюе, калі хочаце, але ж ён не навуковец.

— Гэта так, — дыпламатычна пагадзіўся я, — але творчы метад пісьменніка спалучае ў сабе ўсё: і рэальнае бачанне, і ўяўленне, і інтуіцыю. Усё залежыць ад таленту.

Каб не паказацца нясціплым, я змоўк.

— Прыніжаць, — заznачыў гаспадар кабінета, — тым болей ахайваць нашу рэчаіснасць нікому не дазволім. Нашто яе прыніжаць? У мастацтва, як вы кажаце, шмат магчымасцей. Мастацтва, урэшце, можа спрацаваць і на кантрасце. Як, напрыклад, у "Кубанских казаках". Помніце?

— Помню, бачыў і не раз.



— Якія мовы вы ведаеце?

Я назваў.

— Кандыдат навук?

— Кандыдат.

— Цяпер гэта не рэдкасць.

— Не рэдкасць, — згадзіўся я.

— Будзеце курыраваць Саюз пісьменнікаў, у іх там ёсць партарганізацыя, будзеце дапамагаць. Карацей кажучы, будзеце працаваць з пісьменнікамі.

Гутарка доўжылася недзе з паўгадзіны. Сакратар падняўся, паціснуў руку, і мы з Марцалевым пакінулі кабінет.

**26 красавіка.** Хадзіў у Саюз пісьменнікаў (гэта побач), прадставіўся сакратару партарганізацыі А. М. Кулакоўскаму, вядомаму празаіку.

— Кулакоўскі, — назваў ён сябе і дадаў: — Не звяртайце ўвагі на прозвішча, нічога агульнага з кулакамі не меў.

Не зразумеў, жартуе ён ці гаворыць усур'ёз, і не знайшоўся, што сказаць.

**30 красавіка.** Устаў, як заўсёды цяпер, у 7 гадзін раніцы. Схадзіў у душ. Папіў чаю. Пабег на тралейбусны прыпынак. З акадэмічным інтэрнатам давядзецца, відаць, развітацца. Камендант Аляксандра Пятроўна ўжо, здаецца, прачула пра змены ў маім жыцці.

Нарада ў загадчыка аддзела Марцалева. Гаварылі пра першамайскую дэманстрацыю.

— Павінны выйсці разам з народам і пісьменнікі, дзеячы мастацтва, — сказаў загадчык і прыстукнуў незавостраным канцом алоўка па стале.

Гэта — нечаканасць. Такога, каб на першамайскую дэманстрацыю выходзілі пісьменнікі, яшчэ не было. Раней абыходзіліся без іх і, відаць, правільна рабілі. Пісьменнік — істота, якая менш за ўсё гадзіцца для марша пад адну музыку. Але ўказанне, мяркуючы па ўсім, ішло зверху.

— У нас адны лозунгі і сімвалы, — дадаў да прапановы загадчыка яго намеснік Парватаў. Дадаў і зірнуў на мяне. Мне здалося, што з недаверам. Я не зразумеў, што азначаў яго "дадатак".

Пасля нарады я пазваніў сакратару партарганізацыі Саюза пісьменнікаў А. Кулакоўскаму, выклаў яму ўказанне. Ён доўга маўчаў у трубку, не раз глыбока ўздыхнуў і ўрэшце адказаў:

— Ну, што ж, будзем падымаць камуністаў.

Аляксей Мікалаевіч, нягледзячы на некатораю рахманасць, даволі мэтаімкнёны і настойлівы. Дамогся, напрыклад, таго, што ў клубе СП быў забаронены більярд. Шумныя більярдысты, што з трэскам штурхалі шары, перашкаджалі працаваць.

**1 мая.** Святочная дэманстрацыя працоўных. На чале калоны мастацкай інтэлігенцыі — Максім Танк, акторы мінскіх тэатраў, артысты філармоніі. Твар у Яўгена Іванавіча добры, усмешлівы. Перад урадавай трыбунай усе прывітальна махалі рукамі. Грымяць, ажно расколваецца паветра, рэпрадуктары. Прывітанні і лозунгі! І як можна грамчэй! Якбы недзе паблізу, у скверыку, схаваўся нейкі асілак з надзвычай гучным голасам і аглушальна ім карыстаецца. Салідарнасць! Салідарнасць!

Мне міжвольна прыгадаўся заключны эпізод у рамане П. Пестрака "Сустрэнемся на барыкадах". Героі — падпольшчыкі, "інжынеры барыкадаў", як назваў іх У. Калеснік, вызваленыя з турмаў у верасні 1939-га, выйшлі нарэшце на свабоду. Радасныя і шчаслівыя, яны нясуць сцягі, гучна гамоняць, абдымаюцца з таварышамі.

Пестрака побач з Танкам чамусьці не было.

**7 мая.** Хадзіў у Саюз пісьменнікаў, які побач з ЦК, бліжэй знаёміўся з адміністрацыяй. Сустрэў Р. Бярозкіна. Ён у звыклай сваёй светлашэрай кепцы на галаве. Выгляд — пакутніцкі, трымаецца за шчаку. Аказваецца, лечыць зубы ў паліклініцы СП.

Бярозкін — тэмпераментны крытык. Калісьці пасля агляднага даклада Івана Ралько пра паэзію, які дакладчык (што праўда, то праўда) крыху заціягнуў, выступілі А. Вялюгін і Р. Бярозкін і так урэзалі, што Іван не вытрымаў, захістаўся і ўпаў з крэсла, грымнуўшыся аб падлогу. Страціў прытомнасць. Выклікалі хуткую дапамогу. Урач пісьменніцкай паліклінікі шаноўны Уладзімір Барысавіч Нэйфах распытваў пра пацярпелага: "А ён член Саюза пісьменнікаў?" Думалі, ужо без духу.

Угледзеўшы мяне, Рыгор Саламонавіч не стрымаў свайго здзіўлення:

— Дык вы ўжо тут працуеце? — кіўнуў на будынак ЦК.

— І тут, і тут, — адказаў я, маючы на ўвазе ЦК і Саюз пісьменнікаў.

— Робіце поспехі!

Можна і так. Бярозкіна паважаю, нават з яго "прыколамі".

**31 мая.** Хадзіў у "сваю" парыкмахерскую. Парыкмахер — Яша. Пасадзіў у крэсла. Я сказаў: "Стригите на весь рубль!" Ён спытаў: "Пад якога сакратара вас падстрыгчы?" Пытанне было для мяне нечаканае. "Некаторыя просяць пад Машэрава", — дадаў Яша. — "А ён што — таксама сюды прыходзіць?" — "Што вы! Як можна? Гэта я паднімаюся туды!"

**25 чэрвеня.** Ноччу дзяжурыў у прыёмнай П. М. Машэрава. Не раз чуў выраз: "На версе вырашылі". Вось цяпер я на гэтым самым "версе". Заступіў з 12-ці. Сталіца патанула ў цемені. Прыёмная — прасторная, падлога ўсцелена дываноўымі дарожкамі, шмат тэлефонаў. Тэлевізар — мінскай маркі "Гарызонт".

Сеў глядзець тэлевізар. Галава так ацяжэла за дзень, што непрыкметна для сябе заснуў. Але хутка прачнуўся, устаў і доўга хадзіў па мяккай дывановай дарожцы чырвонага колеру. За дзвярыма, каля тэлефона ўсю ноч стаіць міліцыянер. Так працягвалася да самай раніцы, да з'яўлення Крукава. Дзяжурны па грамадзянскай абароне рэспублікі праверыў тэлефонную сувязь.

Дзяжурныя — хто ноччу знаходзіцца ў прыёмнай П.М. Машэрава — носяць з сабой гумовыя падушкі. Надуваюць на месцы. У мяне такой падушкі няма. Можа, на часе, заведу. Але спаць тут "не паложана". Як у арміі. Там я аднойчы неасцярожна заснуў і адразу трапіў на гаўптвахту.

**18 кастрычніка.** Артыкул С. Пілатовіча ў "Полымі". Прычыніўся да яго і я. Добра высцебалі рэвізіянізм, але беспастаўна пакрытыкавалі Анатоля Вярцінскага. Няёмка.

Нарэшце я зразумеў, што ўзялі мяне сюды, каб пісаў ім артыкулы і выступленні. Для сябе нічога не пішу.

Дарэчы, тут не проста з машыністкамі. Пабеларуску друкуе толькі адна — у машбюро. Наша сакратарка Святлана Ампадзістаўна, што сядзіць у прыёмнай, спецыялізуецца толькі на рускамоўных тэкстах.

**20 кастрычніка.** Банкет у гонар пісьменнікаў Расійскай Федэрацыі, што вярнуліся з паездкі па Беларусі. Наладзілі банкет у Заслаўі, дзе пабудавалі вялікую гасцініцу для прыёма высокіх гасцей. Шыкарная зала, па сценах карціны з беларускімі вобразамі і матывамі.

У "рафіку", іх было некалькі, сядалі на добрым падпітку, рагаталі, сардэчна развітваліся. Меўся ехаць і я, але Пілатовіч нечакана пацікавіўся:

— Недзе тут дача Макаёнка?

— Уладзімір Васільевіч, вы ў курсе? — падладзіўся да сакратара ЦК загадчык аддзела.

— Можна пашукаць, — прыкінуў я, — недзе каля шамякінскай, у Ждановічах.

— Ну, дык паехалі! — не то прапанаваў, не то загадаў Пілатовіч.

Я не быў п'яны, а цяпер канчаткова працвярозеў, але кастрычніцкая ноч, цёмна, знайсці патрэбную дачу не проста. Паехалі, з Марцалевым, паперадзе. Блукалі. "Волга" хісталася на калдобінах. Спынялі запозненых пешаходаў, пыталіся. Нарэшце натрапілі, асвяцілі хаціну фарамі. Гаспадар не спаў, адчыніў дзверы, папытаўся, хто. Запрасіў заходзіць.

— Даўно я шукаў сюды дарогі! — шматзначна сказаў Пілатовіч.

Гэта трэба было разумець так, нібы ён шукаў кантакту з вядомым драматургам. Кантакту, які быў па нейкіх прычынах страчаны. Пасля я даведаўся (расказваў сам Макаёнак), што яны пасварыліся ў кабінеце Пілатовіча, які, паводле слоў Андрэя Ягоравіча, пачаў яго вучыць, "як пісаць п'есы", не пераболышваючы "крытычную дозу". Цяпер Макаёнак як бы ў стане творчага крызісу, аддаліўся ад жонкі, жыве на дачы адзін. Гасцям быў рады, крыху здзівіўся, кожнаму падаў руку. Дастаў са скрынкі і пастравіў на стол бутэльку віна, запрасіў сесці.

— "Micket", — патлумачыў ён, ткнуўшы ў наклейку. — Вярнуўся нядаўна з Венгрыі (быў у складзе дэлегацыі ад СП СССР), там гэта самае дарагое віно, а ў нас капейкі — рубель шэсцьдзесят пяць. Вось узяў у Ждановічах скрынку.

Побач стаялі скрынкі з яблыкамі, з уласнага, відаць, саду, перакладзенымі сенам.

Пілатовіч, глянуўшы на скрынкі з яблыкамі, сказаў:

— Перад тым, як піць гарэлку, трэба з'есці кілаграм яблыкаў, і не будзеш п'яны.

— Нашто тады піць? — засмяяўся драматург.

Сакратара гэта нават якбы пакрыўдзіла.

— Вы заўсёды схільны чамусьці пярэчыць… — незадаволена хітнуў ён галавою.

— Не-е. Чаму вы так думаеце? Гэта я проста правяраю сябе, ці ўмею лагічна думаць. — Макаёнак адкупорыў бутэльку, ляпнуўшы далонёю па днішчу, разліў па шклянках віно.

— Ну, Андрэй Ягоравіч, а як працуецца? — нясмела ўступіў у размову Марцалеў.

— Пакуль што без пэўнага выніку.

— Вось давайце за вынік і вып'ем! — прапанаваў Пілатовіч, узяўшы ў руку шклянку.

Усе, у тым ліку і я, чокнуліся і адпілі.

За акном, у начной цемені, упаў з дрэва яблык, пляснуўся аб зямлю. У Чорнага ёсць апавяданне пра восень, пра даспеласць у шырокім сэнсе гэтага слова. "Верасьнёвыя ночы". Там у садзе з грушы валяцца даспелыя плады. Добра напісана, як яны, набіраючы хуткасць, грукаюць аб зямлю, наводзяць на роздум.

Макаёнак успомніў і расказаў пра ўражанне ад першай пастаноўкі сваёй п'есы. З таго часу шмат вады сплыло, і ўзлёты зведаў, і няўдачы.

— А ты сабе вунь якую кар'еру падабраў! — раптам сказаў ён, маючы на ўвазе мяне.

Пілатовіч і Марцалеў засмяяліся.

— Вы ж таксама калісьці ў райкоме працавалі, — адзначыў Пілатовіч.

— Было.

У мяне з Макаёнкам даўняе знаёмства і стасункі. Некалі, з год назад, я спрабаваў уладкавацца ў "Нёман" на працу, але атрымаў адмову. Так што цяпер на яго зўвагу прамаўчаў.

Пагамаанілі пра тое-сёе яшчэ. Марцалеў сказаў: "Пісьменнікі часам як дзеці, імі трэба кіраваць, апякаць". — "Дзеці, — згадзіўся драматург, — але сукіны дзеці". Гэта зноў рассмяшыла.

Але пара было развітвацца. Сустрэчай былі задаволены і госці, і гаспадар.

Мы паехалі.

**(Працяг будзе)**

# Няма тваёй усмешкі сярод нас

Тамара АЎСЯННІКАВА

**Яе прысутнасць я адчуваю пастаянна, восенню — асабліва. Неба нізкае, шэрае. Імжыць дробны дождж. Гэтая пара года — Жэніна, пачынаючы з таго моманту, калі яе "першы след малюе восень", і да таго апошняга, калі зямны яе след засыпле лістападаўская завея.**



Усіх, хто быў побач з Жэняю, здзіўляла лёгкасць, з якою яна пісала вершы. Успамінае Тамара Каленікава: "Мы з Жэняю вучыліся ў розных групах, але чатыры гады жылі ў адным пакоі. Самым яркім уражаннем для мяне стала карціна напісання вершаў. Жэня паўляжыць на ложку, закінуўшы нагу на нагу, пад спінаю падушка, на каленях блакнот; у правай руцэ — ручка, а ў левай — забытая цыгарэта, якая зышла на тло. Што здзіўляла, дык гэта тое, што для напісання вершаў Жэні не патрэбны былі нейкія асаблівыя ўмовы: скажам, цішыня, адзінота. Нават у шумным студэнцкім пакоі яна магла абстрагавацца — не заўважаць, што адбываецца вакол яе. Бывала, што Жэня адрывалася ад творчага працэсу і прасіла даць ёй варыянты рыфмаў да нейкага слова. А праз колькі хвілін яна ўжо натхнёна чытала новы верш. "Ну як?" — пыталася і чакала, што мы скажам".

Лідзія Корбут побач з Жэняю ў інтэрнаце была тры гады. Ёй запомнілася, як Жэня пісала вершы ўначы пры святле вулічнага ліхтара, седзячы на падваконні. Гэтую ж карціну ўзгадала і Яніна Макарэвіч, якая жыла з Жэняю на трэцім курсе. Сапраўды, шырокае падваконне было ў пакоі адзіным месцам, дзе можна было пісаць, не трывожачы сон сябровак.

Жэня існавала ў бесперапынным творчым працэсе. Вершы і будзілі яе, і заснуць не давалі. У такія хвіліны яна ціхенька ўзбіралася на аблюбаванае ёю месца, і толькі чуваць было, як шамацяць старонкі блакнота і як натхнёна рыпіць пяро. Часам Жэня будзіла мяне, чытала толькі што напісаны верш і чакала адабрэння ці заўвагі. Потым клалася ў пасцель з адчуваннем, як "верш цячэ па целе сонным".

Вершы нараджаліся лёгка, без прымусу. Яна запісвала іх начыста сваім прыгожым почыркам. Толькі зрэдку папраўляла слабую рыфму ці радок. Паэзія для Жэні была сэнсам і своеасаблівай умоваю жыцця.

Як паэт Жэня ведала цану свайму слову, але як чалавек мела неабходнасць у падтрымцы і адабрэнні яе творчасці сябрамі і калегамі. Час высветліў значнасць асобы Яўгеніі Янішчыц.

Галіна Францаўна, дачка Веры Палтаран, бачыла Жэню ўсяго некалькі разоў і блізка з ёю не была знаёмая. Аднойчы ў кафэ Саюза пісьменнікаў яна звярнула ўвагу на адзінокую жанчыну, якая ў задуменні сядзела за столікам. Гэта была Яўгенія Янішчыц. Галіна Францаўна расказала мне, што яе мама высока ціла творчасць Яўгеніі Янішчыц і была вельмі ўдзячна за верш "Бэз Веры Палтаран". У сакавіку 1989 года не стала Веры Сямёнаўны, але на дачы і цяпер кожную вясну буяе бэз, які некалі натхніў Жэню.

Віктар Арцем'еў, сябра Аляксея Пысіна, сустракаўся з Жэняю ў чэрвені 1981 года. Яна прыязджала ў Магілёў разам з Міколам Базарэвічам. Сваё ўражанні Віктар Іванавіч перадае так: "Чалавек яна памяркоўны, задумены, з высокай прыгажосцю душы, вельмі далікатны ў зносінах. З ёю лёгка было гаварыць — выказвала вялікую павагу да кожнага чалавека. І калі ў яе присутнасці ў мяне адбылася спрэчка з Аляксеем Пысіным, то Жэня з лагоднай усмешкай нас памірыла".

Лідзія Корбут узгадала Жэню-першакурсніцу, тых часоў, калі ўсе яшчэ пыталіся: "Хто гэта?" "Разам з паэтамі старэйшых курсаў я ўбачыла невысокага росту хударлявую дзяўчыну, — гаворыць Лідзія Корбут. — Яе постаць выказвала адасобленасць. Яна была тут, а думкі — недзе далёка. Яе ўсмешка, як бы з глыбіні душы, асвятляла твар і гаварыла, што яна ведае нешта такое, чаго не ведаюць іншыя. Ужо пазней, калі мне давялося жыць разам з Жэняю, я бачыла яе ў розных жыццёвых абставінах. Яна існавала ў сваім паэтычным свеце, дзе адчувала сябе ўтульна, і нікога туды не пускала. Праз некалькі гадоў пасля заканчэння ўніверсітэта я сустрэлася з Жэняю ў Мінску. На яе твары ляжаў адбітак болю і расчаравання".

Мне запомнілася лёгкая Жэніна паходка. Яна не ішла — ляцела, нібы не краналася зямлі. І пышная прычоска, якую Жэня насіла ў студэнцтве, ад імклівасці руху і сустрэчнага ветру то падымалася, то апускалася з тактам кожнага кроку.

Жэня вельмі любіла музыку, асабліва народную. Яна і сама добра спявала. Мне пашчасціла разам з ёю слухаць "Песняроў", калі яны яшчэ называліся "Лявоны". Выступленне адбывалася ў памяшканні Саюза пісьменнікаў. Жэня атрымала запрашэнне на дзве асобы ад нашага выкладчыка Н. С. Гілевіча. Уздзеянне ашаламляльнае! Пасля канцэрта мы амаль усю дарогу да інтэрната на Паркавай ішлі моўчкі. Баяліся парушыць стан, у які трапілі. Толькі пазней далі волю эмоцыям. Нас уразіла навізна апрацоўкі і выканання беларускай народнай песні, якая дзякуючы кіраўніку ансамбля У. Мулявіну вырвалася з забыцця.

Жэня была смелым чалавекам, нават адчайным. Яна бясстрашна займалася гімнастыкай на брусах і бервяне. Можа, рухі яе не заўсёды былі пластычнымі, але ў смеласці ёй нельга было адмовіць. Бясстрашна яна каталася і на каньках, крыху нязграбна, таму што была ў вузкай спадніцы, але весела насілася з аднаго канца катка ў другі.

Былі моманты, калі Жэня выказвала сваю паляшуцкую разважлівасць і абачлівасць, нямецкую акуратнасць і дакладнасць. Род Жэні па мацярынскай лініі ідзе ад Германа Чугая. Пан Скірмунт выпісваў майстроў з Нямеччыны для работы на сваёй суконнай фабрыцы, якая была ў Парэччы. Герман Чугай і ёсць адзін з тых майстроў, што прыехаў у Парэчча ў сярэдзіне XIX стагоддзя і застаўся там назаўсёды, пусціўшы карані. З радаводам Жэні, я спадзяюся, мы хутка пазнаёмімся. Над ім працуе Антаніна Паўлаўна Сідарук, заснавальнік музея Яўгеніі Янішчыц.

Жэня была неканфліктным і вельмі шчырым чалавекам. Такой жа шчырасці яна чакала і ад іншых. І калі яе хто-небудзь крыўдзіў ці не адпавядаў яе маральна-этычным прынцыпам, проста пазбягала зносін з такімі людзьмі. Жэня ўмела сябраваць і даражыла сяброўствам. У лісце ад трэцяга снежня 1976 года яна пісала: "Сегодня случайно встретила на улице NN… Дала мне свой телефон, приглашала в гости. Но я, видимо, не позвоню, тем более — в гости пойти. Всё-таки осталась у меня старая и крепкая привязанность к тем, кого мне Бог послал на пути за годы учёбы в БГУ".

Жэня ўмела быць удзячнай і не скупілася на словы. Яна з дарагой душою дарыла свае кнігі сябрам і ў аўтографах выказвала адносіны да іх. Вось некалькі аўтографаў на першай кнізе "Снежныя грамніцы"(1970): "Мілай Лідусі маёй, што не раз натхняла мяне ў хвіліны журбы і радасці на лірычныя радкі. Ад усёй душы жадаю табе вялікага шчасця, бясхмарных дзён і дарог, маладосці! Шчыра — твая Жэня Янішчыц. Мінск, 20.11.70, БДУ", "Мілай Яні з удзячнасцю за пражытыя разам дні, за падзел і радасцю, і журбою, за гаспадарлівасць рук тваіх і шчырых намераў. Вельмі хачу табе сапраўднага шчасця, маладосці, штодзённага бадзёрага настрою. Твая Жэня Янішчыц. Мінск 20.XI.70 БДУ", "Мілай Тамары (Тамара Каленікава. — **Т. А.**), харошаму таварышу, сапраўднай сяброўцы і цудоўнай дзяўчыне, з якой я жыву чацвёрты год, якую люблю і паважаю. Жадаю табе, Колька (студэнцкая мянушка. — **Т. А.**), многа сапраўднага шчасця і свята, будзь заўсёды такой прыгожай і цудоўнай, якая ты ёсць. Твой Жоржык — Ж. Янішчыц. Мінск, 12.XI.1970. Паркавая, 9", "Мілай Тамары, трывожнай і рамантычнай маёй Кармэн (Тамара Аўсяннікава. — **Т. А.**), шчыраму сябру майму па трывозе і радасці. Вельмі хачу, каб ты была па-сапраўднаму шчаслівая, сонца табе пад сённяшнімі і будучымі дарогамі, вечнай маладосці! З любоўю — твая Жэня Янішчыц. Мінск, 20.XI.70".

Пасля вучобы Жэні не хапала нашай прысутнасці. У адным з лістоў 1978 года чытаю: "…А сёння мне сніўся наш інтэрнат на Паркавай, выразна помню цябе, Колю (Тамара Каленікава. — **Т. А.**) і Лёву (Лідзія Корбут. — **Т. А.**)… Пішы, мне часта так не хапае твайго голасу".

І нам, Жэня, так не хапае твайго голасу, тваіх ненапісаных вершаў, тваёй сарамлівай усмешкі.

***На здымку: Яўгенія Янішчыц (1969 год).***

# Ваяр бескампраміснай сатыры і гумару

Кастусь ЖУК

**Магічныя струны душы Міколы Вяршыніна былі заўсёды накіраваны на сур'ёзны і здаровы творчы лад — пісаць шчыра і адкрыта, не ўтуляючы галаву ў плечы нават перад "замшэлымі" аўтарытэтамі, якія падчас спадцішка маглі перакідвацца ў яго адрас колкімі слоўцамі, парой і помсціць.**

Сатырык і гумарыст без сяброў і ворагаў — "не ў сваёй талерцы". Пра гэта ён добра ведаў — і заўсёды па-дзіцячы радаваўся, калі сябры віншавалі яго з надзвычай удалай гумарэскай, напісанай у паэтычнай ці празаічнай форме, эпіграмай, мініяцюрай… Асвоіўшы ўсе жанры гумарыстычна-сатырычнай кухні, паэт стараўся не звяртаць увагі на папрокі зласліўцаў, пароі пакрыўджаных вастрынёй ягонага пяра.

Аптыміст па натуры, Мікола Вяршынін ішоў па жыцці ўпэўнена і мэтанакіравана, здзіўляючы паплечнікаў па творчасці няўрымслівай працаздольнасцю, колькасцю надрукаванага ў перыёдыцы. Бадай, няма ў Беларусі такога выдання, дзе б не "засвяціўся" паэт сваёй публікацыяй. таму на кожным выступленні яго прызнавалі за свайго, бо ўжо мелі ўяўленне пра яго як творцу.

Некаторыя гумарэскі М. Вяршыніна (накшталт "Я і барада мая", "Бык ва ўладзе", "Пра выдаткі на падаткі", "Пакаранне за старанне"), каламбуры, мініяцюры запалі ў сэрца на ўсё жыццё. Калі ўбачу мужчыну на добрым падпітку, заўсёды ўспомню напісанае Міколам:

*У пустыню трапіў п'яны*
*І пайшоў, як апантаны:*
*"Я дамоў дайду калі? —*
*Гэткі пляж адгрукалі!"*

Чытаў і пісаў творы ён лёгка, нязмушана, на кожным выступленні з'яўляліся ўсё новыя і новыя прыхільнікі яго таленту. Яго ведала з паўсталіцы, нібы знакамітага акцёра ці рэжысёра. Прайсці з ім па горадзе было неймаверна цяжка, бо ледзь не праз кожны крок віталіся, прасілі аўтографы, проста запрашалі ў госці ці на гамонку.

І ў гэтым — сапраўднае прызнанне яго як сатырыка-гумарыста, адкрытага і добразычлівага чалавека.

Выхаваўшы не адно пакаленне маладых літаратараў (кіраваў на працягу многіх гадоў аж трыма літаб'яднаннямі!), ён пайшоў. Але ён — у іх сэрцах. І ён — з намі.

**Міколу ВЯРШЫНІНУ**

*Не ўратавалі сэрца*
*мінскія муры,*
*Але душа*
*па ўсім балець*
*не перастала.*
*І смерць прыняўшы,*
*буду вас любіць, сябры,*
*Спаўна дастойныя*
*папрокаў і пахвалаў.*

*І будуць дзесьці шапацець*
*галінкі хвой*
*І дыхаць спуджана*
*здалёку азярына…*
*Памёршы першым,*
*не забыў я ўзяць з сабой*
*Спагаду*
*цёплых вашых слоў*
*у дамавіну.*

*Яны сагрэюць там,*
*халоднага, мяне.*
*І змрочны грот*
*не стане мулкім і лядачым.*
*Ці год,*
*ці два,*
*ці нават болей праміне —*
*З вас нехта ўспомніць пра мяне,*
*цішком паплача.*

*Заварушуся*
*ў дамавіне я тады,*
*Перахрышчуся,*
*каб жылося вам, вялося.*
*І каб маглося.*
*А не будзе ў вас бяды,*
*Дык буду знаць,*
*што палажанне — удалося.*

Галія ФАТЫХАВА,
фота Святланы Берасцень
і Віктара Кавалёва

**У Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі адбылася прэзентацыя кнігі-альбома “Жывапісная Беларусь” мастака Сямёна Дамарада. Выданне пабачыла свет у выдавецтве “Белпрынт” пры падтрымцы “Беларусбанка”. Асаблівыя словы ўдзячнасці мастак выказаў старшыні праўлення Надзеі Ермаковай. Кожны творца марыць мець такі фаліянт, які атрымаў Сямён Уладзіміравіч да свайго 60-годдзя. У зале музея мастак да прэзентацыі кнігі адкрыў выстаўку сваіх акварэляў. Пейзаж — асноўны жанр, у якім ён працуе. Работы, напісаныя з натуры ў розныя гады, апяваюць прыгажосць палёў і лясоў, рэк і азёр. Творца пастаянна знаходзіцца ў цеснай сувязі з прыродай, уважліва вывучае яе і адлюстроўвае на сваіх палотнах, надаючы вялікую ўвагу светапаветранаму асяроддзю. Гэта яскрава прасочваецца ў серыі пейзажаў “Нарачанскі край азёр”. У гэтыя мясціны ён наведваецца вельмі часта, бо там у яго ёсць свая хатка. З ранку да вечара падоўгу сядзіць з эцюднікам і фарбамі і адлюстроўвае, як сыходзіць дзень і паступова сонейка садзіцца за гарызонт, наступае вечар.**

# Бачыць у малым вялікае

Усіх прысутных уразілі далікатныя лірычныя пейзажы. Шмат добрых слоў пачуў мастак у свой адрас ад калег, мастацтвазнаўцаў і сяброў. Тонкія, кранаючыя душу краявіды: глыбокая восень, калі прыбраныя палі заміраюць у чаканні першага снегу, ці ранняя вясна, калі зямля чакае свайго абуджэння.

У кнігу ўвайшлі акварэлі, напісаныя ў розныя гады, і жывапісныя творы — усе яны прысвечаны роднай Беларусі. Дамінуючы стыль яго карцін — рэалізм, лірычны і паэтычны. Пейзажы С. Дамарада адметныя мяккім каларытам, гарманічным суладдзем кампазіцыі і колеравых суадносін. Няяркая, крыху прыглушаная, нібы ахутаная паветрам, колеравая гама яго карцін настройвае на ціхі, задуменны лад і часам выклікае ў душы гледача шчымлівае пачуццё чагосьці з дзяцінства вельмі знаёмага, роднага. Творца паспяхова працуе не толькі ў жанры пейзажа, але таксама ў манументальным жывапісе, партрэце, нацюрморце.

Нарадзіўся Сямён Дамарад у сям'і мастака, з дзяцінства маляваў. Падрос і пайшоў у гурток мастака Барыса Бяляева. Потым скончыў Магілёўскае мастацкае вучылішча, затым Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут. Вучыўся ў такіх вядомых творцаў, як Л. Дубар, Г. Вашчанка, У. Стальмашонак, А. Бараноўскі. Актыўна ўдзельнічаў як у рэспубліканскіх, так і ва ўсесаюзных, міжнародных выстаўках. Пасля інстытута, а скончыў ён манументальнае аддзяленне, шмат аформіў інтэр'ераў: гэта маркетры “Свята” ў актавай зале сталічнага ПТВ будаўнікоў, сграфіта “Рытмы” ў фае АТС г. Мінска; мазаікі “Лета” ў санаторыі “Волма” Мінскага раёна, вітраж “Даламіт” у Доме культуры г.п. Руба Віцебскай вобласці; энкаўстыка “На роднай зямлі” на рэспубліканскай выстаўцы “Міншчына ардэнаносная”, роспіс “Над Дняпром” у актавай зале вытворчага аб'яднання ПКТІАМ у г. Магілёве, вітражы “Спорт” у адміністратыўным корпусе “Раўбічы”, “Стары Талін” у кафэ “Стары Томас”, роспіс у гасцініцы “Беларусь”. Работы вялікія па памерах і розныя па тэхніцы выканання, і ў іх мастак па-майстэрску адлюстраваў прыгажосць беларускай прыроды.

Прага да малявання ў Сямёна Уладзіміравіча з дзяцінства, ён заўсёды імкнуўся занатаваць пейзажы ваколіц роднага Бабруйска. Ад свайго бацькі Уладзіміра Аляксандравіча, які пісаў цудоўныя акварэльныя пейзажы на пленэры і заўседы браў з сабою сына, — любоў да вытанчанага акварэльнага жанру. Пазней вялікую ўвагу эцюду надаваў яго настаўнік Бяляеў. Яшчэ падчас вучобы ў вучылішчы Сямён паказаў свой першы нацюрморт на выстаўцы ў 1966 годзе, які быў заўважаны і адзначаны. Мо таму яму асабліва ўдаюцца работы эцюднага характару ў акварэлі. Напісаныя часам за адзін прыём, яны напоўнены моцнай актыўнасцю творчага ўспрымання.

Найбольш яркае ўражанне на маладога мастака аказаў першы пленэр, дзе кампазіцыйныя пастаноўкі на паветры даваў Л. Дубар і пасля чаго была арганізавана выстаўка з твораў, напісаных у вёсцы Чарняўка, якая раскінулася на беразе ракі Бярэзіны. Цудоўныя летнія сонечныя дні, сама паэтычная вёсачка, маладосць і любоў да прыгажага, якое суправаджала на той час студэнта, далі той штуршок у творчасці мастака, з якім ён і сёння не расстаецца. Мастака ўжо тады пазнаюць на выстаўках па яго рэалістычных акарэльных пейзажах, хоць ён спрабуе сябе і ў жывапісе. Аднак менавіта ў акварэлі яго індывідуальнасць і светаўспрыманне адлюстраваны найбольш ярка.

Трэба адзначыць, што ў інстытуце на курсе выкладалі жывапіс, і свае курсавыя Дамарад маляваў алеем, але акварэль заставалася для яго галоўнай. Першы поспех прыйшоў падчас вучобы ў інстытуце, дзе ён пасля летніх канікул, у 1972 годзе, паказаў сваю першую персанальную выстаўку акварэльных работ. Сярод усіх вылучалася карціна “Сена вязуць”, якая вызначыла напрамак лірычнага абагульнення бачання свету. Дэталяў у карціне было няшмат. Вялікімі, магутнымі, лакальнымі мазкамі адлюстраваў ён тонкі стан сярэдзіны лета на рацэ Бярэзіне. Да слова, карціна напісана па ўспамінах дзяцінства. Аднойчы з бацькам і яго сябрамі плылі яны па Бярэзіне, а потым па Дняпры. Вакол залі́ўныя лугі, стагі сена, з другога берага перавозілі праз раку сена на лодках. Вельмі паэтычна. Работа стала знакавай, і яе высока ацанілі. Узнагарода — паездка ў маскоўскія музеі, дзе адбылося знаёмства з жывапіснымі творамі знакамітых рускіх і замежных мастакоў.

*Прага да малявання ў Сямёна Уладзіміравіча з дзяцінства, ён заўсёды імкнуўся занатаваць пейзажы ваколіц роднага Бабруйска. Ад свайго бацькі Уладзіміра Аляксандравіча, які пісаў цудоўныя акварэльныя пейзажы на пленэры і заўседы браў з сабою сына, — любоў да вытанчанага акварэльнага жанру. Пазней вялікую ўвагу эцюду надаваў яго настаўнік Бяляеў. Яшчэ падчас вучобы ў вучылішчы Сямён паказаў свой першы нацюрморт на выстаўцы ў 1966 годзе, які быў заўважаны і адзначаны. Мо таму яму асабліва ўдаюцца работы эцюднага характару ў акварэлі. Напісаныя часам за адзін прыём, яны напоўнены моцнай актыўнасцю творчага ўспрымання.*



Сямён Дамарад “Фарбы возера”.

Момант ідэйнасці — гэта не галоўнае ў творы для С. Дамарада, а адчуванні, уласнае бачанне. “Калі пішаш карціну, — кажа ён, — нешта прымушае літаральна перапісаць ужо скончаны твор. Гэта і ёсць таемнасць мастацтва і жывапісу, і сам не разумееш, як гэта адбылося”.

Дыпломную работу Сямён Уладзіміравіч піша на палатне алеем. Адно з палотнаў прысвечана вайне “Вясна. Санітаркі”, другое — бытавому жанру “Дары лесу“. Каларыстычная жанравая сцэна — успаміны дзяцінства, цяга да матчынага дому — паказана з чуллівай замілаванасцю і любоўю: бабуля нанізвае грыбы, якія прынеслі з лесу, унук падае ёй грыбочкі. Бытавая сцэна, дэталяў няшмат, але так моцна ўзрушае гледача…

*Момант ідэйнасці — гэта не галоўнае ў творы для С. Дамарада, а свае адчуванні, уласнае бачанне. “Калі пішаш карціну, — кажа ён, — нешта прымушае літаральна перапісаць ужо скончаны твор. Гэта і ёсць таемнасць мастацтва і жывапісу, і сам не разумееш, як гэта адбылося”.*

Пасля інстытута пэўны час ён займаецца манументальным і станковым жывапісам, піша акварэльныя работы. Відаць, таму так ляжыць да акварэлі душа мастака, што ўласцівы гэтай тэхніцы “жывапіс вадой”, лёгкасць і празрыстасць фарбаў, “цякучых” па белай ці злёгку таніраванай



Сямён Дамарад “Раніца”.

паперы, сугучны імкненню адлюстраваць нягучнае, непаказное ўнутранае жыццё натурнага матыву ў яго развіцці і дынаміцы.

1990-я гады сталі складанымі ў жыцці мастакоў, скончыліся заказы, але творцы атрымалі поўную свабоду. С. Дамарад шукаў сябе ў розных жанрах, пейзажны жывапіс шляхам рознабаковых творчых пошукаў стаў галоўным у гэты перыяд яго творчасці. Ім створаны цудоўныя карціны “Ля возера”, “Дарога да вады”, “Сельскі дворык” і іншыя, дзе вялікую ўвагу ён надае дэталям, быту, а затым паступова пераходзіць да абагульнення.

У 1996 годзе да 10-годдзя чарнобыльскай катастрофы ён ствярае серыю акварэльных работ пад агульнай назвай “Чарнобыль” і з гэтай выстаўкай едзе ў Германію, Аўстрыю, Галандыю. Гэта была дабрачынная выстаўка, якая выклікала шмат эмацыянальных водгукаў, пра яе шмат пісалі ў нямецкім друку. Карціны Дамарада нясуць адчуванне трагічнасці, пустэчы, асабліва прапісаныя сельскія пейзажы. Пакінутыя вёскі, пахмурны каларыт карцін будуецца на шэрых фарбах, яны нешматслоўныя, пабудаваныя на пачуццях самога мастака, носяць песімістычны настрой. Вылучаецца карціна “Квітнеючы сад” — блакітнае неба, яблыні цвітуць, а на пярэднім плане палатна знятая бульдозерам зямля. Яна чорная, зялёнай травы няма, яе прыбралі: забруджаная. Карціна пабудавана на кантрасце — натуральны стан прыроды і гвалтоўная трагедыя, што стварае ўражанне ў гледача, нібы з яго самога здымаюць скуру — так казалі некаторыя наведвальнікі на адкрыцці выстаўкі.

Апошнія 10 гадоў мастак аддае перавагу жывапісу. Пейзаж — асноўны жанр, у якім ён працуе, апяваючы прыгажосць Беларусі. На працягу творчага жыцця ім напісана шмат пейзажных палотнаў, якія з дзіўнай пранікнёнасцю раскрываюць багацце і своеасаблівасць прыроды роднага краю. Тонкая акварэльная тэхніка паўплывала на жывапісныя карціны. Яны складаныя па вобразнай мове, сузіральныя, супакоеныя і паэтычныя. Адчуваецца ўплыў В. Бялыніцкага-Бірулі, М. Несцерава. І, відаць, таму вядомая паэтэса Валянціна Паліканіна прысвяціла мастаку Дамараду свае вершы, а яго творамі праілюстравала зборнік “За плотцю слоў”.

Мастак шмат піша з натуры. Спачатку ён робіць замалёўкі, затым у майстэрні, “пражыўшы” тэму, адчуўшы яе, піша на палатне алеем і лічыць, што карціны атрымліваюцца больш удалымі. У гэты перыяд у жывапісе Дамарада расце значэнне светапаветранага асяроддзя. Пастаянна ён знаходзіцца ў цеснай сувязі з прыродай, уважліва вывучае яе, знаходзіць новыя сродкі выразнасці, якія надаюць яго творам вялікую жыццёвасць. Усё часцей ён звяртаецца да перадачы зменлівага стану прыроды. Гэта ярка прасочваецца ў серыі пейзажаў “Нарачанскі край азёр”.

Вельмі ўздзейнічала на наведвальнікаў выстаўкі карціна “Светлы сум”; мастак лічыць яе адной з лепшых сваіх работ. Хаткі стаяць “спінай” да дарогі, нікога няма — пустэча, цішыня. Ці вернецца чалавек сюды, ці прынясе жыццё зноў? С. Дамарад пазбягае яркіх фарбаў, вялікіх кантрастаў, танальнае гучанне цэльнае, ён хоча ўбачыць у малым вялікае. Каларыт, адчуванне — усё супадае. Уражанне, якое надае сюжэт карціны, ён выражае больш абагульнена, але застаецца адчуванне святу: хаткі выклікаюць смутак, але разам з тым і надзею. Надзею на лепшае жыццё.

# Адчуванне сутнасці прыроды

Віктар КАВАЛЁЎ,
фота аўтара

**Раней з усіх жанраў мастацтва пейзаж ставілі на адно з апошніх месцаў, яму надавалі другасную ролю ў адносінах да сюжэта карціны. Лічыцца, што пейзаж, які ў творчасці шматлікіх мастакоў з'яўляецца вельмі частай і любімай тэмай: напісаць прасцей, ён надае ім больш свабоды і менш адказнасці ў адлюстраванні, чым партрэт або тэматычная карціна. Аднак сапраўдны добры пейзаж вымагае ад аўтара такіх жа высілкаў і ўвагі, такога ж майстэрства. Насамрэч, адметных пейзажыстаў не так і шмат, бо для гэтага патрэбны асаблівыя здольнасці і схільнасці.**





Знаны мастак Ісак Левітан падкрэсліваў: "Прыроду капіраваць не трэба, але трэба адчуць яе сутнасць і вызваліць ад выпадковасцей". Так і добры пейзажыст увасабляе свае пачуцці ў мастацкім вобразе твора. І чым больш аўтар разумее прыроду, "чуе" і шчыра адчувае яе душой, а не толькі ўспрымае зрокава, тым мацней яго работа будзе ўплываць і ўражваць гледача, будзе несці ў сабе настрой. Менавіта ўважлівыя адносіны да пейзажа даюць мастаку разуменне прыгажосці гэтага жанру жывапісу і пачуццё адзінства чалавека і навакольнага асяроддзя.

Гэтыя характарыстыкі можна цалкам суаднесці з творчасцю Леаніда Гоманава. Леанід Міхайлавіч нарадзіўся ў старажытным Слаўгарадзе, што на Магілёўшчыне. Скончыў Мінскае мастацкае вучылішча імя А. Глебава, Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут. Ён — член Беларускага саюза мастакоў, член-карэспандэнт Міжнароднай акадэміі культуры і мастацтва. З 2005 года Леанід Гоманаў з'яўляецца старшынёй журы штогадовага Міжнароднага конкурсу дзіцячага малюнка "На сваёй зямлі". На Кангрэсе кіраўнікоў гарадоў (г. Масква) быў узнагароджаны Міжнародным дабрачынным фондам "Мецэнаты стагоддзя" медалямі "Дабрачынец" і "У імя жыцця на зямлі" за высакароднасць намераў і спраў.

Днямі ў Гарадской мастацкай галерэі твораў Леаніда Шчамялёва адбылося адкрыццё персанальнай выстаўкі Леаніда Гоманава "Пейзаж без межаў". Гэты праект здзейснены пры падтрымцы галерэі і ініцыятыве куратара выстаўкі, дачкі мастака Вольгі Гоманавай.

"Пейзаж без межаў" — гэта своеасаблівая творчая справаздача Л. Гоманава аб працы ў розных кутках свету за апошнія некалькі гадоў. На выстаўцы прадстаўлена каля трыццаці работ, якія былі напісаныя на творчых пленэрах у Беларусі, Польшчы, Славакіі, Расіі, ва Украіне, падчас вандровак па Іспаніі і Балгарыі, адзначыла Вольга. Мастака натхнілі на стварэнне карцін прыгажосць і паэзія прыроды гэтых краін. Яго пейзажы адрознівае лірызм, тонкая нюансіроўка колеру, майстэрская перадача ледзь улоўных, самабытных станаў прыроды. Яны розныя па тэхніцы выканання: рэльефныя смелыя мазкі, гладкапіс, амаль графічныя далікатныя лініі…

Цёплыя і шчырыя словы ўдзячнасці за ўражанні ад карцін мастака выказвалі сябры, калегі, настаўнікі і вучні Леаніда Гоманава, сярод якіх Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Сербіі ў Беларусі Срэчка Джукіч, акадэмік Расійскай арктычнай акадэміі навук, які, акрамя іншых экстрэмальных праектаў, пабываў на Паўднёвым полюсе, Уладзімір Драбо, Уладзімір Васюк, Мікалай Мішчанка…

Выступоўцы адзначалі, што ў якой краіне яны ні знаходзіліся б, у памяці заўсёды паўстае той вобраз радзімы, які адлюстраваны на пейзажных палотнах Леаніда Гоманава. Што калі кнігу, якую напісаў пісьменнік, можна без цяжкасцей купіць ці знайсці ў бібліятэцы і прачытаць, то з работамі мастака іншая справа: яны разыходзяцца па музеях і прыватных калекцыях па ўсім свеце, і ўбачыць поўны іх збор проста немагчыма.

Для Леаніда Гоманава заўсёды вельмі важна, каб людзі былі аб'яднаныя агульнай стваральнай ідэяй, і мастацкі пленэр найлепшым чынам з'яўляецца такім сродкам аб'яднання людзей розных культур, традыцый ды кірункаў у мастацтве. Сустракаючыся разам, розныя людзі і мастакі пасродкам жывапісу становяцца бліжэй адно да аднаго, бо пластычная мова мастацтва, як і музыкі, універсальная, зразумелая кожнаму. Адрозныя культуры не спрачаюцца, а, як на карціне, утвараюць сугучнасць фарбаў. І як вынік — работы, прадстаўленыя ў экспазіцыі, — уражанні ад іншых краін, традыцый ды культур.

***На здымках: работы Леаніда Гоманава "Зарослая сажалка", "Сляды часу. Пустынскі Свята-Успенскі манастыр".***

# Акно ў свет

Святлана БЕРАСЦЕНЬ,
фота аўтара




**Хочаш лепей спазнаць краіну — пацікаўся мастацтвам яе народа. Бо нішто гэтак глыбока, ёміста і праўдзіва не характарызуе нацыю, як яе традыцыйная культура і прафесійная творчасць. Вось такая аксіёма. І маладая суверэнная Беларусь, імкнучыся заняць свой пачэсны пасад у сусветнай прасторы, можа ўпэўнена разлічваць у гэтым памкненні на самую магутную і надзейную падтрымку — на мастацтва таленавітых землякоў. Іх творчасць, як найлепшы дыпламат, пераадольвае дзяржаўныя межы, спрые міжнароднаму аўтарытэту нашай радзімы, ды і самапавазе беларусаў. Айчынныя мастакі даўно ўжо марылі пра такі калектыўны праект, які стаўся б новым акном у свет не толькі для іх творчасці, але і для ўсёй Беларусі. Мара спраўдзілася: упершыню за гісторыю краіны ажыццёўлена выданне альбома, які прадстаўляе сучасныя набыткі Беларускага саюза мастакоў.**

Прэзентацыя альбома "Мастацтва Беларусі", да стварэння якога спрычыніліся БСМ, Міжнародная канфедэрацыя саюзаў мастакоў са штаб-кватэрай у сталіцы РСФСР, маскоўскае выдавецтва "Галарт", адбылася ў Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь. Выйшаў у свет унікальны фаліянт накладам 1200 асобнікаў.

Дырэктар музея Уладзімір Пракапцоў адзначыў прынцыповае значэнне альбома, які сведчыць: багатае на таленты беларускае мастацтва, і гэта — гонар краіны. Так, некалькімі пакаленнямі нашых суайчыннікаў створаныя ўнікальныя работы ў розных жанрах, але толькі сёння, са з'яўленнем салднага, важкага, маляўнічага выдання, дзяржава атрымала магчымасць шырока прадставіць гэтыя набыткі на міжнародным узроўні. Візітоўкай нашых мастакоў і нашай зямлі назваў новы альбом Старшыня БСМ Уладзімір Савіч. А першы намеснік старшыні БСМ Рыгор Сітніца падкрэсліў, што паказаны ў альбоме ўвесь жанравы і стылёвы спектр нашай выяўленчай творчасці ёсць рэпрэзентацыяй беларускага мастацтва ў шырокім свеце. Свет павінен ведаць, што ў цэнтры Еўропы ёсць народ, які стварае мастацтва, вартае таго, каб яго ўбачыць, а мабыць, нечаму і павучыцца. Выданне ўжо мае попыт у замежных дыпламатаў, распаўсюджваецца таксама дзякуючы Міністэрству замежных спраў Беларусі.

"Дзякуй Богу, што навучыліся паважаць сябе! — з такімі словамі падышоў да мікрафона адзін з удзельнікаў праекта, жывапісец Леанід Хобатаў. — У свеце бракуе ўвагі ды павагі адно да аднаго, і для сучаснага творцы жыць у сваёй келлі — недастаткова. Тое, што адбываецца наўкола, абавязвае нас, мастакоў Беларусі, уступаць у еўрапейскую прастору, удзельнічаць у агульным працэсе — і шляхам выдання свайго альбома, прынамсі. Гэтае выданне ўносіць у наша жыццё і пэўны маральны, і дзяржаўны аспект: мы здолелі зрабіць новы крок па набліжэнні да еўрапейскага стану, яшчэ раз пацвярджаючы, што беларускае мастацтва мае права займаць годнае, належнае яму месца ў свеце. І такім чынам адкрылі для сябе перспектыву, прыняўшы новыя абавязкі, клопат пра развіццё традыцый і пра будучыню".

На прэзентацыі таксама выступілі намеснік старшыні БСМ Сяргей Цімохаў, дызайнер выдання Андрэй Савіч, аўтар уступнага артыкула мастацтвазнаўца і крытык Алесь Белявец. Ёй, дарэчы, бліскуча ўдалося выканаць няпростую задачу: напісаць дыпламатычна-памяркоўныя, з акрэсленымі ацэнкамі ды разважнымі падагульненнямі, уводзіны ў варункі ды напрамкі развіцця сучаснага беларускага мастацкага працэсу.

Тэкст падаецца на беларускай, рускай і англійскай мовах. Змешчана і добрае слова ад старшыні выканкама Міжнароднай канфедэрацыі саюзаў мастакоў СНД Максута Фаткуліна. А ўключаныя ў альбом ілюстрацыі прадстаўляюць разнажанравую творчасць амаль дзвюх з паловай соцень сучасных майстроў жывапісу, графікі, скульптуры, дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва пераважна за апошняе дзесяцігоддзе. Многія работы параўнальна нядаўна з'яўляліся і на старонках "ЛіМа" ў аглядах выставак, замалёўках пра мастакоў, рэпартажах з вернісажаў. Такую важкую (і ў літаральным, і ў фігуральным сэнсе) прыгожую кнігу, думаю, не адмовілася б набыць кожная сям'я, у якой цікавяцца сучаснай мастацкай культурай, шануюць адвечныя эстэтычныя каштоўнасці. Праўда, маё захапленне альбомам крыху азмрочылі подпісы да ілюстрацый, зробленыя не зусім карэктна з пункта гледжання менавіта сусветнай традыцыі. Як вядома, прадстаўляючы не толькі творчую асобу, але і кожнага звычайнага чалавека, прынята спачатку называць яго імя, а затым — прозвішча. Калі ж нейкія прычыны (як, напрыклад, алфавітны пералік мастакоў, чые работы прадстаўляе альбом) вымагаюць на першы план паставіць менавіта прозвішча, дык уласнае імя абавязкова трэба аддзяляць ад яго коскай. Калі гэтыя правілы парушаныя, дык замежны чытач адназначна ўспрыме першае слова ў подпісе як уласнае імя аўтара, што можа ўнесці блытаніну, скажам, у знаёмства еўрапейскіх аматараў мастацтва з творчасцю беларускіх мастакоў. Дробязь? Але ж істотная.

"Я чалавек стары і за сваё жыццё часта чуў у нашым творчым асяроддзі размовы пра тое, што хтосьці кімсьці ў чымсьці пакрыўджаны, — мудра заўважыў падчас прэзентацыі народны мастак Беларусі Георгій Паплаўскі. — Не абышлося без крыўдаў і ў гэтым выпадку. Яно і зразумела, бо рабіць "бясконцую салянку", каб у адным выданні ахапіць працу ўсіх калег — а нас далёка больш як тысяча, — немагчыма. Да таго ж, матэрыял на дысках, прадастаўлены некаторымі мастакамі, урэшце аказаўся непрыдатны для друкавання з-за банальных тэхнічных прычын. Але я нядаўна пабываў у Маскве і магу сказаць, што ў Міжнароднай канфедэрацыі саюзаў мастакоў гатовыя падтрымліваць беларусаў і надалей: за нашымі справамі сочаць, заўважаюць творчыя дасягненні прадстаўнікоў усіх пакаленняў, ведаюць нават пра поспехі тых, хто не мае ганаровых званняў. А з такім мастацкім альбомам можна ехаць у любую краіну, "ісці ў госці" са спакойным сумленнем — і з гонарам".

# Лясныя сцежкі ў творчасці мастака

Марыя ЖАБІНСКАЯ

**Самадзейны мастак Мікалай Вараб'ёў нарадзіўся ў 1931 годзе на Гораччыне, у вёсцы Рэкатка. Тут вучыўся ў школе, з дзяцінства маляваў, набываў прафесію ў Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі. Маляваў навакольную прыроду, лясы, краявіды, якія яго вельмі натхнялі, і тады, калі працаваў у Гродзенскім раёне, куды атрымаў накіраванне пасля вучобы. Лес у творчасці Мікалая Іванавіча — тэма невыпадковая, паколькі Беларусь — краіна лясная, і часам мы гэта не вельмі ўсведамляем і не цэнім. А тым больш і нагода добрая ўзгадаць пра творцу, бо Генеральная Асамблея ААН абвясціла 2011 год Міжнародным годам лясоў.**



Распавяду пра самадзейнага мастака Мікалая Вараб'ёва, нібы наўздагон пісанай гісторыі, паколькі яго прозвішча не значыцца ў кнізе "Памяць" вышэйзгаданых раёнаў, а маўчаць нельга. Я асабіста ведала яго яшчэ ў 1960-я гады. Працуючы ў Рэспубліканскім доме народнай творчасці, запрашала на выстаўкі, семінары, дапамагала майстравацъ мантаж яго персанальнай выстаўкі ў Мінску. Трыццаць яго работ захоўваецца ў фондзе музея пры Гродзенскім доме народнай творчасці. Спадчына таленавітага самародка ўвабрала лясныя далягляды, бярозкі, елкі — дрэвы нашай мясцовай прыроды.

Узгадаю 1988 год. Тады мы, удзельнікі ўсесаюзнага семінара, вярталіся з Любанскага раёна, а адзін з членаў туркменскай дэлегацыі, гледзячы ў акно аўтобуса, дзіваваў услых: "Гэта ж трэба, такая лясная краіна! Вакол бясконцы лес!" Я запярэчыла: "Дзе вы бачыце лес, цяпер наўкола дарогі, палі". А ён паказаў на пасадку дрэў уздоўж шашы і здзіўлена запытаў: "А пры дарозе дрэвы — гэта хіба не лес?". Вось чаму не дзіва, што на пейзажах М. Вараб'ёва адлюстраваны лес: пры дарозе, на полі, на беразе рэчкі ці возера, нават на выспачцы сярод вады, балота ўзвышаюцца дрэвы — наш лес, і ўсё гэта напісана алеем, акварэллю, алоўкам, пастэллю, воскам, тэмперай.

Гледзячы на карціны, створаныя Мікалаем Іванавічам, адчуваеш, нібыта праз іх праглядае гісторыя беларускага лесу. Так, на адных пададзены стройныя, танюсенькія сасонкі — то водгук пасляваенных гадоў, калі школьнікам даводзілася садзіць лес на тых мясцінах, дзе немцы спілоўвалі дрэвы — карціна "Узнімаецца пасляваенны лес".

А на алейнай рабоце "Наваколле вёскі Рэкатка" бачыш узвышаюцца маладзенькія бярозкі-самасейкі. Чаго яны ўзабраліся на вораную зямлю? Гісторыкі пра гэта скажуць — то былі часы, калі адны гаспадары кідалі сваю зямлю, з'язджалі ў горад, іншых жа звозілі сілком. Урэшце, сярод мясцовых бярозак узрастаў новы тып, у адных мясцінах людзі казалі "капа бяроза", у іншых — "карэльская бяроза". Такое дрэва мае прыгожую тэкстуру драўніны, якая вельмі падабаецца народным разьбярам.

Адметна, што мастак пакінуў даволі багатую спадчыну, якая налічвае больш як 400 работ. А лік мог бы быць падоўжаным, каб не скралі 70 карцін з хаты ў вёсцы, дзе зусім хворы творца жыў з састарэлай маці. Мікола Вараб'ёў не паспеў пры жыцці здзейсніць сваю мару — у хаце, якую пабудаваў бацька пасля вайны, стварыць музей і дзіцячую студыю. Хата стаіць, але не чутно дзіцячых галасоў — вёска апусцела. Натуральна, паўстае пытанне даволі рытарычнае. Якая ўстанова: аддзел культуры, акадэмія, лягас, а мо ўсе разам, здольныя прыняць і перавезці ў дом, і творчую спадчыну Мікалая Іванавіча, таленавітага самародка Горацкай зямлі?

***На здымку: карціна М. Вараб'ёва "Вясенняя радасць".***

**Дарадцам і кансультантам рубрыкі "Дзівасвет" выступае старшыня БСМНТ Яўген Сахута.**

**Водгукі і матэрыялы дасылайце на e-mail: lim_new@mail.ru з назнакай "Дзівасвет".**

## Творчы свет

Наталля БЕНІЦЭВІЧ

# Бывай, зіма!

Як наблізіць надыход вясны? Можна збіваць ледзяшы ці ўпарта хадзіць у поле і гукаць яе спевамі... Ёсць больш дзейсны метад. Напрыклад, наладзіць імянную вечарыну Алены Масла, вядомай беларускай казачніцы з самым маслянічным прозвішчам. Як і зрабіў паэтычны тэатр "Арт.С" у мінскай бібліятэцы імя Цёткі.

— Мерапрыемства задумвалася як гульня на назве свята і прозвішчы Алены Масла. Паколькі святкавалі пісьменнікі і музыкі, традыцыйнае спалучылася з арыгінальным. А гэта і ёсць жыццёвая разынка. А калі яшчэ і бліны пякуць, дык да жыцця дадаецца смак казкі. Якую Масла не сапсуе, — зазначыла пісьменніца Аксана Спрынчан. На вечарыне бліны пякліся і еліся адразу ж у зале. Усе жадаючыя маглі пачаставацца журавінавым кісялём — напоем жабак з кнігі "Як пані Чаротная на госці ў Палангу бегала". А тэматычна-паэтычныя "блінныя" творы надалі атмасферы асаблівы шык.

Краязнаўца і рэдактар аддзела публіцыстыкі часопіса "Маладосць" Ірына Клімковіч расказала, адкуль вушы растуць у святкаванні Масленіцы на Беларусі, і вобразна параўнала нашы традыцыі з заходнееўрапейскімі.

Напрыканцы Масленіцы было прынята прасіць адзін у аднаго прабачэння і пачынаць жыццё з чыстага аркуша. Галоўны рэдактар выдавецтва "Мастацкая літаратура" Віктар Шніп натхніў прысутных сваёй паэзіяй, а таленавітая сям'я пісьменніцы Аксаны Спрынчан і гісторыка Яраша Малішэўскага ў вершавана-музычнай форме правяла блінны майстар-клас. Экспертамі блінной справы таксама выступілі пісьменнікі Серж Мінскевіч, Юрась Нераток, пісьменніца Наталля Бучынская.

І хоць на вуліцы пакуль холадна, пасля такой літаратурнай Масленіцы ў душы цвіце вясна. Так і хочацца сказаць зіме: "Бывай!"

## Афарызм

***Жыццё – даброта. Найвялікшая даброта,***
***якая дадзена кожнаму, нягледзячы на ўвесь боль.***

**Уладзімір КАРАТКЕВІЧ**

## З глыбінкі

# З любоўю да Навагрудка

У чытальнай зале Навагрудскай гарадской бібліятэкі размясціліся карціны мясцовага мастака Яўгена Даўлюда. Гэтай, ужо трэцяй сваёй мастацкай выстаўцы аўтар даў паэтычную назву: "Я гэты край Айчынай назаву…" Прысвечана яна роднаму гораду, былой сталіцы Вялікага Княства Літоўскага, яго непаўторнай архітэктуры, дастаслаўнасцям, легендам. З кожнай карціны выходзіць любоў і замілаванне. Малітоўная атмасфера ахутвае цэрквы і касцёлы, захапленне мастака веліччу даўніны адчуваецца ў выяве славутага Навагрудскага замка. Цэлы шэраг карцін тэматычна аб'яднаны вобразам вялікага паэта Адама Міцкевіча, найвыдатнейшага з сыноў Навагрудскай зямлі.

Сам Яўген Даўлюд з'яўляецца супрацоўнікам Інфармацыйнага цэнтра Навагрудскай цэнтральнай раённай бібліятэкі. Тут яго ўсе паважаюць і цэняць. Ураджэнец Навагрудка, ён скончыў Бабруйскае мастацкае вучылішча па спецыяльнасці "рэзчык". Пэўны час жыў і працаваў у Магілёве, аднак радзіму ніколі не забываў. І ўрэшце вярнуўся ў любімы горад, каб услаўляць яго сваімі работамі.

Ён ніколі не забывае, што як жывапісец — не прафесіянал. Але землякам падабаюцца яго карціны. Яны дапамагаюць пабачыць родныя мясціны не звычайнымі і будзённымі, але адухоўленымі, велічнымі, яркімі. І — палюбіць іх.

**Яўген ЛАПЦЕЎ**

# Падарыў пісьменнік сад

Імя пісьменніка Юрыя Татарынава добра вядома ў Беларусі. Ён з'яўляецца аўтарам 30 кніг. У асноўным гэта краязнаўчыя нарысы і гістарычныя аповесці, творы, якія расказваюць пра многія беларускія гарады і мястэчкі. Пісьменнік часта вандруе па Беларусі, сустракаецца са сваімі ўдзячнымі чытачамі.

У мінулым годзе, выступаючы ў горадзе Браславе і паселішчах Браслаўскага раёна, Юрый Аркадзьевіч, натхнёны прыгажосцю маляўнічых мясцін і шчырасцю жыхароў, пасадзіў сад на турысцкай базе гімназіі г. Браслава, што за сем кіламетраў ад горада. Саджанцы для незвычайнага саду творца выгадаваў сам. Вось ужо 15 гадоў ён займаецца не толькі літаратурнай творчасцю, але і садоўніцтвам. Месца пад сад выбрана пісьменнікам прыдатнае. Летам там збіраюцца дзеці з бацькамі і настаўнікамі з самых розных куткоў Беларусі. Цяпер сад, падораны браслаўчанам пісьменнікам, сустракае першую сваю вясну. А з часам гараджане змогуць браць проста з дрэва розныя раннія гатункі яблыкаў.

"Мной кіравала жаданне яшчэ раз сказаць пра сэнс чалавечага жыцця, пра галоўную загадку, пакінутую нам Богам", — зазначыў пісьменнік.

Сапраўды, знайдзіце любімую працу, станьце прафесіяналам, пасадзіце сад, і тады гэтая святая загадка адкрыецца вам, як адкрылася яна Юрыю Татарынаву.

**Міхась ПАЗНЯКОЎ**

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў
Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА "Саюз пісьменнікаў Беларусі", РВУ "Літаратура і Мастацтва"
Галоўны рэдактар Алесь КАРЛЮКЕВІЧ



Адрас рэдакцыі:
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 284-84-61
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
Аддзелы:
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04, 284-66-71
дадатак "Кніжны свет" — 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by



Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ "Літаратура і Мастацтва".
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва".
Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку"
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Наклад 3113
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 10.03.2011 у 11.00
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7
Заказ — 1115
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12